96а *дю́жыть дошч.* 97—; *ю́жыть* — імжыць дождж. 103 *дю́жыть дошч.* 108 *дю́жыть дошч.* 109 *дю́жыть дошч; от дю́гнув дошч.* 113 *дзю́жыць — гэ дошч ідзе вэлікі.* 120а *дзю́жыць дож.* 121 *дзю́жыць дождж; вы́дзюжыць цябе дождж сёння.* 124 *аддзю́жыць* (дождж). 126 *дзю́жыць дык дзюжыць дошч, прамачыў да ніткі; прыдзю́жыў дошч.* 131 *дю́жыть дошч, здю́жыв.* 132 *от дю́жыть дошч.* 134 *обдю́жыть дошч.* 137 *дзю́жыць дож, ето велікі дож ве́льмо.* 138 *вы́дзюжыць — прамачыць да ніткі; от мяне сёгоні відзюжыў дож.* 140 *дож дзю́жыць дак дзю́жыць.* 141 *абдзю́жыў* (дождж). 142 *дошч абдзю́жыў, навулёт праслюставаў, прамачыў.*

*дзю́жыць, дзя́жыць* — моцна біць, лупцаваць; *дзёгнуць* — ударыць.

8 *дзю́гліна — тумак; яна яму даець дзюгліну ў спіну; дзю́гліка даць; дам яму ў плечы дзю́гліка; дзю́гнуць — даць кулаком у плечы; надзю́гляць — надаваць кулаком у плечы.* 50 *дзя́жыць* — моцна біць. 58 *вы́дзюжыць* — моцна пабіць; *мужык жонку вы́дзюжыў.* 75 *дзю́жыць; стаў дзю́жыць хлопца.* 81 *дзю́жыць — біць; аддзю́жыць — пабіць.* 84 *дзю́жыць* — біць, лупцаваць. 85 *дзю́жыць, дзя́жыць.* 95 *дёгнуты* (стукнуць). 98 *дёгнув* (стукнуў, ударыў). 105 *добра здзю́жыў — добра даў.* 113 *трэба ёго здзя́жыць добрэ — гэто збіць.* 114 *дзю́жыць; здзю́жыць* — ударыць, пабіць. 127 *аддзя́жыць* — моцна пабіць. 130 *вы́дзюжыць; хлапец вы́дзюжыў яго.* 134 *дю́жыть* — біць папругай. 137 *дзю́жыць* — біць; *здзю́жу, як не будзеш слухаць.* 140 *здзю́жыць* — моцна ударыць; *хтось свінку здзю́жыў, што й не ўстае.*

*дзю́жыць* — значэнне не адзначана.

4 *дзю́жыць* — слова чулі, але не ведаюць, што яно абазначае.

Адсутнасць слоў: 2, 3, 7, 8а — 18, 20, 22—27, 31, 32, 34, 37, 39—46, 48—49а, 52, 52а, 54, 56, 57, 59—74, 76, 77, 79, 80, 83, 86—89, 91, 93, 97, 99—102, 104, 106, 107, 110—112, 115—120, 122, 123, 125, 128, 129, 133, 135, 136, 139.

### Карта № 16

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЖАБУРЫННЕ*

№ 3178 «Жабурэнне: а) жабіна ікра, б) трава з дробнымі лісточкамі, раска...»

Картаграфуюцца розныя значэнні і пашырэнне слова *жабурынне.* Марфалагічныя і словаўтваральныя адрозненні пад увагу не прымаліся.

'жабіна ікра': *жабурэ́нне* 27, 45, 46, 55, 62, 65, 71, 74 (рэдка), 102, 106, 110, 116, 120а, 121, 127, 135, 137—139. *жабурэ̂нне* 61. *жабурэння* 1 (*круголачкі на вадзе́, што жа́бы напуска́юць*), 20 (*жабурэ́ння бывáя вясно́й, дзе вада́ стаіць*), 52а, 54, 58, 59, 64, 67, 69, 72, 100, 126. *жабурэнё* 48 (*гэ́тыя жа́бы адно́ жабурэнё разво́дзяць*), 50, 53. *жабурэ̂нё* 60. *жабуры́ння* 25 (*як жабы ку́ркаяць, пуска́юць жабуры́ння*), 26, 66, 68, 70, 124, 131. *жабуры́нне* 92, 111, 115. *жябуры́нне* 96. *жабурэнье* 104, 107, 112 (*у жабурэ́нье відаць заро́ткі*), 117, 120. *жабурэ́нынё* 99. *жабуры́ня* 59. *жабуры́ны* 19. *жаборы́нне* 91, 94а (*на воді, будуть ногы свербіты, гэто од застою*), 95, 103, 109, 132 (рэдка). *жаборэ̂нне* 94. *жаборэ́нне* 96а. *жабарэ́не* 97. *жабуры́не* 23. *жа́бер* 113. *жа́бур* 126, 133. *жабу́р* 140. *жа́бор* 108 (*застóяна гу́ста вода*). *жаб'я ікра* 7, 10, 31, 75, 82, 118, 123, 129. *жаб'еча ікра* 134. *жа́біна ікра* 85, 128. *жа́бына ікра* 108. *жа́біны маністы, жа́бячыя мо́ссі* 130.

'раска': *жабурэ́нне* 45, 46, 62, 65, 93, 102, 106, 121, 135, 136. *жабурэ́ння* 67, 69, 126. *жабурэ́нё* 53. *жабурэ́ня* 54. *жабурэ́нье* 104. *жабурэ̂не* 98. *жабурэ́нье* 101, 117. *жабурэ́нынё* 99. *жабурэ̂нё* 60. *жабуры́ння* 63, 70. *жабурэ́йкі* 120. *жаборы́нне* 95, 103. *жабо̂ры́нне* 90. *жаборэ̂нне* 94. *жа́бер* 114.

'ціна': *жабурэ́нне* 56 (*зялёны мох па вадзе*), 105 (*ціна на балоце, выжарына, а ў вы́жарыне пла́вае тако́е зялёна, мя́кка*). *жабурэ́ня* 51 (*па ста́ячых во́дах тако́е зялёнае, як возьмеш на палку, то цягнецца плёная яка́ясь до́ўгая*). *жабурэ́нё* 48 (*о, якоё жабурэ́нё паўрастала*). *жаборы́нне* 132.

'пракіслае малако, капуста': *жабуры́нне* 57 (*пракіслая капуста, ягады, ежа, якая ўзнялася ўверх, забрадзіла, узвягае*). *жабурэ́ня* 58 (*як паслюзня кіслая капу́ста, то ка́жуць: уся́ пашла́ на жабурэ́ня, паслюзла, зрабілася мя́ккай*). *жабурэ̂нё* 60 (*прастая́ло малако́, пракі́сло аш жабурэ̂нё пашло*). *жабурэ́нне* 122.

Іншыя значэнні: 'трава, рэшткі стравы, што аддаюць свінням' *жабурэ́ння* 77 (*сабяры і дай якога жабурэння*). 'смецце' *жабуры́* 4 (*пазбірай жабуры*). 'чырвоныя кветкі' *жабурэ́нкі* 21 (*даўней се́ілі ў гаро́ччыку ля хаты*).

Адсутнасць слова: 2, 3, 5, 8, 8а, 9, 11—18, 22, 24, 25а, 28—30, 32—44, 47, 49, 49а, 52, 73, 76, 78—81, 83, 84, 86—89, 119, 125, 141, 142.

### Карта № 17

## ЗНАЧЭННЕ СЛОЎ *ЖУ́ЖМА, ШУ́ШМА*

№ 3180 «Жужма, жужмо: а) пук нямятай трасты, канапель, б) вязанка чаго-небудзь...»

Картаграфуюцца значэнні слоў *жу́жма, шу́шма.* Фанетычныя і граматычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся. Як *шу́шма* падаецца *шу́шмо,* як *вяза́нка — вя́зынка.*

Паводле Інструкцыі неабходна было выясніць наяўнасць слова *жу́жма,* таму недастаткова поўна зафіксаваны адпаведнікі.

'вязанка, многа чаго-небудзь (куль саломы, абярэмак, куча, гурт, жменя)':

*жу́жма* 2 (*аха́пак, жу́жма адзе́жы; жу́жма се́на* — рэдка ўжываецца), 3 (*нарва́ла лёну, канаплі, лазы́ жу́жму*), 21 (*мно́га хоць чаго́: сабра́ў жу́жму гро́шай, жу́жма ану́чы, рызьзя́*), 22 (*жу́жма: лён рва́лі і ста́вілі снапкі незвя́заныя*), 24 (*жу́жма* 'куча дзяцей'; *ба́цька кі́нуў жу́жму дзяце́й*), 31 (*вы́жымкі ад канапе́ль; смітáну выжыма́юць, а вы́жымкі — жу́жма*), 37 (*жу́жма* — вязанка чаго-небудзь), 40 (*сплу́тылыся* [пра ніткі] *цэ́лыя жу́жма, як яе́ рызыбра́ць*), 47 (*жукарэ́ жу́жмаю сядзя́ць на бу́льбі, ні абратава́цца*, 69 (у выразах: *яүат мноүа, буяко́ў — жу́жмаю; гэ́тыя дзе́ці жу́жмаю бе́гаюць*), 70 (*жу́жма* 'многа' — *жу́жма мух, жу́жма пчол*), 78 (многа чаго-небудзь жывога — *жу́жма камаро́ў, мух*), 80 (*жу́жма* — пук, вязанка травы, саломы), 89 (*жу́жма* — вязанка чаго-небудзь), 92 (*жу́жма* — «горстка»), 120а (*жу́жма дзяце́й* — куча, гурт), 124 (*нарва́ў жу́жму травы́* — кучу, жменю?; *жу́жма* — куль, 20 жмень), 131 (*жу́жмо* — бярэмак ануч, жменя, вязка), 132 (мноства ілу — *жу́жма — стойіць вода́ бы мул, да вона́ тя́гныцца гэ́так, то от жу́жма тя́гныцца*).

*шу́шма* 25 (*шу́шма* — клок зблытаных нітак, *шу́шму ні́так наблы́тала*), 103 (*шу́шма* — адходы ад зярнят пры малацьбе, вязанка), *шушмо́* 96 (*шушмо́* — невялікае бярэмя саломы, хворасту, ільну і г. д.). *шу́жмо* 131 (*шужмо́* 'абярэмак ануч' 'жменя', 'вязка').

абразлівае *шушмо́* 133.

Адзначаны таксама:

'пук нямятай трасты, канапель':

*пук* 14, 42, 68, 71, 74 (*пук пянькі*), 85, 86, 104, 107, 116, 120, 135.

*пучо́к* 43, 94, 94а, 98, 108, 109, 127, 135.

*паве́сма* 7, 16. *поwе́смо* 102. *паве́сма* 108 (10 жмень), 129 (10 жмень).

*вя́зка* 6 (*вя́зка калапе́нь*), 75 (*вя́зка лёну*), 112 (*вя́ска*), 127, 140 (*вя́зка, вя́зачка*).

*вяза́нка* 4 (*віза́нка*), 77 (*вяза́нка лёну*), 14 (*вя́занка*).

*куль* 77 (*куль лёну*), 81, 82 (*куль лёну*). *ку́лік* 90.

*ку́чка* 106 (*немья́тых*), 132.

*сноп* 123, 128. *сні́п* 108. *снэп* 101.

'вязанка чаго-небудзь'

*пук* 66 (*пук лазы́*), 68, 71, 84 (*пук лазы́*), 116. *пучо́к* 127.

*паве́сма* 16 (*горсь = 40 паве́смам*) *поwе́смо* 102.

*вя́зка* 42 (*вя́зка лёну*), 129 (*вя́зка = 10 жмень*), 140. *вя́ска* 4, 35, 71, 112. *в'я́зка* 132. *ўя́зка* 135.

*ʋ'я́ска* 43. *в'я́ска* 90, 95. *в'е́ска* 98. *вя́зак* 118 (*вя́зак = 20 жмень*).

*вяза́нка* 77 (*вяза́нка лёну*), 85, 120. *віза́нка* 4, 7 (*віза́нка лёну*), 14, 75 (*віза́нка сало́мы*), 86. *в'яза́нка* 94, 94а (*в'яза́нка сіна, сало́мы*) 109.

*вя́занка* 128, 130. *в'я́занка* 108, 140. *в'я́зынка* 82.

*куль* 17, 81, 82.

*вя́зьма* 83. *вязьмо́* 85.

*бярэ́ма* 123. *бярэ́ма* 83. *бірэ́мо* 14.

Адведзены: 'пук нямятай трасты, канапель': *ву́нашэй* 135. *жме́ня* 95, *звя́сла* 52 (*зьвя́сла адзе́жы*). *пінька́* 35. *ручэ́шка* 17. *стрэ́пач* 106 (*мья́тых*).

'вязанка чаго-небудзь': *верч* 107. *вір* 64. *вясло́* 66 (*вясло́ абара́нкаў*). *горсь* 16 (*горсь = 40 паве́смам*), *жу́жаль* 139 (*жу́жаль* — добра неперагарэлае папялішча). *звя́сла* 58 (*зьвя́сла грыбо́ў*). *кулі́тка* 84 (*кулі́тка лазы́*). *мато́к* 1 (*мато́к бара́нкаў ба́цька прынёс*), 4, 8 (*мато́к абара́нкаў*). *нашу́лка* 58 (*нашу́лку травы́ прыне́сла*). *но́шка* 85, 130. *шнур* 58 (*шнур бара́нкаў купі́ў*). *шнуро́к* 52 (*шнуро́к аба́ранкаў купі́ла*).

Не зафіксавана слова *жу́жма, шу́шма*: 5, 8а, 9—13, 15, 18—20, 23, 25а, 26, 27—30, 32—34, 36, 38, 39, 41, 43—46, 48—51, 52а — 57, 59, 61—63, 65, 72—74, 76, 79, 87, 88, 91, 93, 96а, 97, 99, 100, 105, 111, 114, 115, 117, 119, 121, 122, 125, 126, 134, 136—138, 140—142.

### Карта № 18

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЖАМЕРЫНЫ* І АДНАКАРЭННЫХ З ІМ

№ 1766 «У якім значэнні ўжываецца слова жамерыны: а) адходы воску, б) аджымкі, цвёрдыя рэшткі канапель, сланечніка, ягад...»

Картаграфуюцца семантычныя варыянты слова жамерыны. Адлюстроўваюцца некаторыя адрозненні ў словаўтваральных сродках. Адметнасці ў вымаўленні асобных лексічных форм пад увагу не прымаліся. Лексемы са значэннем зборнасці, а таксама назоўнікі адзіночнага ліку падаюцца адсылачным знакам адпаведнага назоўніка множнага ліку.

Акрамя зафіксаваных адказаў, дадаткова выкарыстоўваюцца матэрыялы карты № 215 (ЛАБНГ, т. 2), прысвечанай высвятленню назвы шалупіння ад тоўчанага льнянога семя і канопляў.

На карце не пазначаюцца тыя населеныя пункты, дзе слова жамерыны не ўжываецца.

'адходы воску':

*жамэ́рыны* 99. *жіме́ріны* 80, 85, 87, 93, 94. *жымэ́рыны* 94а. *жыме́рыны* 104, 105, 110, 119, 120, 126, 128. *жмэ́ра* 97. *жуме́рына* 113.

*жаме́ры* 6, 11, 14, 25а. *ажаме́ры* 26, 28, 29.

*жаме́ркі* 36, 44, 56, 58, 63, 65—67, 71, 77, 79. *ажаме́ркі* 1. *жымірá* 31, 33.

'аджымкі, цвёрдыя рэшткі канапель, сланечніка, ягад':

*жаме́рыны* 14—16, 26, 27, 36, 43, 46, 57, 58, 64, 65 (ад канапель), 67, 68, 72, 77, 94, 104, 110, 118, 120 (рэдка), 126. *жаме́раны* 25. *жамэ́рыны* 56, 62. *жаме́ріны* 44. *жаре́міні* 119. *жыме́рыны* 95. *жо̂мэ́рыны* 93. *жме́рыны* 94. *жаме́рына* 17. *жаме́ріння* 32. *жаме́рга* 57. *ажаме́рыны* 10. *ажме́рыны* 60.

*жаме́ры* 15, 21, 23, 24, 25а, 26, 28, 30, 35, 38, 69, 71, 73 (ад канапель), 74, 77, 80, 82, 123. *жа́мéры* 37. *жмэ́ры* 97. *ажаме́ры* 1 (даўней). *ажаме́р'е* 10, 11. *жаме́ра* 19. *жъмярá* 13. *жаме́рніцы* 20. *жаме́ркі* 84, 86. *зяме́ркі* 40 (ад канапель). *ажаме́ркі* 1 (даўней), 7.

### Карта № 19

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЗАГНЕ́Т*

№ 3182 «Загнет: а) прыпечак, частка печы, б) дробныя трэсачкі, палачкі, якія паляць спераду печы, каб запякаўся хлеб...»

На карце супрацьпастаўляюцца розныя значэнні слова *загне́т*.

'дробныя трэсачкі, палачкі, якія паляць спераду печы, каб запякаўся хлеб' *загне́т* 5, 6, 8, 22, 24, 25 (*хлеп, як пячэцца і духу мала, то ложаць загне́т*), 25а, 26, 27 (*як ба́ба ўса́дзя хлеп у печ, закіня загне́т з сало́мы альбо трэ́скі, каб буха́нкі хле́ба ахваціла*), 28, 30, 31, 37, 47 (*кінула трасачо́к на загне́т, кап хлеп пе́кса*), 49а, 51 (*як са́дзім хлêп, загне́т падкіда́юць у чэ́люсці, кап хлеп зарумя́ньваўся, запяка́ўся*), 54, 57, 59, 64, 68, 74 (*закінь загне́т, кап хлеп запеко́ўся*), 77 (*падкінь загне́ту ў печ*), 85, 100, 101, 104, 105 (*с трэсак, кап хлêп загарэ́ў*), 116, 118, 119, 120, 120а (*закі́нь загне́ту*), 121, 124, 127, 142 (*калі пячэш булку і выгарала, то закідаем трэсачкі, а то булка бу́дзе загне́цена*). *загнёт* 60, 110. *загнёт* 141 (*калі пячэш хлеб, то падкідаеш трэсачкі, жар выграбаем, а потым садзім хлеб, ён запякаецца*). *загніт* 94а (*загніт — в печы жар пе́рэд хлі́бом*), 95. *загне́тка* 57.

'прыпечак, частка печы': *загне́т* 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 21, 29, 31, 33, 34 (*пъста́ў нъ загне́т чъгу́н, а ў печ я съмá*), 35, 36, 37, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 45, 49, 54, 71 (*палажы́ на загне́ця трэ́скі, кап хлеб запе́кся*), 73, 74, 75, 78, 80, 81, 83, 84, 85, 86, 87 (*пыстаў цыгун ны загнет*), 88, 89, 92, 123, 125, 128. *загне́тка* 1, 32. *загнетко* 139.

'напал у печы': *загне́т* 2 (*як аганёк невялічкі гарыць у печы, усадзіш хлеп, духу малавата — загне́ту малавата, нешта загне́т не бярэць, нада трэ́сак закінуць*), 23 (*вялікі загне́т у печы, папера сатлела, можна хлеп садзіць*).

'добра запечаны хлеб': *загне́т* 22, 53 (*калі ў печку садзяць хлеп, ён падрумяніцца, з'явіцца скары́нка, гавораць: заня́ўся загне́т*). *загнёт* 69 (*як пяклі хлеп ды до́бра зару́мяняя, до́бра зага́руя, а як ко́ліцца, то казáлі німá загнёту*). *загне́т* 142 (*калі пячэ́ш бу́лку і вы́гарала ўжо, то закі́даеш трэсачкі, а то булка бу́дзе загне́цена*).

Іншыя значэнні: 'дужка ў кошыку' *загне́т* 54. 'ніша пад прыпечкам' *загне́т* 129. 'камень на агуркі, капусту' *загне́т* 113. 'лазовыя кіёчкі, з якіх распальвалі агонь у хаце' *загне́т* 114. 'верх полымя' *загніт* 132 (*загніт прыся́дэ*).

Адсутнасць слова: 3, 4, 8а, 9, 18, 19, 20, 38, 46, 48, 50, 52, 52а, 55, 56, 58, 61, 62, 63, 65, 66, 67, 70, 72, 76, 79, 82, 90, 91, 93, 94, 96, 96а, 97, 98, 99, 102, 103, 106, 107, 108, 109, 111, 112, 115, 117, 122, 126, 130, 131, 133, 134, 135, 136, 137, 138, 140.

### Карта № 20

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЗЁЛКІ*

№ 3185 «Зёлкі: а) пустазелле, б) лекавыя травы, в) лякарства, настой траў...»

Картаграфуюцца розныя значэнні і пашырэнне слова *зёлкі*.

'лекавыя травы' : *зёлкі* 1 (*лікáрственныя трáвы, збірáюць і ле́чуць імі*), 2 (*да Яна зёлкі збірáюць, гэ́та мо́цная лекáрства*), 3, 4, 7, 8а, 9, 10 (*зёлак уся́кіх насушыла*), 18, 19, 21, 22, 26, 28, 29, 31, 35, 49а, 51—55, 57, 59, 60, 63, 64, 68, 70, 71, 94, 96а, 104. *зя́лкі* 139. *зе́лкі* 50.

'лякарства, настой траў': *зёлкі* 3, 8а, 18, 19, 20 (*зёлак навары́ў, напі́ўся*), 23, 26, 29, 34, 35, 52, 52а — 54, 57, 58 (*мо́жа ў цябе́ якія зёлкі ёсць, нешта мне жыво́т балі́ць*), 59, 61, 63, 65, 66 (*купіла зёлак у аптэцы*), 68, 71, 94.

'пустазелле': *зёлкі* 8а, 18, 30, 59.

'трава': *зёлкі* 16, 58.

Іншыя значэнні: 'маладыя шышкі на хвоі': *зёлкі* 141. 'свянцоная трава': *зёлкі* 8. 'краскі': 6 (*уся́кія кра́скі: і палявы́я зёлкі, і ў агаро́ччыку зёлкі, і ў ле́сі расту́ць зёлкі*). 'кмен' *зя́лкі* 76.

Адсутнасць слова: 5, 11—15, 17, 24, 25, 27, 32, 33, 36—49, 56, 62, 67, 69, 72—75, 77—93, 94а, 95—140, 142.

### Карта № 21

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЗЕЛЛЕ*

№ 3185 «Зелле: а) усякае пустазелле, б) лекавыя травы, в) лякарства, настой траў...»

На карце супрацьпастаўляюцца розныя значэнні слова *зелле*.

'усякае пустазелле': *зе́лле* 21, 28, 37, 38, 48 (*зе́ллем увесь агарод парос*), 74, 86, 88, 102, 116, 138, 139, 140, 142. *зе̂лле* 94. *зе́ле* 45, 46, 93. *зе́лля* 8а, 10 (*зе́лля ў ячме́ні мно́га*), 11, 12, 14, 17, 26, 31, 34, 39, 40—44, 63, 66, 73, 80—82, 84, 85, 120, 123, 127, 137. *зе́ля* 47, 49, 52а, 59, 100. *зе́лё* 53, 55, 56, 60. *зе́льля* 54, 65, 67, 101. *зе́лье* 49а, 62, 104—106, 110, 112—114, 117, 125, 134—136. *зе́льле* 72, 115. *зе́льё* 50. *зі́лле* 90, 92 (рэдка), 94а, 95, 96, 96а (*зі́лле помогло́, докторы́ вжэ лычы́ты одказа́лыся*), 97, 103, 108, 109, 132. *зі́ле* 98. *зі́льле* 131. *зі́лье* 137. *зы́лле* 91. *зы́ло* 92. *зело́* 109. *зяло́* 118.

'лекавыя травы': *зе́лле* 25а, 37, 48, 74, 86, 88, 102, 116, 118, 126, 128, 138, 140. *зе́лля* 8, 8а, 11, 14, 16, 17, 22, 24, 25, 26, 27, 29, 32, 33, 35, 36, 38, 42, 57, 68, 69, 73—77, 80—82,

85, 87, 89, 119—124, 127, 129. *зéльe* 61, 104, 105, 110, 112—114, 117, 133—136. *зéльям* 67, 101. *зéлё* 56. *зéля* 47. *зéльля* 72. *зéльле* 115. *зілле* 90, 92, 95, 96, 97, 108, 109, 132. *зілля* 103. *зіле* 98. *зылле* 91. *зелó* 109. *зылó* 92. *зілó* 96. *зэ́ла* 131.

'лякарства, настой траў' *зéлле* 9, 14, 17, 21, 28, 31, 37, 38, 48, 74, 86, 88, 102, 116, 126, 128, 137, 140. *зéлля* 8, 8а, 10 *(схадзі, уну́чка, зéлля мне купі, дóктар сказáў піць)*, 11 *(купі зéлля ў Вушáчы ад грыба)*, 13, 16, 24, 25, 26, 27, 29, 32, 33, 35, 36, 40, 41 *(у яе ўся́къга зéлля ат любэ́й балéзні)*, 42—44, 69, 73, 75, 77, 78, 79 *(ныбрáла зéлля аж на тры рублі, а ці памóжа, ці не)*, 80, 81, 84, 85, 87, 89, 118—124, 127, 129. *зéльe* 57, 61, 62, 104, 105, 110, 112, 113, 125, 134, 135. *зéля* 47, 49, 59, 100. *зéля* 2, 20 *(зéля накупля́ла ў аптэ́цы)*. *зéле* 93. *зéлья* 67. *зéлё* 55. *зілле* 90, 92 (рэдка), 95, 96, 97, 103, 108, 109, 132. *зіле* 98. *зылле* 91. *зіло* 96. *зелó* 109. *зылó* 92. *зéллё* 111. *зéльле* 115.

'насенне пустазелля' *зéлле* 12, 13, 16, 33, 39, 44.

'адходы пры веянні збожжа' *зéлля* 40, 83.

'трава' *зéле* 45. *зéлле* 141. *зéльe* 133.

Іншыя значэнні: 'кветкі' *зéльe* 112.

Адсутнасць слова: 130.

## Карта № 22

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ІМЖА* І ЯГО ВАРЫЯНТАЎ

№ 1889 «У якім значэнні ўжываецца слова імжа (жэмжа): а) дробны дождж, б) мноства, цьма машкары...»

На карце адлюстроўваецца значэнне слова *імжа* і шэрагу аднакарэнных назваў у іх асобных фанетычных і словаўтваральных варыянтах. Адзначаюцца таксама словазлучэнні і выразы ў падобных значэннях. Але падаюцца яны толькі ў спісе. Трэба заўважыць пры гэтым, што дадзены спіс з'яўляецца няпоўным. Выкарыстанне такіх словазлучэнняў як *дрóбны дождж* ці *мнóга (цьма, багата* і да т. п.) *камароў* пашырана на ўсёй Беларусі.

Пры картаграфаванні не прымалася пад увагу наяўнасць ці адсутнасць прыстаўнога галоснага *і* ў межах асобнай назвы. Як *імжá* падаецца *імгá,* як *імжэ́ль — мжэнь.*

Не паказваюцца спецыяльна на карце тыя населеныя пункты, дзе лексема *імжа (жэмжа)* і аднакарэнныя з імі не былі зафіксаваны.

'дробны дождж': *імжа* 23, 29, 32—36, 40—46, 53, 57, 61, 65, 67—69, 71, 72, 74, 75, 82—84, 86, 96а, 97, 110, 115, 121—125. *мжа* 60, 87, 92, 93, 95, 101, 102, 108, 111, 128, 131. *йімжá* 79, 89, 111, 112, 126. *лжа* 140. *імгá* 64, 123.

*імжáка* 11, 26, 29, 35, 37, 38, 73. *йімжáка* 10, 70. *мжáка* 30, 31.

*мжáчка* 78, 90, 91.

*імжэ́ль* 81, 118. *мжэль* 118. *мжэнь* 128.

*імжáк* 63, 76, 80.

*імглá* 1 *(дóжджык заімгліў)*, 7, 8 *(імглá імгліць, му́сіць дошч бу́дзіць)*, 9, 14, 16, 59, 66, 105, 116. *мгла* 18, 55, 56, 94а, 99, 132.

*мгйч* 96.

*імлá* 47, 49, 54. *йімлá* 50. *мла* 48.

*міглá* 4, 52, 107, 113, 117, 135. *мыглá* 2, 3, 22, 24, 25а, 52а, 62, 106. *мъглá* 17. *муглá* 138.

'мноства, цьма камароў': *імжá* 20, 54, 129 *(наляцéла імжá дрóбная)*. *йімжá* 85, 89. *мжа* 60, 109 *(мжа — комарі, мошкі, йе лізе по ногáх, в вóчы)*, 132.

*імглá* 28.

Іншыя значэнні: *мыглá* 'невялікі туман' 21 *(тумáн чуць-чуць — мыглá)*. *імжа* 'шмат нейкай непажаданай драбязы' 51 *(імжá — мнóго дрóбного чагó* і *нежадáного)*. *імжа* 'ападанне інея' 9 *(імжа зімóй, як сыплецъ іней)*.

Адзначаны таксама іншыя словы ў значэнні 'дробны дождж': *дождж* 12. *рось* 79. *мóрысь* 85. *мóрось* 137. *морóжыт* **дошч** 94. *муру́жеть дошч* 98. *дóшчык мжыть, курыть* 103. *дош марасіць* 120а. *мрáка* 127. *дрóбны дождж* 129, 130, 136. *дрóбны дóшчык* 142.

Іншыя словы ў значэнні 'мноства, цьма машкары': *мóшак мнóга, як імжы́* (даўн.); *мóшкі ту́чамі ляту́ць* (сучасн.) 6. *цьма машкарэ́й* 7. *мъшкá* 12. *машкарá* 17. *смызá* 19. *мнóга машкары́* 28. *тóлькі мóшак, як імлы́* 49а. *жма машкарóў наляцéла* 58. *зáядзь, машкарá* 77. *ціжба мóшык* 84. *цьма машкары́* 88. *мóшка* (зборн.), *мошкаря́* 90. *громадá комарóў, слепакі громадóй* 94. *кумарэ́ча, мошкорá, зáйедзь, гонóза* 102. *стовп мóшок, клубóк мóшок* 103. *гмозь, му́шкы, як мжа* 108. *москóль* 113. *мóшок, як імглы́* 116. *мóшкі, зáядзь* 117. *машкарэ́ча, машкатá* 118. *багáта мóшак, камарэ́ча* 119. *мух цьма* 120а. *машкарá, як імга, зáйідзь* 123. *машкарá* 127. *ру́я* 140. *мóшкі лятáюць* 142.

Адсутнасць фіксацыі слова *імжа:* 5, 13, 15, 25, 27, 39, 100, 104, 114, 120, 122, 133, 134, 139, 141.

## Карта № 23

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КÁДАЎБ* І ЯГО ВАРЫЯНТАЎ

№ 1716 «У якім значэнні ўжываецца слова кадаўб: а) частка ствала для калоднага вулея, б) бочка, выдаўбаная з калоды...»

Картаграфуюцца семантычныя варыянты слова *кáдаўб.* Акрамя гэтай лексемы, збіральнікамі былі зафіксаваны яе некаторыя адпаведнікі. Аднак спіс сінонімаў няпоўны. Таму на карце адлюстроўваецца толькі найменне кадаўб у яго асобных фанетычных і словаўтваральных варыянтах.

Пры картаграфаванні ўлічваюцца таксама некаторыя адрозненні ва ўжыванні націску. Як *кадóўб* 'бочка, выдаўбаная з калоды' падаецца *кáдуб, кадáўб,* як *кадаўбéц — калду́бэць,* як *кáдаўба — кадаўбá.* Не паказваецца асобна чаргаванне санорных зычных *л/й,* а таксама метатэза ў формах слова *кáдлуб.* Не адлюстроўваецца на карце спецыяльным знакам адсутнасць фіксаванага слова. Адводзіцца ад картаграфавання назва *кáдаўб* 'калодны вулей', бо характарыстыцы гэтай лексемы і яе сінонімаў прысвячаецца некалькі карт з раздзела «Пчалярства» Інструкцыі... (Гл.: ЛАБНГ, т. 1, к. №№ 305—307).

'частка ствала дрэва для калоднага вулея': *кадóўб* 59, 85, 130, 133, 139. *кодóўб* 107.

*кáдаўб* 53, 77, 110. *кáдоўб* 67, 80, 93, 94, 101, 104. *кáдовб* 94а. *кáдôвб* 113. *кáдаўп* 68, 72, 99.

*кадаўбéц* 62.

*кадаўбá* 36. *кáдыўба* 40.

*кáлдуб* 131. *кóлдуб* 96. *кáйдуп* 98.

'бочка, выдаўбаная з калоды': *кадóўб* 31 *(кадóўб выдзяўбáюць як кадзь)* 46, 48 *(кадóўб упускáлі ў зямлю у лéсе, на сенажáці. Там у ёй была вада)* 52а, 59 (устар.), 60, 85, 135, 136, 138. *кадóўп* 65. *кодóўп* 107.

*кáдаўб* 49а, 50 *(кáдаўб — выдаўбелая бочка, міска)*, 51, 53, 69—71, 76, 116, 121 *(кáдаўб для усыпішча, ліпава бочка)*, 122, 127. *кáдаўп* 54—56, 58, 68, 72, 111. *кáдоўб* 67, 80, 93, 102—104, 106, 114, 117, 118, 121, 132, 137, 140. *кáдоўп* 112. *кáдовб* 94а, 108, 109. *кáдôвб* 113. *кáдôўб* 134. *кáдуб* 23. *кадáўб* 126.

*кáдаўбец* 11. *кáдаўбіц* 10.

*кадаўбéц* 62, 132. *кáлдубэць* 131.

*кáдуўба* 39, 44. *кáдыўба* 40 *(каду́шка з бальшóга дзéрыва — кáдыўба)*, 79 *(выдаўбаная калóда для жлу́кта, для крыніц)*. *кáдъўба* 41. *кадаўбá* 36.

*кáдуба* 32, 33.

*кáдлуп* 20 *(кáдлуп — бóчка, выдлубаная з калóды)*. *кáйдуб* 90. *кáйдуп* 98. *кáлдуп* 92. *кóлдуб* 96. *кáдлуп* 95.

Іншыя значэнні: *калдубя́начка* 'маленькая дзежачка з клёпак' 6. *кáдоўб* 93 *(на ім трапáлі лён)*. *кáдаўб* 'посуд для ссыпкі збожжа' 61.

Адзначаны таксама іншыя словы ў значэнні 'частка ствала для калоднага вулея': *даўбя́нка* 3. *дупля́нка* 25а, 75. *калóда* 29, 35, 86. *кôлóда* 90. *колóда* 95, 108. *колу́дка* 132. *дупля́тыя калóдка* 84. *борць* 118. *цéлеш* 129. *цéлеш на кáдаўб* 127. *цурбáк* 128.

Іншыя словы ў значэнні 'бочка, выдаўбаная з калоды': *дупля́нка* 1 *(дупля́нкі дзéлалі альхóвыя, ліпóвыя)*. *даўбя́нка* 3. *даўбáнка* 17, 79, 86, 123 (яловая), 128. *даўбёнка* 35. *кáтка* 16. *кáдка* 29. *каду́шка* 79, 84, 128. *кáдушка* 75. *ліпуўка* 29. *ліпаўка* 31, 37, 79. *калóда* 59. *напóл* 86. *бóдня* 96а. *лу́бка* 129. *бóчка* 133.

Адсутнасць фіксацыі слова *кадóўб* і яго варыянтаў: 2, 4, 5, 7—9, 12—15, 18, 19, 21, 22, 24—28, 30, 34, 38, 42, 43, 45, 47, 49, 52, 57, 63, 73, 74, 78, 82, 83, 87—89, 91, 97, 115, 119—120а, 124, 125, 141.

Адведзены: *ка́даўб* 'калодны вулей':66, 81 *(вы́даўбаны ву́лей)*, 105 *(ка́даўп — кало́да для пчол)*, 100 *(ка́доўб — стая́чы кало́дны ву́лей)*, 142 (кадо́ўб — калодны вулей).

### Карта № 24

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КАЛАТОЎКА*

№ 3190 «Калатоўка: голае неўрадлівае поле...»

На карце адзначана пашырэнне і значэнне слова *калатоўка*. Адведзена ад картаграфавання назва *калатоўка* ў значэнні 'бесталковая жанчына'.

'прылада, якой размешваюць ці таўкуць што-н.': *калато́ўка* 1 *(кашу таўклі калатоўкай)*, 2 *(калато́ўка была́ зацірку міша́ць, рабілі с сасо́нкі, ствол і сучкі)*, 4 *(калато́ўка разбіваць бу́льбу ў гаршку, кісе́ль)*, 7 *(вазьмі калатоўку і ўчыні хлеп)*, 8 *(кашу мясілі)*, 10 (таўчы бульбу; *'укінуць калатоўку'* — пасварыць людзей паміж сабой. *Ужо ўкінула калато́ўку, нагаварыла мужыку́, а тыя цяпе́р сва́руцца)*, 11, 14, 17, 25а, 26, 27 *(што ба́ба зацірку кало́ціць)*, 32, 36, 37 *(ёсць па́лачка з сучка́мі і кру́цяць яе і закалачваюць куле́ш)*, 38, 52а, 53, 56, 57, 58 *(калато́ўкай булён кало́цяць, гарбу́с як ва́раць)*, 61, 62, 63, 64, 66, 68, 79, 105, 117, 130, 131. *калатôўка* 65 *(калатôўкай калаціць саладу́ху)*. *къ̀латóўка* 5, 8а, 9, 12, 13, 15, 33, 34, 39. *кылато́ўка* 29, 35, 42, 87.

'свірэпа, трава з шышкамі': *калато́ўка* 40, 70 *(на бало́ці дзе такія высокія калатоўкі растуць)*.

'голае, неўрадлівае поле': *калато́ўка* 21 *(як адмокніць на полі, лы́сіна бываіць, то недасеяць, то каме́нне — тады калатоўка)*, 61, 107. *кылато́ўка* 16.

Іншыя значэнні: 'сварка, бойка' *кылато́ўка* 16. 'нізкія і грубыя дрэвы' *калатоўкі* 20. у выразе *'ятроўкі — калатоўкі'* 30. 'неразумны чалавек' *калатôўка* 60. 'рухавая дзяўчына' *кылато́ўка* 83. 'зрубленае дрэва' *калато́ўка* 88.

Адсутнасць слова: 3, 6, 18, 19, 22—25, 28, 31, 43—52, 55, 59, 67, 69, 71—78, 80—82, 84—86, 89—104, 106, 108—117, 119—129, 132—142.

Адведзены: 'бесталковая жанчына' *калато́ўка* 53, 54, 79.

### Карта № 25

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КАЛІ́ЦЬ*

№ 3192 «Каліць: а) бяліць вапнай печ, б) выгаварваць абіду, паносіць, в) напальваць да чырвані, гартаваць...»

Картаграфуецца значэнне слова *каліць*. Суфіксальныя і прыставачныя ўтварэнні дзеяслова пад увагу не прымаліся. Не дыферэнцыруюцца формы закончанага і незакончанага трывання.

'бяліць вапнай печ': 90—92, 96, 96а (бяліць хату), 108, 117, 132, 133.

'напальваць да чырвані' 1, 2, 5, 9, 14, 15, 17, 20, 23, 31, 32, 34—37, 39, 45—48, 49а, 51, 52а, 53—55, 57—61, 64, 65, 67, 69, 70, 73—77, 81, 82, 84, 86—88, 90—94, 94а (рэдк.), 95, 96, 101—106, 108—110, 113—116, 119, 120, 123, 125, 129, 130, 132, 134, 135—137, 139, 142.

'гартаваць': 2, 4, 6, 8, 12, 13, 15—18, 20, 24, 25, 29, 31, 35—38, 40—42, 44, 47, 48, 53—58, 60—62, 64, 73—77, 80—82, 84—86, 88, 90, 92, 94а (рэдк.), 95, 96, 102, 103, 107—109, 122, 123, 125, 127, 128, 132, 134—138, 140.

'запэцкаць граззю':113, 114.

Іншыя значэнні: 'выгаворваць крыўду, аблаяць' :45. 'прапускаць зерне праз агонь': 95.

### Карта № 26

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КАНУ́Н* І ЯГО ВАРЫЯНТАЎ

№ 1773 «У якім значэнні ўжываецца слова канун: а) настойка з хмелем, б) абрадавая страва на памінках...»

Картаграфуюцца семантычныя адрозненні ва ўжыванні слова *канун*. Акрамя гэтай лексемы, на карце адлюстроўваюцца таксама іншыя назвы, якія ўжываюцца ў значэнні 'мядовая настойка з хмеля', 'абрадавая страва на памінках'. Пры картаграфаванні яны аб'ядноўваюцца агульным адсылачным знакам, іх лексічныя формы не дыферэнцыруюцца.

Населеныя пункты, дзе слова *кану́н* і аднакарэнныя з ім не былі зафіксаваны збіральнікамі, на карце не падаюцца.

'мядовая настойка з хмелем':*кану́н* 83, 85, 126 *(ужэ́ немá кану́ну, папілі)*, 128.

'абрадавая страва на памінках':*кану́н* 13, 26, 35, 36, 38, 62, 63, 65 (абрадавая страва з хлеба і салодкай вады на памінках — *кану́н*), 67 (*кану́н* — мёд або цукар з вадой, туды ўкінуты абаранкі, на памінках страва), 68 *(мёт кладу́ць у ваду́, пяку́ць по́сны праснáк, крышаць у вадзічку — гэта кану́н)*, 70 (страва з мёду, з малака, як памінаюць памёршага — *кану́н*), 72 (*кану́н* — яда з мёдам, якую падавалі на памінках), 79 (*кану́н* — мядовая вада для памінак), 80 (*кану́н* — абрадавая страва: развесці мёд з халоднай вадой, накрышыць хлеб. Ужываецца на памінках), 83, 84, 85, 86 *(кану́н — све́жая ляпёшка, засало́джваюць мёдам ваду́, ляпёшка кро́шыцца ў ваду, каждый абізацільна каб паку́шаў)*, 89 (*кану́н* — блін, памазаны мёдам, які ядуць на памінках), 94а *(кану́н — як вмрэ чоловік, буб* (боб) *по тры ра́зы в рот, весь буб)*, 110 *(кану́н — на памінках ме́ду развядзём, булкі накрышым)*, 111 *(кану́н пры пахаро́нах: вада на мёдзе з накры́шаньмі бу́лкамі, абара́нкамі)*, 114, 116, 118, 121 (*кану́н* — вада з мёдам, якая падаецца на памінках), 125, 126 (*кану́н — вада з м'е́дам;* падаецца на памінках), 128, 129, 130, 134, 135 *(кану́н, як умрэ́, то ро́бяць кану́н, ета мядо́вая вада — сытá)*, 140 (*кану́н* на памінках, як пахаваюць).

*кану́на* 37 (мёд, разведзены вадой, або ў клёцках з малаком), 66 *(кану́на — сало́дкая вадá і праснáк, як пахавáюць мерцвякá, яду́ць кану́ну)*, 69 *(кану́на — сало́ткая вадá з цёртым мáкам, е́лі з праснако́м (крышылі кусо́чкамі)*, яда звязана з пахавальным абрадам), 73 (*кану́на* — страва на памінках), 76 (на памінках — *кану́на* — вада з мёдам і кавалачкамі белага хлеба), 115 *(кану́ну дзе́лаю з мьёду на по́хараны)*, 119 *(кану́на — сало́дкая вадá з сáхарам ці мёдам і з бе́лым хлебам;* ужываецца і цяпер на абедзе пасля пахавання), 122.

*кано́н* 28, 31, 71 *(як харо́няць чалавéка, ро́бяць кано́н — вадá з мёдам і хлéба туды)*, 82, 104 (*кано́н* — вада з мёдам і накрышанай туды булкай), 123.

*акано́н* 25 (страва па пакойніку — клёцкі з салодкай вадой), 74.

'фэст':*кану́н* 108 *(на прэсто́льный прáзнык, на свя́ток, открываé кану́на, закупля́е всего́ і продаé, два-тры дні гуля́ют, оды́н-двох в селі открываю́т; гéто як лáвочка на днів тры)*, 109 *(кану́н — прэсто́льный прáзнык, два кану́ны: Мыко́ла (на весні), Прэчыста (во́сені)*, 132 (канýн — *о́сыннюю на Мыхáйла в нас сьвя́ток; в когó мед йе — насытять бо́чку ме́ду, чы купля́е мед, ме́ду насытылы і хо́дім на кану́н, купля́ють во́ду сытяну, а гро́шы з го́да на год од сусі́да до сусі́да, на Мыхáйла продаю́ть)*.

Іншыя значэнні: 'куцця і ўсялякая іншая страва' *кану́н* 108 *(кут'á і всегó вся́кого)*. Нявызначанае значэнне: ***'канун'—дык ета к но́чы нáда іці́ць на магі́лкі, а ня днём*** 13.

Іншыя назвы ў значэнні 'мядовая настойка з хмелем': *сытá* 77, 81, 107, 115, 134, 135, 137. *сы́тяная вадá* 109. *(як нымá ме́ду, то цу́кор)*, 132. *мядо́вая сытá* 61. *медаву́ха* 14, 84, 86, 127. *мідаву́ха* 8а, 75. *мяду́ха* 139. *медаві́ца* 125. *медо́ва горилка* 94. *мядо́вая брáжка* 7. *мыᵉдо́ва брáжᵚка* 103. *брáжка* 17, 29, 90, 106, 140. *квас* 35, 90. *пергá* 142. *кру́пнік* 45. *васкавіца* 124. *васкажáціна* 129.

Іншыя назвы ў значэнні 'абрадавая страва на памінках':*сытá* 2, 29, 75, 77, 81, 84, 102, 106 *(гаро́х з мьёдам і водá)*, 107, 117 *(сытá такáя, як помрэ́ хто, гату́юць)*, 118, 120, 124, 127, 135. *сітá* 113. *сы́тка* 67. *всё по́сне (всё по́сне: кысы́ль, гру́шы, грыбы́, галу́шкы з мáком, кутя́, кôнôпля́на смытáна)* 90. *квас, быб, кáша* 95. *кáша, мед, квас* 109. *ко́лыⁱва* 98. *каплу́н* 103. *потáцы* 102, 133. *куцця́ з мёдам* 14. *куцця́* 17 (пшанічнае варанае зерне, размяшанае вадой, куды дадаецца мёд). *кутя́* 103. *обі́д* 101. *мяду́ха* 139.

Адсутнасць слова *кану́н* 'мядовая настойка з хмелем': 1, 3—8, 9—12, 15, 16, 18—28, 30—34, 36—44, 46—52, 53—60, 62—67, 76, 78—80, 82, 87—89, 91—100, 112, 120, 133, 134, 137, 138.

Адсутнасць слова *кану́н* 'абрадавая страва на памінках': 1, 3—12, 15, 18—24, 25а, 27, 30, 32—34, 39—60, 64, 78, 87, 88, 91, 92—94, 96—97, 99, 112, 138, 142.

**Карта № 27**

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КАНЧА́Р*

№ 3193 «Канчар: а) кароткая папярочная баразна, б) сук, галіна дрэва...»

Картаграфуюцца розныя значэнні і пашырэнне слова *канчар.* Назва *канча́рык* пададзена як *канча́р.*

'кавалак чаго-небудзь': *канча́р* 18 *(дай пацягнуць канчара́),* 19 *(канча́р баразны́ апало́ла),* 20 *(папілава́ла канчары́ на дровы),* 23, 49 *(дра́згу па́ліш — ні дагарэ́ла — канчар асто́ўса),* 51, 52, 52а, 53 *(канча́р грады́ аста́ўся — трэба што пасадзіць),* 54, 56, 58, 60 *(канча́р каўбасы́ яшчэ́ вісіць),* 61, 63 *(аста́ўся канчар поля),* 64, 66, 69, 99, 100, 105 *(як пілілі дзе́рава, заразалі канчарыэ),* 142. *канчу́р* 6, 21, 22, 25 *(канчу́р баразны́ нявы́бранай бу́льбы),* 70. *канча́рык* 19 *(адарва́ла канча́рык ніткі),* 51 *(канча́рыкі трэба падажына́ць),* 52 *(недакапа́лі канча́рык баразны́),* 52а.

'кароткая папярочная баразна': *канча́р* 45 *(бо́разны пакапа́лі, асталіса канчарэ́ выбраць),* 47 *(канчарэ́ пазараста́лі, пало́ць трэ́бо),* 49а, 52а, 53, 54, 57 *(калі ўчастак ідзе́ клінам, канчары́ астаюцца),* 60 *(ко́нчылі саджа́ць карто́плі, асталіся адны́ канчарэ̂),* 61. *канча́рык* 57. *канчу́р* 27, 59, 70. *каньчу́р* 74.

'сук,: галіна, дрэва' *канча́р* 45 *(канчарэ́ ў ле́се папалілі),* 47 *(канчарэ́ сука́ адламаліса),* 48 *(глядзі якія до́брыя канчарэ́ ляжа́ць, забра́ць трэба).*

Адсутнасць слова: 1—5, 7, 8, 9—17, 24, 25а, 26, 28—44, 46, 50, 55, 62, 65, 67, 68, 71—73, 75—96, 97, 98, 101—104, 106—141.

**Карта № 28**

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КАСЦІ́ЦЬ*

№ 3195 «Касціць: а) лаяць, б) псаваць да знішчэння...».

Картаграфуюцца значэнні слова *касціць.* Паколькі лексема ўжываецца на абмежаванай тэрыторыі Беларусі, то на карце падаюцца толькі тыя н. пп., дзе яна была зафіксавана.

'лаяць':6, 7, 10, 11, 14—17, 27 (рэдк.), 28, 35, 44, 52а, 78, 81, 92, 119 *(закасціла).*

'псаваць да знішчэння':7, 44, 75 *(закасці́ць, касці́ць),* 92.

'біць, караць':8, 25 *(до́бра пабіва́ць па касця́х).*

Іншыя значэнні: 'зліквідаваць і падзяліць маёмасць':9. 'адолець, перамагчы каго-н. у гутарцы': 21. 'збіць, ссячы (пугай)': 35 *(сасцёбыць пу́шкый* (пугай) *траву́, скасува́ць).* 'засмучаць каго-н., станавіцца прычынай яго хваравітага стану': 81. 'журыцца': 106 *(гору́е).*

**Карта № 29**

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КЛЁК*

№ 3197 «Клёк: а) сялёдачны расол, б) сіла, моц, крэпасць, в) сок з ягад...»

На карце супрацьпастаўляюцца розныя значэнні слова клёк.

'сіла, моц, здароўе':*клёк* 2, 5 *(кап табе́ клёк),* 6 *(кап табе́ такі́ клёк, як ты зрабі́ў),* 8 *(вы́цігнуў ты з яго́ ўвесь клёк),* 8а, 12, 14, 15 *(увесь клёк вы́ціснуў),* 19 *(збі́ў яго́ — адабра́ў клёк),* 21 *(кап ты клёку ні ўзя́ў! Ці скацё як састарэ́ла — ні ма́іць клёку),* 24 *(у гэ́тага чалаве́ка німа́ клёку),* 29, 33, 34, 35, 36, 37, 45, 51, 53 *(увесь клёк дастаў з яе́),* 58 *(вы́шаў з яго ўвесь клёк, ужо́ ён ня бу́дзя жыць),* 60, 69 *(скаціна сла́бая, не ма́я клёку),* 77, 82, 84, 85, 109, 114, 117 *(ву́няў усе́ клёкі з яго́),* 118, 120, 122, 123, 128, 129, 130, 135, 137, 138, 139, 140.

'сялёдачны расол':*клёк* 45, 47, 51, 57, 60 *(клёк ат сялёткі ў вялікі по́ст с карто́плямі ê лі),* 82, 84, 88, 104, 111, 140. *лёк* 27, 49а, 54, 56, 58, 62, 63, 64, 65, 67, 68, 71, 75, 79, 83, 86. *ляк* 90, 95, 103. *го́ляк* 49.

'сок з ягад':*клёк* 5, 14, 29, 35, 37, 45, 53, 79 *(рэдка),* 84, 85, 88, 124, 128, 135.

'гульня ў гарадкі': *клёк* 50 *(дава́ймо ў клёк граць: ты бу́дзяш ста́віць клёк, а я збіва́ціму),* 76, 81 *(кі́йком забіва́ецца маленькая палачка з круга. Другі гулец кідае яе ў круг, а першы каля круга адбівае на ляту. Вядзецца ўлік палак ад клёка забітага і да друга, дзе ляжыць клёк),* 90, 93, 96 *(дзі́ты гра́юць у клёка),* 124, 130, 142.

'палачка, якую збіваюць доўгаю палкай': *клёк* 50, 102.

толькі ў выразах: 22 *(адбі́ў клёкі — ударыў у спіну),* 23 *(і клёк яму ту́та),* 25 *(клёку німа — толку),* 125 *(клёку ў яго няма),* 132 *(як ва́рыш крупы́ да накыпáе з крупув, то ска́жуть: вжэ клёк е).*

Іншыя значэнні: 'карысць, смак': *клёк* 61. 'касцявы мозг': *клёк* 9. 'розум': *клёўкасць* 66 *(няма ў яго галаве клёўкасці).* 'самая добрая крупа ці мука': *клёк* 99. 'кусок адрэзанага палена': *клёк* 141.

Адсутнасць слова: 1, 3, 4, 7, 10, 11, 13, 16—18, 20, 25а, 26, 28, 30—32, 38—44, 46, 48, 52, 52а, 55, 70—74, 78, 80, 87, 89, 91, 92, 94, 94а, 96а — 98, 100, 101, 106—108, 110, 112, 113, 115, 116, 119, 120а, 121, 126, 127, 131, 133, 134, 136.

**Карта № 30**

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КЛЮ́ЧКА*

№ 3198 «Ключка: а) палка, на якую абапіраюцца пры хадзьбе, б) кручок з загнутым канцом для выскубвання сена са стажка...»

На карце супрацьпастаўляюцца розныя значэнні слова *ключка.*

'палка, на якую абапіраюцца пры хадзьбе':*клю́чка* 5, 7 *(вазьмі́ клю́чку, калі ня мо́жаш так іці),* 45, 47, 57, 72, 77, 86, 87, 90; 91, 93, 95, 96, 96а *(пойду́ ді́довэ куплю клю́чку, бо він вжэ став кульга́ты),* 97, 98, 102, 103, 104 (уст.), 108, 110, 120, 124, 133, 137, 142. *клю́шка* 67.

'палка з загнутым канцом': *клю́чка* 2 *(пада́й клю́чачку, кісе́ль падыма́ецца, на́да памі́ша́ць),* 6, 45, 48 *(вазьмі за клю́чку, то лепш вады дастанеш),* 49, 50, 52, 55, 63, 69, 90 *(ко́ло выро́вкі, шо сі́но прытяга́ты — клю́чка; ко́лыска ві́сыла на выро́стках (вяро́йках), а завя́заны на клю́чку),* 91, 92, 93, 94, 94а *(достава́ты голы́ну, до́вгый кый с су́ком),* 95, 96 *(клю́чкою драўля́ною падве́швалася калы́ска ві́ся́чая),* 98, 99 *(клю́чка ў кало́дзязі, воду́ дастава́ць, прывя́зана да жырава́),* 100, 103, 108, 109 *(кый набыра́ты воду́ с коло́дяза). клюка* 93 *(на канцы́ вужы́шча).*

'качарга': *клю́чка* 45, 46, 51 *(клю́чкай выго́ртаваць у́глі гара́чыя с пячы́),* 75.

'матыка': *клю́чка* 103, 108, 113, 131.

Іншыя значэнні: 'частка ярма': *клю́чка* 141 *(ключка на ярме́, як вала запрагаеш, вол галаву ўсаджвае).* 'прыстасаванне віць валокі':*клю́чка* 94. 'кручок для вязання':*клю́чка* 93. 'прыстасаванне ў кроснах': *ключка* 94 *(на клю́чка́х ві́сіць ніт, набі́ліцы).* 'нос': *клю́чка* 50 *(чаго́ клю́чку звесі́ў, ні ідзе́ш спаць?).* 'хакейная клюшка' :*клю́чка* 56. 'кій, які выкарыстоўваецца пры гульні ў бурбу': *клю́чка* 114.

Адсутнасць слова: 1, 3, 4, 8—17, 19—44, 49а, 52а — 54, 58, 59, 61, 62, 64—66, 68, 70, 71, 73, 74, 76, 78, 79—85, 88, 101, 105—107, 111, 112, 115—119, 120а — 123, 125—130, 132, 134—136, 138—140.

**Карта № 31**

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КОРЧ*

№ 3199 «Корч, карчак: а) куст лазы, алешніку, б) выкапаны з карэннямі пень, в) корч бульбы, цыбулі (карэнні і клубні)...»

Картаграфуюцца розныя значэнні і пашырэнне слова корч.

'куст лазы, алешніку': *корч* 14, 29, 30, 37, 41, 45, 48 *(во якія карчэ́ павыраста́лі),* 49а, 50, 53, 54, 55, 60, 61, 62, 67, 75, 82, 85, 88, 89, 90, 91, 92, 93, 94, 94а, 95, 96, 96а *(на моёму сынoко́совы росту́ть одны́ корчі);* 97, 98, 101, 102, 103, 104, 107, 108, 109, 113, 115 *(корча́мы зару́цца хво́раснік усякі, алешнік, лаза́),* 116, 119, 120, 121, 122, 123, 124, 125, 128, 130, 131, 132, 135, 136, 137 *(схава́лася ўсё ста́до ў карчах),* 138, 139, 140, 142. *ко̂рч* 114, 127, 134. *ко́рчык* 124. *карча́к* 53.

'выкапаны з карэннямі пень': *корч* 1, 2 *(нáда ісці пні карчавáць, карчýюць і зямлю разрабляюць, дзéрван дзярýць)* 3, 4, 5, 6, 7, 8, 8а, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 21, 22, 24, 25, 25а, 26, 27, 28, 31, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 40 *(там карчэ́й многа, хырашó пéчку тапіць)*, 41, 42, 43, 44, 45, 46 *(паéхалі па карчэ́)*, 47, 48, 49а, 50, 51, 52, 52а, 53, 54, 55, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 63, 64, 66, 67, 68, 69, 70, 71, 72, 73, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81, 82, 83, 84, 85, 86, 87, 88, 96а *(корчовáлы пóлэ кóло ліса, корчі тáкі і лэжáть)*, 99, 100, 101, 102, 104, 105, 106, 107, 108, 109, 111, 112, 115 *(хваёвы корч на лучыну капáлі)*, 116, 118, 120а, 121, 122, 123, 124, 125, 126, 128, 129, 130, 133, 137 *(карчóў на распал прывёз)*, 140, 142. *кôрч* 65, 110, 114, 134. *карчáк* 52, 53, 74, 76, 80. *карчýк* 89. *кóрчык* 80. *кърчáга* 39. *карчыга* 124. *карчыжына* 124. *курч* 44.

'корч бульбы, цыбулі (карэнне і клубні)': *корч* 9, 10, 23, 26, 27, 28, 29, 37, 45, 46 *(мáла картóфлі пат карчóм)*, 49а, 50 *(от ядрóны корч картóпяль)*, 51, 53, 54, 55, 56, 59, 60, 61, 62, 63, 64, 66, 67, 68, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 75, 76, 77, 79, 80, 81, 82, 85, 87, 88, 90, 91, 92, 94, 94а, 95, 96, 96а *(картóплі хорóшы под корчём мныго)*, 97, 98, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 105, 106, 107, 108, 109, 111, 112 *(вот карчэ́ харóшыя парасьлі картóплі)*, 113, 115 *(вýрві с карчóм цыбýлі)*, 116, 117, 118, 119, 120, 120а, 121, 122, 124, 125, 126, 128, 129, 130, 131, 132, 133, 135, 136, 137, 138, 139, 140, 142. *кôрч* 65, 114, 127, 134. *карчáк* 53. *карчýк* 60 *(цыбýлю нêхта нôчу с карчукáмі павыдзірáў)*.

'корч з дрэва': *корч* 23, 49 *(у лéсі карчýюць карчэ́)*, 141.

Іншыя значэнні: 'выкапаны смаляк': *корч* 26 'невялікія курганкі': *корч* 6 *(на пóжні бывáюць карчы)*. 'корч шышак, апенькаў': *корч* 91 *(опéнькув)*. 'стары чалавек': *корч, карчáк* 53.

## Карта № 32

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *КРУ́ШНЯ*

№ 3201 «Крушня: куча, груда камення...»

Картаграфуецца пашырэнне слова крушня.

'куча камення, бульбы, яек': *крýшня* 3 *(камéнняў, бульбы)*, 4 *(на пóлі многа крýшняў)*, 5, 10, 11, 18, 19 *(у крýшні брыдá (гáды) завóдзіцца)*, 20 *(нéкалі ой бальшыя былі крýшні, мой дзет быў хóраша злажыўшы і высóкая крýшня былá, цяпéр паразбірáлі; крýшню бліноў напеклá)*, 92 *(на ýсё, што можа быць кýчай: каменняў, баравікоў...)*, 23, 25 *(навазілі крýшню камéння; нашóў крýшню яéц)*, 25а, 26, 27, 28 *(якáя вялікая крýшня камéння)*, 29, 30, 34, 45 *(у крýшнях яшчаркі вóдзяцца, у крýшнях убáчыш удóта)*, 46, 48 *(цэ́лу крýшню камéня навазілі)*, 49а, 50 (трад., рэдка), 52 *(с пóля скідáюць камéння ў крýшню)*, 52а, 53, 54, 57, 58, 59 *(крýшню камянёў нацягáла)*, 65 *(крýшня гавóраць, але дайней больш казалі камяніца)*, 91, 113. *кружня́* 6 *(кружня́ камéння, знайшóў кружню́ яік)*. *крушня́* 24 *(ускóчыў на крушню́)*, 34, 37.

Адсутнасць слова: 1, 2, 7, 8, 9, 12—17, 21, 31—33, 35, 36, 38—44, 47, 49, 51, 55, 56, 61—64, 66—90, 92—112, 114—142.

Адведзены: 'крушына' *крушня* 113.

## Карта № 33

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *КУ́ДАСА*

№ 3203 «Кудаса: снег з ветрам, мяцеліца...»

Картаграфуецца пашырэнне слова кýдаса.

*кýдаса* 20 *(як зімóй мяцéліца, завéя, то кáжуць, што за кýдаса, ня мóжна нóсу выткнуць на двор)*, 45, 46 *(якая кýдаса паднялáся)*, 47 *(такáя схадзілася кýдаса, што свéту ні віднó)*, 48 *(зімóю кýдаса за ноч як намяцé снéгу, то і з вёскі не выядзеш)*, 49а, 50 *(гéдыка кýдаса, свéту бóжаго ні віднó)*, 51, 52а, 53, 54, 55, 56, 59 (устар.), 60 *(нуй кýдаса схадзілася, свéту ня відáць)*, 62, 94, 99, 100, 101, 102, 104. *кýтаса* 93 *(ой, кýтаса ўзялáся на свéце)*. *кудасá* 61. *хýдаса* 52. *кудóса* 94а, 95, 106.

## Карта № 34

## ЗНАЧЭННЕ СЛОЎ *КУЛЬ, КУЛЁК*

№ 3204 «Куль, кулёк»: а) куль саломы, б) кулёк: нядоўгая мужчынская вопратка з самаробнага сукна...»

Картаграфуецца розныя значэнні слоў куль, кулёк.

'куль саломы, лёну, лазы, пянькі' *куль* 1, 2 *(кулі траслі як стрэ́хі крылі салóмай, за вярхі вóзьмім, вытрасім, на вязьмó палóжыш, звяшыш, і гэ́та куль салóмы; надзéўся як куль)*, 3—19, 20 *(як падымалі пасланы лён, то вязалі ў кулі)*, 21—25, 26 *(упéрат куль рабілі да хату крылі)*, 27—41, 42 *(надзéўся як куль)*, 43—45, 47, 48 *(ад перуна куль саломы згарэў ноччу)*, 49, 50 *(лён у кулé звязáны)*, 51—78, 79 *(надзеўся як куль)*, 80—89, 90 *(кóлісь крылі стріху)*, 92—105, 106 *(кулé солóмы)*, 107, 109—111, 112 *(сéно цюкýюць і назывáюць кулê і цюкі, кулямі крылі стрэ́хі)*, 113—115, 116 *(кулé рыжы)*, 117—123, 124 *(лёг кулём — не распрануўся і не разуўся)*, 125—141. *кулёк* 3, 23, 32, 56, 57, 67, 81, 89, 110, 112, 116, 124, 132 *(одéжы)*, 133. *кулік* 93. *кýлік* 90. *кýлык* 96а, 103, 109.

'мяшок мукі, бульбы, зерня' *куль* 9, 25, 39, 76, 113, 130, 134. *кулёк* 15 *(мяшóк 4 пуды)*, 82, 83, 113 (малы мяшок), 118, 133. *кулік* 138.

'кулёк мукі, круп, цукерак' *кулёк* 54, 70, 75, 79, 101, 102, 121, 123, 124, 129.

'кулёк з паперы' *кулёк* 71, 74, 87, 97, 105, 130.

'нядоўгая мужчынская ці жаночая вопратка з самаробнага сукна' *кулёк* 1, 2, 4—8а, 17, 28, 29, 31, 34—38.

'задні вузкі канец рыбалоўнай прылады' *куль* 76, 120а *(куль таптýхі)*.

'куль у броднi' *куль* 25, 129.

Іншыя значэнні: 'жаночае доўгае адзенне' *кулёк* 2. 'світка або кажух' куль 138. 'сукенка без зборак' куль 25. 'звязаны снапок, калі адводзяць страху' *куль* 81. 'снопік для застрэшыны'. *куль* 44. 'рыбалоўная снасць з горнам' *куль* 58. 'сетка для рыбы' *куль* 52а.

Адсутнасць слова: 46, 91, 142.

## Карта № 35

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *КУРА́Ч* І АДНАКАРЭННЫХ З ІМ

№ 1480 «У якім значэнні ўжываецца слова курач: а) недагарэлае палена дроў, б) скручаная ануча, якой падпальваюць што-небудзь, в) сухія гнілушкі, якімі дымяць пчол...»

Картаграфуецца значэнне слова курач і аднакарэнных з ім. У варыянтах назвы *курáч* паказаны адрозненні ў словаўтваральных элементах. Пры картаграфаванні дадаткова выкарыстаны матэрыялы карты «Галавешка» (ЛАБНГ, т. 1, к. № 210), дзе фіксуецца слова *курячка* 90 'недагарэлае палена дроў'. Адрозненні ў вымаўленні слоў *курадым, курóдым* 'скручаная ануча, якой падпальваюць што-небудзь', а таксама гэтых жа лексем, але са значэннем 'сухія гнілушкі, якімі дымяць пчол' не ўлічваліся. Не прымаліся пад увагу адметнасці ў семантыцы найменняў *курáч, курáўка, курэ́ль* 'ануча, якой падкурвалі пчол'. Яны картаграфуюцца як лексемы ў значэнні 'скручаная ануча, якой падпальваюць што-небудзь'. Словы *курáч, курячка* 'усё тое, што дыміць (курыць дымам)' аб'ядноўваюцца адным адсылачным знакам. Усе адпаведнікі слова *курáч* у значэннях, пералічаных у пытанні, на карце не падаюцца. Адсутнасць слова спецыяльна не адзначаецца, прыводзіцца спіс такіх пунктаў. Не картаграфуюцца лексемы ў значэнні *дымáр*. Словы з гэтай семантыкай вывучаліся асобна (Гл.: ЛАБНГ, т. 1, к. № 318).

'недагарэлае палена дроў': *курáч* 55, 75 *(курáч — сухі, прапáлены пень, які курáе)*, 83, 84, 97, 136.

*курячка* 90.

курэ́ль 25, 26.

'нагар на кноце': *курáч* 27, 55, 97.

*курэ́ль* 25, 26.

## Карта № 64

# ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЦАЛІ́К* І ЯГО ВАРЫЯНТАЎ

№ 3300 «Цалік: а) нераз'езджаная дарога, б) абложная зямля, в) неўзараная палоска зямлі, агрэх...»

Картаграфуецца слова *цалік*, а таксама словы: *цаляк, цальняк, цальнік, цалізна́, цылу́х, цэлі́х* у наступных значэннях:

'нераз'езджаная зімовая дарога': *цалік* 8, 10 (дарога, засыпаная снегам, на якой яшчэ ніхто не ехаў), 11, 12 (адсутнасць снегу, дарогі), 14, 17, 21 *(непрато́рная даро́га)*, 36, 37, 38 *(там, дзе не праехана, або не про́йдзена)*, 43 *(йшлі па цаліку́ пап по́йіс у снягу́)*, 45, 47 *(нераз'е́зджаная даро́га — све́жы снег)*, 49, 49а, 52а, 53 *(снех нейе́жжаны і скары́нка на ём — цалік; ісці, е́здзіць па цаліку́)*, 54, 55 *(е́хаць па цаліку́)*, 56, 60, 61 *(нераз'е́зджаная даро́га, заме́ценая сне́гам)*, 62, 65 *(цэ́лая непару́шаная даро́га)*, 67 *(цалік — е́хаць про́ста па по́лю зімо́й)*, 68, 69, 70, 71 *(за́мяць про́йдзя, ніхто́ не ішо́ў, а ты ідзе́ш; вот мясі́ўся, мясі́ўся цаліко́м, пака́ вы́йшаў на даро́гу)*, 73, 75, 76, 77 (дарога занесеная снегам), 79, 81, 82, 83, 85, 86 *(цаліко́м)*, 87 *(цалік — ро́ўная даро́га)*, 88 (нераз'ежджаная дарога, асабліва зімой), 92, 93 *(неўе́зджаная даро́га, е́дзеш па цаліку́)*, 97, 99, 100, 101, 102, 105 *(замяло́ даро́гу, е́дам па цаліку́)*, 106, 107 *(е́хаў цаліко́м)*, 109 *(цэлыко́м ідэ́)*, 110 *(цалік — ніапцёрта даро́га)*, 111, 112 *(е́халі па цаліку́)*, 113 *(цалік* — занесенае снегам месца), 115—118, 120а, 124, 125 *(цалік — няхо́жаны сьнег)*, 126 *(цалік — іцці́ па цаліку́ — напрамік, по нітóрнай даро́ге)*, 129, 130 (нераз'ежджаная дарога, або зусім няма дарогі), 132 *(по цылыку́, цылы́к* — снежная цаліна), 134, 136, 137 *(цаліко́м паехаў)*, 138, 139 *(ісці напраму́ю, цаліко́м)*, 140, 141, 142. *цэлік* 114 (адсутнасць дарогі, няхожаны снег), 122, 127, 133. *цэля́к* 122. *цаля́к* 20 *(у цаля́к паехаў)*, 93.

Іншыя словы з коранем *-цал-/-цэл-* са значэннем 'нераз'езджаная зімовая дарога': *уцалік* 1 *(сягóня паехаў у лес за дравáмі уцалік)*, 7 *(паехаў у цалік)*, 15 *(паехаў уцалік, па снягу́; уцалік* — там, дзе няе́зджана і няходжана зімой), 39 *(уцалік* — напрамую, без дарогі), 40 *(уцалік е́хаў па снягу́)*, 41 *(е́хаць уцалік)*, 44 *(уцалік* — напрамую, па снезе), 52а *(загна́на даро́га пяско́м, е́дзім у цалік)*, 64 *(пайшлі уцалік, не па даро́зі)*, 76 *(ісці уцалік — па сне́гу, без даро́гі)*, 84 *(уцалік)*, 128 *(уцалік)*, 133 *(уцэлік)*, *цальнік* 2 *(па цальніку́ е́дзіць, е́дзіць уцэ́ла)*, 8а (нераз'езджаная дарога), *ца́льнік* 18 *(а я е́ду ў ца́льнік)*, 23 *(там, дзе няма дарогі; пайшо́ў па ца́льніку, у ца́льнік пайшо́ў)*, *цальнік* 3, 58 *(цальнік — дзе даро́га нераз'езджана)*, 63 *(цальнік* — месца на полі, на пашы, дзе няма дарогі; *нямá кудэ́й праехаць, па цаліне́ е́дзя)*; *уцэ́ла* 2, 4 *(е́дзіць уцэ́ла)*, 5 (па снягу без дарогі), 6 *(е́хаць уцэ́ла* — як дарога завеяна снегам), 19 *(е́хаць уцэ́ла* — ехаць па нераз'езджанай дарозе), 25 *(уцэ́ла паехаў)*, 29 *(уцэ́ла)*, 35 *(уцэ́ла)*, 42 *(е́хаць уцэ́ла)*, 75 *(уцэ́ла паехаў)*; *уцэ́ла* 80 *(пайе́дзім уцэ́ла* па нераз'езджанай дарозе). 42 *(е́хаць уцэ́ла)*, 75 *(уцэ́ла паехаў)*; *уцальнік* 22 *(уцальнік: ісці, дзе уцальнік, бес сле́ду, альбо́ е́хаў уцальнік, ге́та, дзе даро́гі німá)*; *цальня́к* 52 (нераз'ежджаная дарога; *е́хаў цальня-ко́м)*; *цэлі́х* 94 (прастора, пакрытая снегам, па якому няма сцежак, дарог, слядоў), *цылю́х* 94а *(цылухо́м іды́, як сніг вы́падэ)*, *цылу́х* 95 *(як сніг напа́дае, да шэ ныхто́ ны пры́йдэ, ны пройі́дэ, мáло йі́жджана)*, *цылу́х* 96 (пакрытая снегам мясцовасць, без чалавечых слядоў, сцежак, дарог: *цылухо́м іду́, йіду́ — ныв'іжджана доро́га)*, *цілу́х* 98 *(ни стэ́шкэ̂, ни дуро́гэ̂ — ідэ́ш цілухо́м, травá, чи ліс, чи сніх)*, *цалінá* 25, 27 (нераз'езджаная дарога), 66 *(е́хаў цаліно́ю)*, 86 *(цъліна́)*, *у цъліну́* 34 (прама, без дарогі); *уцаліць* 16; *неабабі́тая даро́га* 57; *нывйі́жджана дôро́га* 90; *глуха́я даро́га* 105, 123; *но́вая даро́га* 131. *прôслі́ток* 90 (ныма прôслітку). *прослі́док* 108, 132.

'абложная зямля': *цалік* 21, 24 *(сей на цаліку́; гаро́х, лу́бін се́юць па цаліку́)*, 25а *(цалік, дзе ні па́хана)*, 28 *(там жа цалік, ты не ўварэ́ш)*, 30 *(цалік — зімля́, каторую ні ара́лі)*, 37 *(неўзара́ная талака́ зямлі, агрэ́х)*, 45 *(кава́лак неўзара́най зямлі, кава́лак цаліка́ застáўся)*, 48 *(неўзара́ная пало́ска зямлі, агрэ́х)*, 49 *(цалік — дзірва́н, е́ту зе́млю гады́ тры ні ару́ць, ніго́раная зямля́)*, 50, 51 *(цалік — дзе недаго́рана, недапа́хана, дзе цвёрда зямля́)*, 52а *(цалік* — неапрацаванае поле), 53, 54, 55, 60, 62, 66 *(цалік — поле́, дзе ніска, ды ўрасло́, не арэ́цца)*, 88 (аблога, абложная зямля, неўзараная зямля), 93 *(цалік, неўзара́ная зямля́; зямля́ цаляко́м ляжы́ць)*, 99, 125 (неўзараная зямля), 134 *(цалік, поле́ткі)*, 136, 138 *(там па цаліку́ даўно́ не се́йем)*, 142.

Іншыя словы з коранем *-цал-/-цэл-* са значэннем 'абложная зямля':

*цальнік* 4 (непаханая зямля; *яна́ пяць лет цальніко́м стая́ла, падня́ў цальнік)*, 18 *(цальнік наара́лі, абло́шная зямля́)*; *уцэ́ла* 29; *уцалік* 128; *цаліна́* 23 (поле непаараное на зіму), 26, 72, 104, 119. *цъліна́* 34 (неараная яшчэ зямля, цаліна; *нявóратая зямля́, зямля́ адло́гам ляжы́ць)*, 67 *(цаліна́ — калі непазя́блена)*, 82 *(цыліна́)*, 92 *(цэлына́)*, 107 *(цэліна́)*.

'агрэх':

*цалік* 54, 62. *цэлы́к* 108 *(цэлы́к — як гору́ць, то остаюцца кусо́чкі)*.

Іншыя словы з коранем *-цал-/-цэл-* са значэннем 'агрэх':

*цальнік* 3 (цальнікі *пакі́даў, ара́ў дрэ́нна)*, *цальня́к* 52 (агрэхі на араным полі); *цылізна́* 16; *уцэ́ла* 29.

'недаляжалы на сцелішчы лён ці недасушаная льнотраста':

*цальнік* 2 *(у льне бываю́ць цальнікі, калі недасо́хніць ці недаляжы́ць, не адстае́ кастра́ ад валакна́)*.

Адсутнасць слова *цалік* і аднакарэнных з ім: 9, 31, 32, 33, 46, 47, 59, 74, 78, 89, 96а, 121, 135.

Адзначаны іншыя лексемы са значэннем нераз'езджаная дарога: *пу́цінка* 26. *глуха́я доро́га* 94. *мáло йі́жджана доро́га* 95. *нывйі́жджана доро́га* 96. *низйі́жджана дуро́га* 98. *небі́тая даро́га* 113. *оно́ стэ́шка* 94а. 'абложная зямля': *абло́га* 35, 42, 75, 86, 118, 124, 127. *бло́га* 84. *адло́г* 57. *злі́г* 96. *дзірва́н* 7 *(дзірвано́м ляжа́ла зямля́ ко́лькі гадо́ў)*. *я́лавіна* 115, 129. *я́ловіна* 68, 94. *за́росля* 90. *дубро́ва* 129. *полі́ток* 95, 103, 109. *поле́ткі* 134. *тало́ка* 124. *ля́да* 17. *па́рина* 98. *попа́р* 108 *(попа́р, запопа́ріло)*, 132 *(попа́р)*. *запустова́ло по́ле* 94а. 'агрэх': *агрэ́х* 37 *(агрэ́х, неўзара́ная талака́ зямлі)*. 48 *(неўзара́ная пало́ска зямлі, агрэ́х)*, 52 *(агрэ́хі на ара́ным по́лі)*, 75, 67, 115, 118, 124, 127, 128, 129, 140. *огрэ́х* 113, 134 *(огрэ́х, грэх)*, 138. *ôрі́х* 96, 131. *огрі́х* 94а. *горі́х* 95. *(г)орі́х* 103. *узрэ́х* 35, 57, 82. *узре́х* 42. *узгре́х* 84. *зрех* 94 *(зре́ха покі́нуў)*. *угре́х* 86. *сілізна́* 7. *плеш* 17. *врі́шок* 98. *отóрэвка* 107. *прорі́х* 132.

## Карта № 65

# ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЦЬМА*

АЛА F(Sm) 2424 ťma тьма — tama — ćma

Картаграфуецца значэнне і пашырэнне слова *цьма*.

'вялікая колькасць чаго-н., каго-н.': *цьма* 1А, 6А, 8А, 9А, 12А, 15А, 21А, 26А—29А, 44А, 49А, 50А, 53А, 56А, 62А, 67А. *тьма* 47А.

'цемната, цемень': *цьма* 3А, 5А—7А, 9А, 16А, 19А, 23А, 26А, 29А, 40А, 42А, 50А, 56А, 60А, 66А, 67А, 50. *тьма* 43А, 45А.

Іншыя значэнні: 32А *цьма ты чорная* (лаянкавы выраз).

Значэнне не адзначана: *цьма* 4А, 11А, 14А, 18А, 20А, 30А, 35А, 38А, 70. *тьма* 45А.

Адсутнасць слова: 2А, 10А, 13А, 17А, 22А, 24А, 25А, 31А, 33А, 34А, 36А, 37А, 39А, 41А, 46А, 48А, 51А, 52А, 55А, 57А—59А, 61А, 63А—65А, 61, 115.

## Карта № 66

# ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЦЯЦЬ*

№ 3305 «Цяць, уцяць: а) ударыць, б) укусіць, в) уціснуць,.. Сцяць: а) збіць, ссячы, зрэзаць, б) сціснуць...»

Пры ўмове поўных адказаў на вызначаныя падпункты пытання можна было б скласці некалькі карт, але адказы аказаліся несістэмныя, частковыя, а таму складзена толькі адна карта, якая па сутнасці паказвае тэрыторыю пашырэння лексемы

на картаграфуемай тэрыторыі, а не аб'ём значэння вызначаных у пытанні падпунктаў. У частцы пунктаў знак ставіўся на падставе поўных адказаў, у частцы — толькі адзінкавых прыкладаў. Увесь фактычны матэрыял, у якім адзначаны той ці іншы марфалагічны ці фанетычны варыянт лексемы *цяць* прыведзены ў індэксе. Картаграфуецца значэнне слова і яго прэфіксальныя варыянты.

Адведзены ад картаграфавання адказ *цяўкнуць* у 86 пункце як неаднакаранёвае з *цяць*. Таксама не картаграфуецца лексема *сціна́цца* ў значэнні 'замярзаць' 65 п. і ў інш. значэннях; *пасціна́ць* у значэнні 'пазразаць' у 25 і 46 пп. картаграфуецца як *сціна́ць* у гэтым жа значэнні.

2 *сьцяць* 'зрэзаць', *сьцілá галóўку капýсты, сатні качáн!*. 4 *перацяць* 'пeратачыць'. *мышы пóшар перацялі*. 6 *сьцяць* 'зрэзаць': *сьцяў сярпóм травý, сьцілá травý*. 11 *уцяць* 'ударыць'. 19 *уцяць* 'укусіць': *уцяў за пáляц*. 20 *уцяць* 'укараціць', 'адрэзаць': *задóўгі кій, трэ́ба яго уцяць, задóўга уцяў — тэ́раз закарóткі*. 22 *уцяць* 'укусіць' (рэдка). 23 *цяць* 'ударыць'. 25 *пасціна́ць* 'пазразаць': *нядóбра скасіў, тóлькі вярхі пасьціна́ў*. 25а *сьцяць* 'сціснуць': *ён як сьцяў рукý мне*. 27 *выцяць* 'ударыць'. 28 *уцяць, цяць* 'укусіць': *цяў сабáка*. 29 *пыдцяць* 'падкурчыць, падтуліць': *сыбáка хвост пыццяў*. 31 *уцяць* 'ударыць'. 38 *уцяцца* 'змоўкнуць': *уцяўся і маўчыць*. 41 *сьцяць* 'збіць': *сьцяў з пня адны́м удáрам*. 45 *уцяць* 'ударыць': *Сьцяпáн уцяў яго ў бок; сьцяць* 'ссячы': *сьцялі бярэ́зіну, што пад хáтай раслá*. 46 *уцяць* 'укусіць': *а ей як уцяла муха! пасціна́ць* 'пазразаць': *пасціна́й галіны, а то ўжэ разрасліся*. 48 *уцяць* 'укусіць': *сабака ўцяў — ажнó цяпéр баліць*. 49 *сьціна́ць зéльля* 'сячы'. 49а *уцяць* 'укусіць': *уцяў сабáка; сцяць* 'ссячы'. 50 *цяць* 'моцна ўда́рыць': як цяў па галаве сабацы, так ні ёнкнуў — забіў; *уцяць* 'укусіць': *вот уцяла моцно пчала; сьцяць* 'зрэзаць, ссекчы', збіць шабляю'. 51 *сьцяць* 'зрэзаць': сьцяў вяршóк дрэ́ва; сьціна́ць 'зразаць': *трэбо сьцінаць клы парасятам*. 52 *цяць* 'ударыць, задаць': *ён як цяў мяне па шыі; сцяць* 'зрэзаць': *сцяў травý сярпóм, касóй*. 52а *выцяць* 'ударыць'. 53 *цяць, уцяць* 'укусіць'; *сьцяць* 'ссячы, зрэзаць'. 54 *уцяць* 'ударыць', 'укусіць'. 55 *цяць* 'укусіць': пчолы тнуць; *сьцяць* 'збіць, ссячы 'зрэзаць'. 56 *выцяць* 'ударыць'. 57 *адцяць* 'адрэзаць'; *сцяць* 'ссячы, збіць, зрэзаць'. 58 *выцяць* 'ударыць': я выцяў крэ́пка вас? 59 *уцяць* 'укусіць', 'парэзаць': *от уцяў пáльца*. 60 *цяць, уцяць* 'укусіць': *конь так і наравіць кап за руку уцяць; ну і мошкі: трэба ш так цяць, аш крой выскаквая; сцяць* 'збіць адным махам': *як дай пýгаю, валóшку сцяў; пасціна́ў усе каласэ́*. 63 *выцяць* 'ударыць', *цяць* 'укусіць': *пчалá цяла*. 65 *выцяць* 'ударыць', *сцяцца* 'замерзнуць': *рэ́чка сцялася*. 66 *цяць, сцяць* 'ударыць': *ну і цяў я яго, крэпко выцёў*. 67 *цяў, выцёў* 'ударыў', *уцяў 'укусіў'*. 70 *выцяць* 'ударыць'. 71, 72 *выцяць* 'ударыць': выцяў нóгу. 80 *уцяць* 'укусіць' // *сцяць* (уст.) 82 *уцяцца* 'не ўступаць': *уцяўся і ні ськідáя цаны*. 90, 92 *вытяты* 'ударыць', втя́ты 'укусіць', *стя́ты* 'ссячы'. 93 *утяці* 'укусіць', *сця́ці* 'зрэзаць', ссячы, збіць'. 94 *утяті* 'моцна ўдарыць', 'укусіць'. 95 *тяты* 'моцна ўдарыць', *втяты* 'моцна укусіць'. 96 *вытяты* 'ударыць', *втяты* 'укусіць'. 96а *вытять* 'ударыць': *так мóцно вытяв, аж посыніло*. 97 *утéты* 'укусіць'. 98 *тэ́тэ* 'ударыць', *стэ́тэ* 'ссячы'. 99 *уцяць* 'укусіць', *выцяць* 'ударыць, набіць'; *выцяла дзіця́, выцяла нагý; выцяць* 'выразаць': *нóжнамі выцяла*. 100 *зацяць* 'ударыць'; *за што ён цябе зацяў?*. 102 *цяці* 'смяртэльна ўдарыць'. 103 *утяты* (экспр.) 'укусіць'. 104 *выцяць* 'ударыць', *уцяць* 'укусіць', 'парэзаць': *уцялá пáльца, сцяць* 'ссячы'. 105 *выцяць* 'ударыць'. 108, 109 утяв 'насячы': *вотны́ крохы дров;* 'укусіць': утяв за нóгу. 110 *выцяць* 'ударыць'. 111 *уцяць* 'ударыць', 'укусіць': *уцяла дзіця́ мяне́ за рукý*. 114 сцяць 'зрэзаць', 'пабіць'. 115 *выцяць* 'ударыць'. 117 *выцяць* 'ударыць': *выцей коня́, собáку*. 119 *сцяць* 'ссячы'. 120а *сціна́цца* 'дрыжаць': *сціна́юся — страшка*. 127 *выцяць* 'ударыць'. 132 *утяты* 'укусіць': *утяв собáка за нóгу; оттяты* 'адаткнуць'. 134 *утять* 'укусіць': *собáка утяў зубішчамі*. 135 *вýцяць* 'ударыць', 'укусіць'; сцяць 'сціснуць': *вя́зку слáба сьцяў*. 140 *сьцяць* 'сціснуць': *сьцяў, што не павярнýцца*.

*Сцяць* у выразах: *сцяць зубы, сцяў зýбы — сціснуць зубы* і інш.: 8, 8а, 10, 24, 26, 27, 29, 31, 35, 41, 43, 48, 52а, 56, 57, 66 *(зубы сьцёў ды маўчыць)*, 75, 77, 81, 82, 83 (рэдка), 84, 85, 100, 102 *(зацяці зубы)*, 105, 107, 110, 111, 118, 119, 124, 134 *(сьтять зýбы)*, 137. *Сцінаць вусны ад болю*. 25, 28 *(сцінаіць зубы)*. *сьцяўшы зубы цярпéла* 60, *сядзеў сьцяўшы зубы* 69. *Ні уцяць, ні ўзяць: от дзеўка — ні ўзяць, ні уцяць* 'злая' 9. *ні ўцяць, ні ўзяць* 'нічога няма' 22. *німа за што зацяць рукі* 'нічога няма' 58.

Адведзена: *сцяцца* 'замерзнуць' 65. *цяўкнуць* (рэдка) 'ударыць', 'укусіць'. 86. 'дрыжаць' 120а.

### Карта № 67

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОЎ *ШЫПУЛІ́, ШЧЭ́ПКІ*

№ 3314 «Шыпулі: а) палачкі, кусочкі дрэва, б) шчэпкі... Адз. лік: шыпуль...»

Картаграфуюцца значэнні слоў *шыпулі* і *шчэ́пкі*. Як *шыпýлі* картаграфуецца *шыпуле*, як *шыпулі — шыпулé*, як *шыпýлі* 103 — форма *шыпýль* 104, як *шыпýлькі — шыпýлікі* 23, як *шчэ́пка — шчэ́пы* 35, *шчэ́пачкі* 7.

'насечаныя дробныя кавалачкі дрэва':

*шыпýлі*

*шыпýлі* мн. л. (*шыпýль* адз. л.) 19 *(парубáйіш на дрóбненька пáлку і гэ́та шыпýлі)*, 20 *(ідзі прынясі шыпулёў, нарубáй шыпулёў)*, 48 *(шыпýлі каля́ хлявá валяюцца, бо нядáўна збудавáлі)*, 55 (вузкія кусочкі дрэва, трэсачкі), 52а *(чысціш брайнó, шыпýлі тóлькі ляцяць; трэ́скі)*, 92 *(шыпýлі)*, 94а *(шыпулі назгрібáла)*, 103 *(шыпýлі, шупýле тóныньшы, а цýрпалкы тэ́вшчы)* 104.

*шыпулі, шыпулé*

*шыпулі, шыпулé* мн. л. (шыпýль адз. л.) 45 *(шыпулёў палажы́ на падтóпку, шыпулі ўкіну ў печ)*, 47 *(шыпулі* — шчэпкі; *паткінь шыпулёў у пліту, лéпяй гарэ́ць бýдзя)*, 50 *(шыпулі — нашчапáць дрóбных пáлачак на падпáлку пéчы)*, 138 *(шыпулі)*, *шыпулé* 49а *(шыпулé)*, 50 *(ні сячэ́ш, а адны́я шыпулé рóбіш)*, 54 *(шыпулé, шыпýль ашапýліць)*, 58 *(малéнькія адскóлкі ад дроў; нашчапáў шыпулёў)*, 93 *(шыпулé, шыпýль* — кавалачак, трэсачка, якая адколатая ад лучынкі), 99 *(шыпулé* — трэсачкі).

*шчыпýлі*

*шчыпýлі* 31 (палачкі, кусочкі дрэва, *шчапáць шчыпýлі)*, 140 *(шчыпýля* адз. л., *назбірáла шчыпýляў)*.

'спарахнелае дрэва':

*шыпулé*

*шыпулé* 46 *(шыпулé адны́ і рубáць* [няма чаго]).

'слабы, худы, бледны чалавек'

*шыпýль*

*шупýль* 46.

'суквецце ў часнаку':

*шыпýлі, шыпуля́гі*.

*шыпýлі, шыпуля́гі* 122 *(шыпуля́гі, шыпýлі на чоснóк, калі малéнечкія занізачкі рóбяцца на іх, агэ́, на чоснóку, навéрху, на пáлцы* [стрэлцы]).

'ігліца хвоі, елкі':

*шыпýлі, шыпýлькі, шыпулé*.

*шыпýлі* 65 *(ігóлкі, мéлкія сучкі ад éлкі і сасны́ ў лéсе)*, 87 *(шыпýлі* — калючкі). *шыпулі* 64 *(шыпулі — спáўшыя йігóлкі хвóйі)*. *шыпýлькі* 66 (ігліцы з хвоі, з елкі), 67 *(шыпýлькі — ігóлкі з éлкі асыпаліся)*, 111 *(шыпýлькі* — апаўшыя, высахшыя калючкі з елкі). *шыпулé* 110 *(шыпуле* — дзе якóе дзéраво калюшчае).

Адзначаны таксама: *шы́льнік* 23 *(шы́льнік — шыпýлікі* ад хваёвых дрэў). *шыпýлі, шыпýлікі: шыпýлі* 101 *(шыпýлі — нéкое зéлле росцé)*, 122, *шыпýлікі* 23 *(шы́льнік — шыпýлікі* ад хваёвых дрэў).

'шчэпкі':

*шчэ́пкі* 7 *(шчэ́пкі, шчэ́пачкі)*, 40 *(шчэ́пкі на паттóпу)*, 47 *(нарубáй шчэ́пак на вячэ́ру)*, 48 *(накалі шчэ́пак сухіх дрóвы патпáльваць)*, 35 *(шчэ́пы* мл. л., *шчэ́пка* адз. л.), 64, 86 *(шчэ́пкі)*, 124 *(шчэ́пкі)*, 127 *(шчэ́пкі)*.

Іншыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *пашчá* 15 *(шчэ́пкі* з хвоі, елкі).

Адпаведнікі слова *шыпýлі* 'палачкі, кавалачкі дрэва (таксама на падпал у печы)':

*шы́галля* 82, 129. *шыгýлля* 127. *шыгýліна* 127.

*шакалі* 4 *(шакалі, шакалёў насéк распáльваць печ)*, 8. *шакалькі* 8 (небальшыя палачкі; *насéк шакалёў на падтóпу пéчы)*. *шакáлікі* 2 *(закінь шакáлікай — і бýлку спалілі)*.

*трэскі* 68, 82, 85, 94, 127. *траскі* 51. *трыскы* 94а, 96. *тріскê* 98. *трэсачкі* 99. *траскы* 103. (*тріска* адз. л.). *трэсочкы* 109.
*палючча* 124. *паліччэ* 90 (*дрібнэ*), 95, 96. *полічэ* 98. *полюкі* 86.
*палачка* 6. *палачкі* 49а. 52 (*нашчапаць дробных палачак*), 68, 85. *полкі* 107 (*полкі, полок назьбіраў*).
Яшчэ адзінкавыя назвы: ('палачкі') *будылькі* 102. *драбяза* 127. *жытуркі* 2. *загнет* 120а (дробныя дрэўкі). *йігліца* 75. *ломаччэ* 96. *сур* 128. *сучок* 6; ('шчэпкі'), *друзачкі* 7. *загнет* 120а (дробныя шчэпкі). *лучына* 1, 116. *пашча* 15. *трасоўнік* 85. *цёска* 120; ('іголкі на хваёвых дрэвах') *пашылка* 84. *цурпалка* (*товшчы, а шыпулі тоныньшы*). *шушэмэть* 134 (адходы пры веянні).
Адсутнасць слова: 5, 8а, 9—14, 16—18, 22, 24—30, 32—34, 36—39, 41—44, 49, 51, 53, 56, 57, 59—63, 69—74, 76—81, 83, 88, 89, 91, 96а, 97, 100, 105, 106, 108, 112—116, 117—119, 121, 123, 125, 126, 130—133, 135—137, 139, 141, 142.

## Карта № 68

## ПАШЫРЭННЕ І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ШЧОЛАК*

№ 3311 «Шчолак, шчалачок: а) рэдкая частка стравы, б) луг з попелу для мыцця бялізны...»
Картаграфуюцца розныя значэнні і пашырэнне слова *шчолак*. Назвы *шчалачок, шчолачак, шчэлка* пададзены як *шчолак*.
'рэдкая частка стравы': *шчолак* 7, 9 (*с аўса учынялі кісель, а тады шчолакам тварылі на кісель; атцэджаны на рэшата — ета шчолак*), 11, 20 (*налі мне шчолку, гушчы не хачу*), 28 (*з капусты і гуркоў смашны шчолак*), 29 (*сок, расол з квашаных буракоў ці капусты*), 31, 37, 45 (*што ты мне шчолаку аднаго наліла, трэба было гушчэйшага наліць*), 46, 47 (*злі шчолак, смашней будзя*), 49, 49а (*адзін шчолак застоўся*), 50 (*гушчу зз'еў, а шчолак пакінуў*), 51—52а (*наварыла толькі шчолаку, хоць на галаву зьлей*), 53—57, 59, 60, 65, 69 (*падлей шчолаку, а то ў міне адзін густыш*), 70, 71, 88, 93, 99, 100, 104—110, 116, 133 (*жыжка ад аўсянага кісялю*). *шчолък* 12, 13, 15. *шчолок* 91, 94 (*юшка — як картоплю отцідыш*), 95. *шчолык* 89. *шчалачок* 7, 21 (*даўней квас робіш, халаднік, зверху зліваеш жыжачку — шчалачок зліў*), 48 (*падлі сабе яшчэ шчалачку*), 52 (*падлі іс шчолакам ратчэйшага*), 53, 54, 59, 60 (*еш і гушчачку, што ты ўсё шчалачок сёрбаеш?*). *шчолачок* 57. *шчолачак* 2 (*даўней казалі: можа табе шчолачку падліць?*), 51 (*на дне густы, а зверху шчолак, шчолачак*). *шчолочок* 95. *шчолачка* 25 (*мой тольке шчолачку есь, а гушча астаецца; улі мне толькі шчолачкі*). *шчэлка* 87.
'луг з попелу для мыцця бялізны': *шчолак* 7, 8, 10, 17, 30, 36—38, 48 (*гэта даўней шчолакам бялізну мылі, а ціпер мыла есць*), 49а, 54, 63 (*бярозавы попял прас салому варам, абліваюць — харошая вада палучаяцца*), 65, 67, 71, 72—75, 77, 80—82, 86, 88, 96, 101, 102, 110—112 (*шчолак рабілі з попелу плацце жмаць*), 116—120, 121—130, 135 (рэдка), 136, 139—141 (*з попелу і вады робяць і мыюць плацце*), 142 (*з попелу і вадой робяць мыльную воду якой золяць бяллё*). *шчолък* 5, 15, 32, 39. *шчолок* 91, 137, 138 *шчолык* 14, 40—44, 78, 79, 83, 85, 87, 89. *шчолут* 31. *шшолык* 16. *шшолак* 76. *шчолака* 120а. *шчалачок* 54.
Адсутнасць слова: 1, 3, 4, 6, 18, 19, 23, 24, 25а—27, 33—35, 58, 61, 64, 66, 68, 84, 90, 96а—98, 103, 113—116, 131, 132, 134.

## Карта № 69

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЯЛАВІНА*

№ 3320 «Ялавіна: а) абложная зямля, б) поле, якое прызначалася для пасеву жыта (тое, што і папар)...»
Картаграфуецца значэнне слова *ялавіна*. Акцэнталагічныя варыянты *ялавіна* (н. пп. 59, 102), *ялавіна* (н. пп. 106, 114, 133) картаграфуюцца як *ялавіна*. Рэгулярныя фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся.
'абложная зямля':
*ялавіна* 4 (*ялавіна пад лесам*, г. зн. каля лесу), 10, 11, 14, 24 (абложная зямля, незасеянае поле), 25 (*закінутая поля, дзе раней сеялі, а цяпер там трава расце*; у іншым значэнні не ўжываецца), 25а, 43 (*ялавіна пад лесам, што не гаруць*), 45, 47 (*за хатамі ляжыць велькі кавалак ялавіны*), 48 (*цэлы гактар ялавіны ў нас за школай*), 49 (*ялавіна — доўго ні аруць зямлю, яна ляжыць ні абраблена*), 50 (*па ялавіні добра пшаніца парасла, а па картоплях блажеша*), 51 (*ялавіна — поле, каторо не гарэцца, аблох*), 52а, 56, 57 (устарэлае), 59 (*ялавіна ляжыць*), 60 (*зямля ляжыць гот пяралогам, а на другі гот на ялавіну пакідаюць сеяць*), 61 (зямля, якая не засяваецца), 62 (*ялавіна — запасны папар, які не арэцца 1—2 гады*), 63 (абложная зямля; *на ёй усякі сарняк расце*), 64, 65, 66 (*ялавіна — зямля, якую некалькі гот не аруць*), 67, 68 (*нічога не расце, пустоя поля, ялавіна*), 69 (*зямля, кусок пахаты, якая не арэцца, запушчана, а як зааруць, то кажуць пасадзіў, пасеяў ў ялавіну*), 70—72, 75, 76, 81 (*жыта на ялавіні, як чарот, ні перарэзаць*), 82, 93 (доўгі час неаранае поле), 94 (*яловына прыготоўяна на сэўбу*), 99, 100 (*ялавіна — поле нягоранае*), 101, (*яловіна, ялошіна* — 3—4 гады неаранае поле), 104 (*дзёр ялавіну*), 105, 106, 110 (*зямля такая, што гуляе*), 111 (*ялавіна — поле, на якім нічога не расце*, г. зн. не пасеяна), 112, 115—118, 120, 122 (пустое незасеянае поле), 123 (непахатная зямля), 124—126, 128, 129, 135 (*каровы на яловіне ходзяць*), 136, 137 (*тая ялавіна даўно не засяецца*), 140 (*ялавіна даўно не засявалася*), 141 (*ялавіна — пустое поле — ідзе пад скот, там нічога не сеюць, а ходзіць, пасецца скот*), *ялывіна* 42, 43, 78 (*зямля, катораяя адпачыла, каторую не сеялі вясной*), 84 (*ялышіна*), 85 (*ялывына* — даўно сеянае поле), *ялъвіна* 41 (*там з вайны ялъвіна*), *еловіна* 114 (часцей — *поле яловее, парэніна*).
Адзначаны таксама лексемы з коранем *-ялаў-* са значэннем абложная зямля:
*ялавіць* 4 (*зімля нясееная — ялаваіць*), 79 (*ялавіла поле* — адпачывала), 15 *ялъвіць* 5 (*ялъвіла зімля толькі*), 15 (*ялъвіць* — пра зямлю, якая не апрацоўваецца некалькі год). *ялавець* 61 (*ялаввее зямля*, якая не засяваецца), 114 (часцей — *поле яловее, парэніна*). *заялавець* 132 (*заяловіло полэ, пуд попар пускають*), *яблонь заяловіла, ялова стала ны цвытэ гэтой год; і корова ялова, ны побігала*). *заялавець* 20 (*зямля заялавеўшы*), *з'ялавець* 98 (*поле ні урэ рік, два, ні сійе, та лежеть, ні пуурав, з'ялувіло*). *пераялавець* 27 (*астаўляюць зямлю, кап пераялавіла*; слова *ялавіна* не кажуць), 57 (*зямля пераялавела*), 86 (*пепе$^{a}$ялъвіла зямля адзін год і два гады а$^{ъ}$ддахнула*), *паялавіць* 98 (*полэ пуялувіло — ны урэ рік, два, ны сійе. та лэжэть, ны пуурав, з'ялувіло*), 108 (*пояловіло полэ*), *елавець* 58 (*еловее груша, яловая земля, еловэ поле*). *ялавая* 58 (*ялавая зямля, якую не абраблялі, ні сеялі*), 66 (*ялавая зямля, палоса*), 30 (*зімля піралогам, або ялывая зімля*), 132 (*і корова ялова, ны побігала*), *ялавае* 108 (*яловэ полэ*), 5 (*ялавая поля*), 121 (*ялавая поля, яно год-два гуляя*). *ялавое* 85 (*ялавое поля пыд пашу кідаййцца, пасьціць ідзе ёсьць*), 133 (* яловэ поле*). *елавэе* 85 (*елавэя поля прідазаснежыла беліньнкім сьняжком* — з вершаванай прозы, паведаміў І. Я. Яшкін), 138 (*еловэ поле*). *ялавё* 31. *ялаўе* 74 (абложная зямля), *ялавя* 74 (абложная зямля).
'папар':
*ялавіна* 21 (*дзе пасцілі каровы, папар гот паляжыць — ялавіна*), 45 (*на ялавіне пасеялі жыта*), 47 (*шмат ялавіны за лесам*), 48 (*яшчэ ў мінулы год гэту ялавіну адвялі на жыта*), 53, 61 (*ялавіна ялавее* — папар), 70 (папар), 94 (*ялавіна пры$^{і}$готоўяна на сеўбу жыта*), 104 (*ялавіна* — папар), 126, 130, 140 (*жыта на ялавіне пасеем*), 135, 137 (*узараў я ялавіну, увосень засею*), 140 (*жыта на ялавіне пасеем*), 142 (поле, якое прызначалася для пасеву жыта; тое што і папар). *ялывіна* 79 (папар). *еловіна* 114 (*еловіна; поле яловее, парэніна*), 134 (*еловіна* — поле пад жыта, якое адпачывае 1 год).
Адзначаны таксама лексемы з коранем *-ялаў-* са значэннем 'папар': *ялавё* (поле, якое прызначалася для пасеву жыта; тое, што і папар). *ялаўе* 74 (поле, якое прызначалася для пасеву жыта). *ялавя* 74 (поле, якое прызначалася для пасеву жыта). *поялавіло* 108.
'прагаліна ў лесе':
*ялавіна* 65 (голае месца ў лесе).
'мяса (каровы, цяляці)':

*ялавіна* 3 (*ялавіна з каро́вы старо́й мя́са, а з маладо́й — ялаві́чына*), 18 (*ялавіна — каро́віна мя́са*), 20 (*ялавіна — каро́ўскае мя́са*), 32 (*ялавіна —* гавядзіна), 33 (*ялавіна — мя́са с каро́вы*), 52 (*ялавіна — мя́са карові́чае*), 77 (*ялавіна — каро́віна мя́са*), 88 (*ялавіна — е́та мя́са з ялавай каро́вы*), 11 (*ялавіна — мя́са каро́вы*), 113 (*яловіна — м'ясо коро́в'ячэ*), 130 (*ялавіна — мя́са каро́вяччае*), *ялъвіна* 5 (*ялъвіна — мя́са каро́ў*). *ялывіна* 16 (*мя́са з каро́вы*), 83 (*ялывіна — каро́ўе мя́са*), *ялаві́чына* 3 (*ялаві́чына — мя́са з маладо́й каро́вы*), 19 (*ялаві́чына —* пераважна *каро́ўске мя́со*), 38 (*ялаві́чына — каро́вячае мя́са*), 84 (*ялаші́чына —* мяса з каровы), 139 (*ялаві́чына — мя́са каро́ў*). *ялъві́чына* 34 (*ялъві́чына —* мяса з буйной рагатай жывёлы), *ялавіца* 8 (*ялавіца — каро́віна мя́са каро́вы*). *ялавае* 1 (*ялавая мя́са, каро́ўя мя́са*), 39 (*ялъвъя мя́са —* гавядзіна). *ялывіна* 42 (*ялывіна — ціля́ччыя мя́са*), 83 (*ялывіна — цяля́ціна*).

Пашырэнне слова *ялаўка* 'ялавая карова' і аднакарэнных: *ялаўка* 4 (*каро́ва, як ня це́льная, то ялаўка*), 8 (*ялаўка — не цялі́ўшая каро́ва*), 22 (*ялаўка — каро́ва, якая не це́ліцца не́калькі гадо́ў*), 120 (*ялаўка — каро́ва, яка́я не цялілася, перадо́йка*), 137 (*коро́ва яловее, була́ ялоўкою*), *ялуўка* 19 (*ялуўка — каро́ва, што не цялілася*), 138 (*ялуўка —* карова), *ялыўка* 30 (карова), *ялавіца* 58 (*ялавіца — каро́ва, якая не до́йіцца, запусці́ў на ялавіцу*), 66 (*ялавіца — каро́ва, 2—3 гады́ не цялілася*), 109 (*коро́ва яловыца*), *е́лувыца* 98 (*е́лувыца — тэлу́шка бэз мулука́*). *ялавая* 121 (*каро́ва ні пагуля́ла — ялавая*), 94а (*каро́ва, ны побі́гала*), 103 (*ялова коро́ва ны побі́гала*), 132 (*коро́ва ялова, ны побі́гала*), 137 (*коро́ва яловее, була́ ялоўкою*).

Адводзяцца:

лексічныя адпаведнікі са значэннем 'абло́жная зямля':

*абло́га* 35, 73 119, 127. *абло́х* 51 (*абло́х — по́ле, като́ро не гарэ́цца*). *пера́ло́г* 90 (*зімля́ піра́ло́гам*), 60 (*абло́жная зямля́ ляжы́ць гот пяра́ло́гам, а на другі́ го̂т на ялавіну пакіда́юць се́яць*). *абло́жная зямля́* 11, 56, 59, 60, 65. *кісля́* 29. *полі́ток* 95, 103. *залы^е гля́* 103 (*полі́ток, залы^е гля́*). *дубро́ва* 129. *адбо́й* 23 (*адбо́й —* поле, якое пакінута на адпачынак, дзе пасуцца каровы), 10. *за́леж* 107. *зале́жына* 107. *злі́г* 96. *о̂блі́г* 90. *пырылі́г* 90. *лёгкопо́льыца* 94а (*пэшчана́я зэмня́, сыва зэмня́, лёгкопо́лыца*). *зале́глэйе по́ле* 113. *яблагова́ць* 139. (*яблагу́е, што гуля́ зямля́, неспа́хана*). *благова́ць* 120 (*зямля́ благу́я*). *праблагава́ць* 120 (*праблагава́ла зямля́*). *валгава́ць* 2 (*зімля́ валгу́йіць, пусту́йіць, а сам лы́нтайіць туды́-сюды́*). *папа́р* 28. *па́раніна* 36. *па́рына* 98 (*па́рина — ро́кiв два-штêре*). *папа́рная зімля́* 80 (*пъпа́рная зімля́*),

лексічныя адпаведнікі са значэннем 'папар':

*папа́р* 8а (*по́ля гуля́ла; по́ля було́ папа́рам, бы́ў папа́р*), 23 (поле, якое пакінута на адпачынак, пад жыта), 28, 43, 45 (*папа́р, на папа́ры пасе́ялі жы́та*), 59, 67, 68 (*папа́р, папару́я по́ля, бу́дуць се́яць жы́та*), 73, 75, 81 (*папа́р на абло́жнай зямлі*), 111 (*папа́р —* поле, якое пакінута на адпачынак на адзін год), 114, 115, 118, 119, 124, 142. *по̂па́р* 90. *попа́р* 96, 97, 103, 107, 108, 113. *пупа́р* 7, 40 (*зімля́ пупа́р так і называ́ецца*). *попопарі́ты* 108 (*попопарі́ло по́лэ*). *папа́раваць* 68 (*папа́руя по́ля, бу́дуць се́яць жы́та*). *па́раніна* 36 (*для пасе́ву жы́та*), 82, 128, 131. *па́рыніна* 93. (*па́рыніна паляжы́ць із зімы́ да о́сені*). *па́рініна* 84. *па́рынына* 95. *па́рына* 17, 95. *пар* 35, 124. *ублі́г* 92. (*ублі́г, ублыгу́е зымля́*). *пэрэлэ́жаты* 94а (*пэрэлэ́жа^е на зэмня́, у попары́ зэмня́*). *по́лэ на жы́то* 95, 98 (*по́лэ на жэ́то*), 132 (*по́лэ на жы́то*). *тало́ка* 127, 129.

### Карта № 70

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *ХЛОПЧЫК, ХЛАПЧУК, ХЛАПЧА́К*

№ 3579 «Хлопчык, хлопчак, хлапчук...»

Паколькі характар пытання накіраваны на высвятленне, з дапамогай якіх суфіксальных афіксаў утвараецца назоўнік хлапчук 'дзіця малога ўзросту', то на карце картаграфуюцца толькі тыя лексемы, значэнне якіх адпавядае дадзенай узроставай катэгорыі дзіцяці. Нейтральнае ў адносінах да яго дырэватаў слова *хло́пец* на карце не падаецца. Геаграфіі пашырэння гэтага назоўніка прысвячаюцца асобныя карты (ЛАБНГ, т. 3, к. №№ 171, 172).

Фанетычныя адрозненні ў межах аднаго і таго ж словаўтваральнага варыянта пад увагу не прымаліся. Знакам *хло́пчык* адлюстроўваюцца *хло́пчак, хло́пчік, хло́пцык; хлапчу́к — хлопчу́к, хлупчу́кь, хляпчу́к; хлапча́к — хлопча́к, хлопчя́к, хлупча́к, хлупче́к, хлопче́кь*.

Акрамя ўказаных назоўнікаў, у адказах збіральнікаў маюць месца іншыя найменні ў іх суфіксальных варыянтах. Спіс гэтых лексем прыводзіцца ў каментарыі.

*хло́пчык* 3, 7, 9—11, 14, 17—19, 21, 24, 25а — 29, 31, 34—45, 47—49, 50, 53—63, 65—67, 69—92, 94—96а, 99—104, 108, 109, 112, 114—133, 135, 137—139, 141, 142. *хло́пчік* 13, 98, 113, 134. *хло́пцык* 16. *хло́пчак* 23.

*хлапчу́к* 2, 4, 10, 11, 22, 26, 40, 48, 53, 54, 57, 59–61, 66, 67, 73–75, 80, 81, 83, 84, 86, 102, 104, 105, 111, 118, 121, 127, 129, 135, 142. *хлопчу́к* 90, 108, 132. *хлупчу́кь* 98. *хляпчу́к* 96.

*хлапча́к* 19, 21, 46, 48, 49, 50—52а, 54, 55, 57, 58, 75, 81, 93, 102, 110, 127, 129, 135, 136, 140. *хлопча́к* 94, 94а, 108, 109, 113, 114, 131, 132, 134, 138. *хлопчя́к* 90, 92, 95, 96, 103. *хлупча́к* 91. *хлопче́к* 92. *хлопче́кь* 98.

Адведзены: *хлапчанёнак* 129. *хло́пчычак* 60. *хлапчано́к* 125. *хлопченю́к* 108. *хлапе́чык* 85, 87, 89. *хлапчаня́* 53. *хлапчанё* 68, 69, 71. *хлапе́ц* 20, 25, 27 (бальшы), 35, 69, 73, 77, 111, 129, 133. *хло́пец* 9, 51, 103, 107, 132, 135, 138, 141. *хло́піц* 4, 16, 35, 44. *хло́пац* 106. *хло́пяц* 56, 64, 115. *хло́пэц* 101. *хло́пэць* 98. *хло́пыць* 90. *хло́па^эц* 93. *хло́пець* 96. *хлоп* 129. *хла́пак* 21. *хлапчы́на* 70. *хлупчêна* 98. *хлопчы́на* 132. *ма́ліц* 5, 6, 8а, 16, 29 (трад.), 32. *ма́лец* 9, 30. *пыца́н* 29 (нов.). *мальчо́нак* 1, 4 (пераважна), 8, 8а, 10, 11. *мальчанёнак* 10, 11. *мальчы́шка* 1.

### Карта № 71

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *ДЗЯЎЧЫНА, ДЗЯЎЧО́, ДЗЯЎЧУ́К*

№ 3605 «Дзяўчына, дзяўчо, дзяўчук...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты назоўніка дзяўчына.

З улікам таго, што назвам дзяўчыны згодна з яе ўзростам прысвячаецца спецыяльная карта (ЛАБНГ, т. 3, к. 173), на гэтай падаюцца толькі тыя формы імя, якія патрабуюцца пытаннем. Як *дзе́ўчына* картаграфуецца *дывчыне́*, як *дзяўчо́ — дзяўча́, дзе́ўча*.

*дзяўчы́на* 3, 4, 8—11, 15, 19, 21, 24—29, 31, 35, 37, 42, 48, 52а — 54, 57—60, 64—68, 70, 72, 73, 75, 78, 80, 81, 83, 84, 86, 87, 89, 104, 119, 121, 123, 125—130. *дзяўчі́на* 5, 23. дзеўчы́на 124, 138. *деўчы́на* 126. *деўчі́на* 134.

*дзе́ўчына* 20, 45 (падлетак), 46, 50, 51, 54, 56, 61, 62, 67, 74, 76, 93, 100, 102, 104 (раней), 106, 107, 111, 114, 118, 135. *дзе́вчіна* 113. *де́ўчына* 94. *дівчына* 90, 92, 94а—96, 103, 108, 109, 131, 132. *ды́вчына* 91. *ді́вчіна* 98. *дывчыне́* 131.

*дзяўчо́* 31, 53, 54, 60, 61, 69, 71, 104 (малая), 105, 110, 140. *дзяўча́* 50 (рэдка). *дывче́* 131. *дзевча́* 113. *дзе́ўча* 37.

*дзяўчу́к* 5, 6, 9, 10 (падлетак), 11, 45, 47—50 (рэдк.), 52а — 55, 93, 129 (устар.), 142 (старая). *дывчу́к* 92, 96, 103, 131, 132. *девчу́к* 108, 109. *дзеўчу́к* 102 (дзяўчына-падлетак), 135. *дівчу́к* 94а, 99.

Адведзены: *дзе́ўка* 5, 8а, 9, 15, 16, 18, 22, 29 (дарослая), 32 (дарослая), 34, 35, 38, 39, 44, 57, 59, 60, 63, 67, 75, 76, 78—82, 85—89, 102, 112 (малая), 119, 124, 129, 136, 137, 139, 141. *дзі́ўка* 139 (старая). *ді́вка* 90, 95—96а, 98, 103, 108, 109, 132. *де́ўка* 94. *дзе́вка* 113. *дзе́вачка* 9, 17, 28, 33, 38, 60, 69, 86, 112, 119 (малая), 120, 122, 127, 129, 135. *дзе́въчка* 12, 13, 34. *дзе́вычка* 41, 43, 85. *ді́вочка* 133. *дзе́вочка* 113. *дзі́вачка* 139 (малая). *дзі́вачко* 141, 142. *дзе́ўчынка* 52, 52а, 77, 101, 112, 117. *дзе́ўчанка* 111. *ді́вчынка* 94а — 96, 103, 108, 109, 132. *ді́вчінка* 98. *дзяўчы́нка* 18, 19, 30, 63, 68, 69, 72, 74, 80, 86, 99, 105, 110, 116—118 (малая). *деўчі́нка* 133. *де́ўчынка* 94. *дзе́ва* 75 (старая дзеўка), 88, 129 (старая). *де́ва* 94. *дзяўчо́нка* 1, 7—9, 14, 16, 32 (малая), 35, 36, 44, 73, 75, 125. *дзяўчынёшка* 2 (невялікая), 4, 8, 25. *дзіўчынёшка* 11. *дзіўчънёшка* 8а.

*дзяйчунёха* 22. *дзійчънёха* 8а. *дзеўчынёха* 21. *дзявýлля* 11 (асудж. пра лянівую дзяўчыну). *дзявю́лля* 10 *(вялікая і лянýецца рабіць)*. *девýля* 108. *дзявýння* 88. *дывзнó* 95, 96, 132. *дзевзнó* 113. *дзявіца, дзевіца* 129 (старая). *дзéтка* (трад.) 10. *дзеўчанё* 74. *дзійчынёнка* 11. *дзяўчýшка* 16, 40. *дзéвушка* 40, 86, 88. *пудырóстык* 40. *панéнка, пáнна* 51. *дзевішче* 113.

## Карта № 72

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *ГНІЛЕЦ, ГНІЛУШКА, ГНІЛЯК*

№ 3586 «Гнілец, гнілушка, гніляк (гнілое стаячае дрэва)...»

Картаграфуюцца назоўнікі, вытворныя ад лексемы гніль. Паказаны іх суфіксальныя адрозненні. Як *гнілéц* падаецца *глыныцы*, як *гнілýшка — гнілýха, гнілýша*, як *гнілáк — гнілякé, гніляка, гнільлё, гнілка*.

Прыметнік *гнілы* адводзіцца ад картаграфавання з-за неадпаведнасці тэме карты і яго частковай фіксацыі збіральнікамі.

Семантычныя адрозненні ва ўжыванні лексем пры картаграфаванні не ўлічваліся. Аднак, заўважым, што назва *гніля́к* 'кусок гнілога, спарахнелага дрэва' пашырана на Беларусі. Акрамя таго, у н. пп. 8, 29, 50, 140 яна выступае ў значэнні 'хваравіты, слабы чалавек'. Найменне *гнілéц* паводле семантыкі вызначаецца як 'заразная хвароба пчаліных лічынак' (н. пп. 34, 52а, 77, 118, 135, 137, 138); як 'хваравіты, слабы чалавек' (н. пп. 6, 8, 9, 38, 40); як 'кавалак гнілога, спарахнелага дрэва' (н. пп. 17, 29, 53, 54, 67, 74, 89, 111, 126, 127, 135, 139); адзінкава 'хвароба ў палене' (н. п. 135). Лексема *гнілýшка* 'кавалак гнілога, спарахнелага дрэва' адзначаецца (н. пп. 10, 11, 16, 35, 38, 39, 41, 42, 44, 54, 60, 78, 83—86, 88, 104, 126, 129); 'гнілая бульба (пасля зімы)' (н. пп. 29, 123); 'гнілыя, ляжалыя грушы-дзічкі' (н. пп. 99, 113, 134); адзінкава 'хворы, слабы чалавек' (н. п. 57).

*гніля́к* 2 *(прынясі мне гнілякóў пракурстáць печ)*, 3—5, 8 (на слабага чалавека), 8а, 13—15, 20—29 (хваравіты чалавек), 30—32, 34 (гнілое палена), 38, 41, 43, 46 *(гніля́к не бýдзя гарэ́ць)*, 48, 49а, 50 (гнілое дрэва і пра хваравітага чалавека), 51 (гнілякоў многа, як разбіраюць будынак), 52а (гнілое дрэва), 53—55, 57 (гнілое ляжачае дрэва), 58 (у дупле), 60—62, 66, 69, 74, 76, 78, 79, 82, 83, 85 (трад.), 87, 89—91, 93—94а, 96, 99, 100, 102, 104, 105, 107 *(глніля́к)*, 110, 111, 114, 116, 125, 133, 136, 140 (пра чалавека і пра лес). *гныля́к* 92 (гнілое дрэва, бульба), 95, 103, 109, 132. *гніля́ка* 138 (дрэва). *глінéк* 98. *гнылéк* 131. *гнілякé* 46 *(гнілякé аднá і брацьнімá чагó больш)*. *гнільлё* 2, 76. *гныльё* 90. *гныльлё* 96а. *гнілка* 94 *(гнілáя грýшка, падгніýша)*, 135. *гнылка* 95, 96.

*гнілéц* 6 (на чалавека), 8 (на слабага чалавека), 9 (хілы чалавек), 17, 29 (гнілая палка), 34 (хвароба), 38 (на чалавека), 40 (чалавек і дрэва), 52а (хвароба ў дрэў) — 52а, 53, 54, 67, 74, 77 (хвароба ў пчол і палене), 89, 111, 118 (хвароба ў пчол), 126, 127 (дрэва, якое згніло на парахно) 135 (хвароба ў пчол і ў палене), 137 (у пчол), 138 (у пчол), 139. *гнылéц* 108 *(што падгніло)*, 109 *(гнылéйе дéрево)*. *гнылыцы* 132 (трошкі падгніўшыя грушы-дзічкі).

*гнілýшка* 10, 11, 16, 29 (гнілая пасля зімы бульба ў зямле), 35, 38 (палка дроў), 39, 41, 42 (што свеціцца), 44 *(кавáлак струпéхлай драўніны)*, 54, 57 (хворы, знявагжліва), 60, 78, 83—86, 88, 89, 99 (груша), 104 (на будову), 113 (гнілаватая грушка), 123 (пра бульбу), 126, 129, 134 (плод ляжалай грушы-дзічкі). *гнылýшка* 108. *гнілýха* 19 *(усё гнілае)*, 29 (гнілая пасля зімы бульба ў зямле), 53, 115. *гнілýша* 68 (сагніўшыя грушкі-дзічкі).

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *гніля́ш* 118 (гнілое стаячае дрэва). *гнілíна* 1, 35.

Адведзены: *сухастóй* 57 (гнілое стаячае дрэва). *кля́кі* 106. *трухля́вэ* 117. *сухастóіна* 120. *дрýзлая дзéрава* 123. *сухастáч* 128.

*гнілы* 72. *гнілэ́е (дзéраво)* 101, 109, 135. *гнылый* 103. *глыный, гнылый, загнылый* 132. *гнілóя* 18, 56 *(дзерава)*. *гнілóйэ* 112. гнілойе (дзерыва) 40, 95, 96. *гнілóе (трухлае дзéрыва)* 36, 45, 59, 70 *(дзéрава)*, 71 *(дзéрава)*, 73 *(дзéрава)*, 80, 93 *(дзéрава)*, 122 *(дзéрава)*, 130, 139, 141, 142. *гнілáя* (дрэва) 8, 70 (хвоя), 126. *гнілáйа* 94. *гнілóя* (дрэва) 7, 16, 45, 49, 63, 65, 75, 81, 121, 124. *гнілóё* 37.

## Карта № 73

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *БЛЯШАНКА* І АДНАКАРЭННЫХ З ІМ

№ 3588 «Бляшанка, бляшак (пасудзіна з бляхі)...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя адрозненні ва ўжыванні назоўніка бляшанка. Як *бляшáнка* падаецца *бляшáначка*, як *бля́ха — бляшаня́*.

*бляшáнка* 3, 8 *(бля́хі кусóк)*, 18, 19 *(пýшачка з бля́хі)*, 20—22, 24 — 25а, 27, 31, 45 *(пасýдзіна з бля́хі)*, 46—48, 50, 52а — 56 (ад кансерваў), 57 (для малака, ягад), 59, 60, 62—65, 67, 68, 71, 72, 74, 76, 77, 86, 90, 91 *(пасýдзіна з бля́хі)*, 93, 94а — 96, 98—100, 102—104, 106, 108, 110, 111, 113, 115, 117—119, 121, 124—126, 127 (на газу), 129—132, 135, 137, 139—142. *блешáнка* 82, 94, 101, 107, 114, 123, 134, 136, 138. *блішáнка* 1 *(кірасін брáлі)*, 2, 4—7, 8а, 10, 11—13 *(бля́ха сушыць рыбу)*, 14, 15, 17, 26, 28, 29, 32, 34—44, 73, 75, 78—81, 83, 85, 87—89, 120, 133. *блышáнка* 96а. *бляшáначка* 71 (мáлая).

*бля́шка* 8а, 74, 90, 103, 108, 116, 119, 132, 125. *блéшка* 98.

*бля́ха* 17, 30, 49а, 71 (для грыбоў), 90, 91, 94а *(хлеб пéчи і хáту крыты)*, 105, 108, 122, 126 (ліст), 132, 141. *блéха* 98. *блешаня́* 49, 112.

*бляхáн* 49а, 52 *(бляшáная бáнка на малакó)*, 52а *(для малакá адстáйваць і кірасіна)*.

*бляшáк* 54, 58.

Словазлучэнні з *бляшáны*: *бляшáная бáначка* 23. *бляшáная пасýда* 69. *блешáны бітóн* 128.

Адведзены: *пасýдзіна* 7. *жысця́ныя пасýдзіна* 40. *манéрка* 75 *(для гáзы)*. *красíнніца* 84. *бáнка* 16, 51, 55.

## Карта № 74

## ФОРМЫ ІМЯ *АНДРЭЙ*

№ 3592 «Андрэй, Андрук...»

Картаграфуецца ўласны назоўнік Андрэй. Пры картаграфаванні паказаны адрозненні ў словаўтваральных элементах. Асобныя варыянты імя, утвораныя з дапамогай памяншальна-ласкальных суфіксаў, аб'ядноўваюцца з вытворнай асновай. Асаблівасці вымаўлення назоўніка ў межах адной лексічнай формы на карце не адлюстроўваюцца.

*Андрэ́й* 1, 2, 4, 5, 7—11, 13—17, 21—31, 34—38, 40, 42, 43, 45—48, 49а — 51, 52а — 77, 80—82, 88, 99, 104—107, 110—116, 118, 119, 121—130, 134—136, 138—142. *Ондрэ́й* 101. *Ондрыéй* 107. *Андрéй* 12, 32, 41, 44, 79, 83—87, 89, 93, 117. *Яндрэ́й* 137. *Андры́й* 91, 96а. *Андрі́й* 90, 92, 94а — 96, 103, 108, 109, 131, 132. *Гандрі́й* 92, 95, 98, 103.

*Андрýк* 2 (даўней), 3, 18—21, 24, 49, 52—54, 66, 94. *Андрю́к* 108.

*Андрýха* 8а, 123, 129. *Андрю́ха* 87.

*Андрýша* 5, 6, 9, 19, 28, 34 (ласк.), 37, 43, 49а, 53, 54, 59, 60, 69, 73, 78—82 (малы), 90, 94—96, 98, 103, 104, 106, 108, 109, 111, 113, 115, 119, 132, 135. *Гандрýша* 95. *Андрю́ша* 86. *Андрýшка* 9, 23, 36, 43, 74, 77 (ласк.), 78, 116, 118, 122. *Андрю́шка* 14, 17, 39, 85, 87, 89 (рэдк.), 117, 120.

*Андрэ́йка* 8а, 31, 37, 43, 57, 68, 71 *(малóя)*, 74, 125. *Андрéйка* 14, 90. *Андрéйко* 94, 106, 112, 113, 133, 135. *Яндрэ́йко* 101. *Андрі́йка* 95. *Гандрі́йка* 95. *Андрі́йко* 94а, 96, 103, 109, 132. *Гандрі́йко* 98, 103 (трад.). *Андрэ́ечка* 125.

Адзінкавыя: *Андрыян* 1. *Éндрусь, Гéндрык* 46. *Андрóн* 53, 91.

## Карта № 75

## ФОРМЫ ІМЯ *ВАЦЛАЎ*

№ 3593 «Вацлаў, Вацюк, Вацук...»

Картаграфуецца ўласны назоўнік Вацлаў. Адлюстроўваюцца суфіксальныя ўтва-

рэнні ад усечанай асновы *Вац-, Ваць-*. Фанетычныя і акцэнталагічныя адрозненні ў межах адной лексічнай формы пад увагу не прымаліся. Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца: з *Вацла́ў — Васла́ў*, з *Ва́ся — Ва́ська*, з *Ва́цак — Ва́цька, Вацю́на*. Агульным адсылачным знакам адлюстроўваюцца формы імя з флексіяй *-я/-ё*. Імя *Вацла́ў* рэдкае. На значнай частцы тэрыторыі Беларусі яно не было зафіксавана. Таму на карце пазначаюцца адсылачнымі знакамі толькі тыя населеныя пункты, дзе гэты ўласны назоўнік ужываецца.

*Вацла́ў* 31, 34, 37, 45, 46, 48, 49а, 52а — 54, 57, 60, 61, 67, 74, 104, 125. *Выцла́ў* 42. *Ва́цлаў* 49, 59, 88, 93. *Васла́ў* 26, 138 (у паляка-перасяленца).

*Вацю́к* 2, 3, 5, 6, 8 (малы), 18—22, 24 (у каталіцкіх сем'ях), 25а, 34 (злосна, груба), 52—57. *Ва́цюк* 48.

*Ва́ця* 19, 20, 29, 31, 35, 46, 49а, 51, 52а—54, 57, 59, 60, 67, 74, 75, 83, 104 (каталіцкае), 110, 139, 140. *Ва́цё* 50, 113.

*Ва́цік* 35, 37 (з каталікоў), 48, 51, 52, 61, 65, 66, 68, 70, 71 (з каталікоў), 105, 141. *Ва́цык* 131.

*Ва́цак* 4, 6, 27, 46 (малы), 47, 62. *Ва́цяк* 45. *Ва́цэк* 99 (каталіцкае). *Ва́цек* 102. *Ва́цька* 8. *Вацю́на* 6.

*Ва́ся* 28 *(Ва́сія)*; 40 *(Ва́с'я)*. *Ва́ська* 16.

Адзінкавыя: *Сла́ва* 58, 135. *Вадзісла́ў* 94.

Адсутнасць фіксацыі: 1, 7, 8а — 15, 17, 23, 30, 32, 36, 38, 39, 41, 43, 44, 55, 56, 63, 64, 69, 72, 73, 76—82, 84—89, 90—92, 94а — 96а, 98, 100, 101, 103, 106—109, 111, 112, 114—124, 126—130, 133, 134, 136, 137.

Адведзены: *Вацю́на* (жанчына) 59. *Габру́к, Паўлю́к* 25. *Яросла́в* 132 (у Століне).

### Карта № 76

## ФОРМЫ ІМЯ *ДАНІЛА*

№ 3595 «Даніла, Данілюк...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя варыянты ўласнага назоўніка Даніла. Памяншальна-ласкальныя формы імя аб'яднаны з іх вытворнымі асновамі. З *Да́ня — Да́нька, Да́нік, Да́нечка, Да́ньцік, Да́ньчык, Да́нусь*, з *До́ня — До́нька, До́нік, До́нюшка*, з *Дані́лка — Даны́лочка, Дані́лычко, Данілóк.*

*Дані́ла* 1, 2, 4 (у старавераў), 5, 7—17, 21, 23—26, 28—32, 34—45, 47, 48, 49а, 51, 52а — 54, 57, 58, 62—69, 104, 111, 116, 118—130, 139—142. *Дані́л* 27. *Дані́ла, Дані́ло* 49, 50, 56, 60, 61, 93, 94, 98, 99, 100, 101, 102, 105—108, 110, 113—115, 117, 133—138. *Даны́ло* 90—92, 94а — 96, 103, 109, 131, 132.

*Дані́люк* 18, 53, 54.

*Да́ня* 51, 116, 119, 120. *Да́нік* 10, 54, 61, 94а (нов.), 95, 96, 103, 132. *Да́нечка* 9. *Да́ньцік* 113. *Да́ньчык* 109, 119. *Да́нусь* 3. *Да́нька* 5. *Да́нько* 133. *Да́нё* 113. *Дэ́ня* 104.

*До́ня* 43, 78, 86, 89 (рэдк.), 118 (ласкава на малога). *До́нька* 6, 14, 17, 35 (ласкава). *До́нік* 62. *До́нюшка* 78.

*Дані́лка* 2, 14, 28, 31, 37, 43, 49а, 57, 69, 74, 77—79, 88, 111, 116, 120, 122, 123, 125. *Дані́лко* 94, 98, 101, 106, 112, 113, 117, 135. *Даны́лко* 95, 103. *Даны́лочка* 95. *Дані́лычка* 79. *Данілóк* 2.

Адзінкавыя: *Дамі́нік* 3. *Дзі́ма* 54.

Адсутнасць фіксацыі: 20, 22, 45, 52, 59.

Адведзены: *Данілю́к* (прозвішча) 58, 80, 88, 98. *Данылю́к* 96. *Данільчу́к* 19, 103. *Данілé віч* 103. *Данількé віч* 103. *Данылó віч* 108. *Данілó віч* 113.

### Карта №77

## ФОРМЫ ІМЯ *ЗМІЦЕР*

№ 3596 «Зміцер, Змітро, Змітрук...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя варыянты і формы назоўнікаў Зміцер і Дзмітрый. Пры картаграфаванні ўлічаны акцэнталагічныя адрозненні ва ўжыванні імя *Змітра*. Асаблівасці вымаўлення гэтага ўласнага назоўніка, у тым ліку з наяўнасцю ці адсутнасцю пачатковага зычнага, пад увагу не прымаліся. Асобныя суфіксальныя і некаторыя памяншальна-ласкальныя варыянты, вытворныя: ад *Зміцер — Зміцёр, Дмыцёр, Дмётюр, Дмётюрка*, ад *Змітрóк — Змітрачóк, Змі́трачка*, ад *Дзмі́трый — Дзі́ма, Дзі́мка* падаюцца адсылачным знакам зыходнай формы.

*Змі́цер* 31, 45 (старога), 48, 57, 112, 116, 119, 120, 122, 123, 126, 140. *Зьмі́цер* 9, 53, 61, 66, 70, 81, 110, 113, 115, 118. *Зьмі́цяр* 25, 54, 68, 69 (пераважна), 71, 72, 77. *Змі́цяр* 121. *Змі́цір* 25а. *Зьмі́цёр* 114. *Мі́цёр* 96, 101, 102 (стары). *Дмы́цер* 90. *Дмы́цёр* 91, 92, 96, 103, 109. *Дмé цёр* 96а. *Дмётюр* 98. *Дмы́тёр* 108. *Дмётюрко* 98.

*Змі́тра* 15, 28, 31, 36, 53, 57, 73 (трад.), 104, 126, 129. *Зьмі́тра* 1, 26, 27, 29, 30, 32, 34, 35, 38, 40, 54, 69, 74, 75, 84, 107. *Змі́тря* 13, 39. *Зьмі́тро* 114, 134. *Дзімі́тра* 8, 8а, 21. *Дзямі́тра* 40. *Дмы́тро* 103. *Мі́тра* 89 (рэдк.). *Мі́тро* 94. *Мы́тро* 95, 109, 132.

*Змітрó* 119, 121, 125, 126, 128, 129, 136, 139, 141, 142. *Зьмітрó* 124, 127, 135—138. *Мітрó* 133. *Дмытрó* 108.

*Змітру́к* 18, 20, 49а, 54, 57, 88, 104 (часцей), 106, 116, 119, 126, 129. *Зьмітру́к* 23, 34 (груба, злосна), 50, 51 (старэйшыя называлі), 52а, 53, 55, 56, 60—62, 64—66, 83, 99, 100. *Мітру́к* 49, 93.

*Змітрóк* 5, 7, 14, 24, 28, 36—38, 41, 67, 68, 73, 88, 89, 123, 129. *Зьмітрóк* 1, 2, 6, 8—13, 16, 21, 26, 35, 42—44, 63, 74, 79, 81, 82, 84—87, 105, 110, 111. *Змітрачóк* 37, 78, 111. *Зьмітрачóк* 43, 79. *Змі́трачка* 37.

*Змі́трык* 47, 60, 77, 81, 112, 116, 119, 122. *Змі́трік* 44, 85, 89. *Мі́трык* 101.

*Мі́ця* 10, 17, 53, 60, 69, 82 (ласкава), 86, 90, 94а — 96, 98, 102 (малады), 103, 104, 108, 113, 119, 120, 123, 127, 132, 135 (нов.).

*Мі́цька* 9, 17, 23, 82, 87, 90, 130.

*Дзмі́трый* 73, 80, 120.

*Дзімі́трый* 106, 130. *Дмі́трій* 17. *Дзі́ма* 45 (малога), 51. *Дзі́мка* 17.

Адзінкавыя: *Юзі́мка* 4. *Зьмітру́ха* 12. *Міця́к* 76.

Адведзены: *Раўлу́к, Франу́к* 3. *Дзімітру́к* (прозвішча) 19, 52. *Дмытру́к* (прозвішча) 96, 98, 108. *Мытру́к* 132. *Зьмітрачóнък* (прозвішча) 80.

### Карта № 78

## ФОРМЫ ІМЯ *КАЗІМІР*

№ 3597 «Казімір, Казя, Казюк...»

Картаграфуецца ўласны назоўнік Казімір. Паказаны некаторыя акцэнталагічныя і словаўтваральныя асаблівасці яго ўжывання. Фанетычныя адрозненні ў межах асобнага лексічнага варыянта пры картаграфаванні не ўлічваюцца. Форма *Ка́дзік* аднаўлена паводле формы *Кадзі́чак* 36. Як *Ка́дзік* падаецца *Ка́дзя*, як *Кузьма́ — Ку́зя.*

Імя *Казі́мір* не вельмі частае на Беларусі. У многіх населеных пунктах яно не было зафіксавана.

*Казі́мір* 4, 11 (рэдка), 17, 24, 27 (стары), 28, 30 (рэдка), 36, 48, 49а, 52а — 54, 57, 59, 62, 66, 67, 69, 74, 75, 79, 86, 88, 90 (каталіцкае) 94, 99, 102 (стары), 104, 107—109, 111, 116, 125—127, 130, 131, 136, 140—142. *Казімé р* 60, 77, 128. *Козымы́р* 96а. *Кызімі́р* 35, 40, 78, 83, 129. *Кӡзі́мір* 42. *Казьмé р* 46, 56, 135, 137, 138 (у в. Казіміраўка).

*Казі́мір* 1 *(клічуць каталіцкім імем)*, 2, 8, 9, 14, 26, 45. *Казі́мяр* 25. *Казі́меш* 53. *Казі́мер* 21, 61.

*Казю́к* 2—4, 6, 8 (як малы), 8а, 18—22, 24 (у католікаў), 25а, 29, 34 (груба, злосна), 46—48, 52, 53, 54, 57—59, 94, 107, 126.

*Ка́зік* 2, 5, 8а, 9, 14, 17, 23, 27 (малады), 31, 34, 36, 46, 47, 49а, 51, 52а — 54, 59, 61, 68 (маці заве), 69, 78, 82, 90, 102 (малы), 104 (каталіцкае імя), 106, 108, 113, 135, 142. *Ка́зык* 131.

*Ка́зя* 3, 20, 22, 25а, 28, 29 (у шляхты), 30, 33, 35, 45, 49а, 54, 57, 60, 62, 67, 71 *(завуць каталікі)*, 72, 74, 75 *(ён, яна)*, 82, 94, 100, 104, 107, 116, 126. *Ка́зё* 50—52, 93, 108, 109.

*Ка́дзік* 36, 37. *Ка́дзя* 120.

*Кузьма́* 16, 89. *Ку́зя* 120.

## Карта № 194

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *НЕЎМІРУЧЫ, НЕЎМІРУШЧЫ*

№ 3850 «Неўміручы, неўмірушчы...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў у значэнні 'які жыве вечна, не паддаецца смерці.' Адным знакам картаграфаваліся ўтварэнні *неўмірушчы* і *ніўмірушы*.

*неўміручы* 36, 67, 115, 120, 122, 125, 129, 135, 137, 141. *ніўміручы* 9—11, 33, 38, 70, 75, 81, 118, 121, 126, 130. *ніўміручый* 40, 41, 83, 87, 89 (рэдк.).

*неўмірушчы* 1 (*неўмірушчае* слова), 4, 17, 19, 21, 23, 24, 28, 31, 37, 47, 53, 59, 62, 63, 67—69, 73, 74, 82, 100—102, 104—106, 110—112, 114, 116, 117, 119, 123, 124, 129, 138—140, 142. *неўмірушчый* 14, 80 (*жыве доўга*), 86, 88, 107. *ніўмірушчы* 5, 6, 8 (*ён жывець і жывець*), 13, 18, 25, 26, 29, 30, 32, 35, 43, 49, 65, 75, 78, 127, 128. *ніўмірушчый* 7, 8а, 42, 44, 79, 84, 85. *няўмірушчы* 22, 27, 45, 46, 49а, 51, 54, 60, 61, 64, 66, 72. *нэвмэрушчый* 97. *нэўмэрушчы* 93. *нэвмырушчый* 92, 108, 109. *невмірушчі* 113, 134. *нывмірушчы* 98. *нывмырушчый* 103, 132 (рэдк.). *ніўмірушы* 76. *ніўмірушый* 16.

*неўміраёнцы* 47, 52.

*бэсмэртный* 94а. *бысмэртный* 95, 96.

Адзінкавыя: *ён нігды не памрэць* 3. *жывушчы, ніколі ня памрэ* 56. *жывушчы, смерці німа* 58.

## Карта № 195

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *СМЯРДЗЮЧЫ* І ЯГО АДПАВЕДНІКАЎ

№ 3851 «Смярдзючы, смярдзюшчы, смярдзячы...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў у значэнні 'які вылучае смурод, смуродны'. Як прыметнік *смярдзючы* картаграфуецца *смярджучы*, як прыметнік *смярдзюшчы* — *смярджушчы*, як прыметнік *ванючы* — *ванюцый*.

смярдзючы 1—6, 9—11, 17, 21—26, 28, 30, 31, 33—38, 43, 52, 58—74, 76—78, 81—89, 104, 105, 110—112, 114—130. *смярдзючый* 7—8а, 12, 14, 15, 29, 39—41, 44, 79, 80, 83—86 (рэдк.), 87—89. *смердзючы* 135, 137, 139. *смердзючый* 107. *смердзючі* 113, 133. *смардзючы* 138. *смердючый* 108, 109. *смердючі* 134. *смырдючый* 132. *смярджучы* 27, 75, 82.

смярдзюшчы 18—20, 48—49а, 52—54, 57, 59, 60. *смярджушчы* 75.

*смярдзячы* 45—48, 50, 51, 52а — 56, 67, 99, 100. *смердзячы* 102. *смердячый* 108. *смярдячый* 90, 91, 95—96а, 103, 132. *смэрдячы* 93, 94. *смэрдячый* 94а, 97.

*смырдечый* 92, 132. *смэрдечы* 98.

*ванючы* 32, 112, 122, 123, 125. *ванючый* 40—42, 44, 79, 84, 86, 88. *ванюцый* 16.

*вонячы* 101. *вон'ячы* 106.

## Карта № 196

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *ТРЫВАЛЫ* І ЯГО АДПАВЕДНІКАЎ

№ 3852 «Трывалы, трывушчы...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў у значэнні 'вынослівы, моцны.'

*трывалы* 2 (*трывалы конь*), 3, 4 (*трывалы чалавек*), 5, 6 (*трывалы конь*), 9—11, 14, 17, 20—22, 24—28, 31, 33—37, 39, 45 (*трывалы конь*), 46 (*трывалы чалавек быў наш дзет, ніколі нігоднай хваробы ні меў*), 47—49, 50, 51, 52а, 54, 57, 61, 63—65, 68—71, 74—76, 79, 81, 82, 93, 94, 98, 99, 104, 117, 118 (трывалы — дужы), 119—130, 137, 139, 141. *трывалый* 1 (*чалавек трывалый, робіць дзень і ноч, ні пыклыдая рук*), 7, 8а, 15, 29, 40 (*трывалый ён, ні баіцца хольіда і голыда*), 42, 44, 84, 96. *трівалый* 83, 87.

*трывальны* (*конь трывальны*), 53, 58 (*трывальны конь*). *трывальні* 23 (*трывальні хлопец*).

*трывушчы* 49а, 53, 54, 56, 59, 60, 62, 66 (*конь трывушчы*), 67, 72, 77 (*гад трывушчы, яго не заб'еш*), 105, 110—112 (*такі вудзержаны, такі трывушчы, усё вынясе*), 115 (*трывушчы ён; трывушчэйшага нямá як кот*), 116, 137. *трывушчый* 90—92, 94а, 96а, 97. *трывушчі* 134.

*трывалкі* 38.

*цярпліві* 49. *церпліві* 113, 133.

*церплячый* 107. *тэрплячый* 108, 109. (*він вытрымае — тэрплячый*). *тырплячый* 95, 103, 132.

*крэпкій* 80. *крепкій* 84, 85 (*крепкій, дужа крепкій*), 88, 89.

Адзінкавыя: *вынослівы* 9. *цягушчы* 19. *цягучый* 86.

## Карта № 197

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ПРАДАВАЦЬ*

№ 3855 «Прадаваць, продаць: прадаю, продаю, прадавалі, продалі...»

Картаграфуецца парадыгма цяперашняга часу, а таксама формы інфінітыва і прошлага часу дзеяслова незакончанага трывання прадаваць: *прадаваць, продаць, прадаю,* продаю, прадавалі, продалі. Паказаны супрацьпастаўленні дзеяслова прадаваць па націску.

*прадаваць, прадаю, прадаеш, прадае, прадаваў, прадавалі* 1, 3—6, 8—15, 17—28, 30, 31, 33, 36—38, 44, 45, 46, 48—49а, 51—62, 64—77, 80—83, 86, 88, 100, 104, 112, 115, 116, 118—121, 123—130, 137, 139—142. *прадаваць, прадаю, прадаеш, прадаець, прадаваў, прадавалі* 2. *прадаваць, прадаю, прадаваў* 37. *прадаваць, прадаю, прадавоў, прадавалі* 23, 47, 63. *продаваць, продаю, продаваў, продавалі* 101, 102, 107, 113, 114, 117, 133, 136, 138. *продоваць, продою, продоваў, продовалі* 106. *продаваці, продаю* 93. *продаваць, продавалі* 138. *продаваты, продаю, продавалы* 90—92, 94—97, 103, 108, 109, 131, 132. *продавать, продаю, продаваў, продавалі* 134. *прудаватэ, прудаю, прудавав, прудавалэ* 98. *прыдываць, прыдаю, прыдаеш, прыдаў, прыдалі* 7, 16, 29, 32, 34, 35, 39—43, 78, 79, 83—85, 87, 89. *прыдываць, прыдаю, прыдуваў, прыдувалі* 84. *прыдаю, прудуваў, прудувалі* 79.

*продаць, продаю, продаеш, продае, продаў* 46, 48, 50—56, 58—62, 65, 67, 99, 105, 110, 111, 115, 122, 135, 141. *продаць, продаю, продалі* 138.

## Карта № 198

## *ЛАВІЦЬ, ЛАВАЦЬ*

№ 3858 «Лавіць, лаваць: лаўлю, лаваю, ловіць, лавае, лавілі, лавалі...»

На карце паказаны марфалагічныя адрозненні ў аснове дзеяслова *лавіць — лаваць*, якія захоўваюцца ва ўсёй парадыгме: *лаўлю, ловіш, ловіць, ловім, ловіце, ловяць, лавіў, лавіла, лавілі* і *лаваць: лаваю, лаваеш, лавае, лавалі.*

Адведзены ад картаграфавання назвы *лапаць, лапаты.*

*лавіць, лаўлю, ловіць, лавілі* 1—17, 19, 21—44, 46 (сучасн.), 47—51, 52а — 89, 99—101, 104, 105, 110—112, 116—120а, 123—126, 128—130, 135—142. *лавіці, лаўлю, ловіце, ловат, лавілі* 93. *ловіць, лоўлю, ловіць, ловілі* 106, 107, 113, 114, 134. *ловіць, лоўлю, ловіт, лоўлят, ловілі* 102 (рэдк.), *ловіті, лоўю, ловіт, ловілі* 94. *ловіть, лоўю, ловіть, ловілі* 133. *ловыты, ловлю, ловыт, ловылі.* 90. *ловыты, ловлю, ловыт, ловылі* 91, 92. *ловыты, ловлю, ловыть, ловылы* 94а, 96, 96а, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *лувэтэ, луўлю, ловіть, лувэлэ* 98.

*лаваць, лаваю, лавая, лавалі* 115, 117, 121, 122, 126, 127, 135, 140. *ловаць, ловаю, ловае, ловалі* 102, 113, 114, 120а, 138. *ловаты, ловаю, ловалы* 108. *лывалі, лывай* 35.

Адведзены: *лапаць, лапаю, лапае, лапалі:* 18, 20, 45, 46, 52. *лапаты* 92.

## Карта № 199

## ПАРАДЫГМА ДЗЕЯСЛОВАЎ *ЛІЦЬ, ЛЕ́ЯЦЬ*

№ 3860 «Ліць, леяць: лью, лію, лею, лье, ліе, лее, ліў, леяў, налілі, налеялі...»

У адказах адзначаюцца розныя фанетычныя варыянты асабовых форм цяперашняга часу: *лію, лью, льлю,* якія захоўваюць аднолькавы тып націску на апошнім складзе. Пры картаграфаванні фанетычныя адрозненні асабовых форм не ўлічваліся. Не ўлічваліся таксама формы інфінітыва *ліць* і *літы*, якія картаграфуюцца адным знакам. Дадзеныя формы ўжо адлюстраваны ў ДАБМ (карта № 473. У спісе слоў усе варыянты форм падаюцца з абзаца).

На гэтай карце проціпастаўляюцца дзеясловы *ліць, літы, ліці* дзеяслову *ле́яць* з іх асабовымі формамі і формай прошлага часу. У радзе выпадкаў націск у форме прошлага часу множнага ліку падае на аснову, што на карце не паказана, а прыведзена толькі ў спісе слоў.

Формы дзеясловаў *ліць, ліці, літы:*

*ліць вадý, лію, лiе́ш, лiе́(ць), ліём, ліецё, ліюць, лілі́, налілі́* 1—8а, 10, 11, 13, 18, 21, 22—26, 29—30, 34, 52, 52а, 59, 74, 91, 99, 100, 102, 122.

*ліць, лью, лье́ш, лье́(ць), льём, лілі́, налілі* 14, 17, 19, 20, 28, 31—33, 36, 41, 42, 45—50, 52а — 58, 60—64, 67 (пераважна), 89, 104—107, 110, 112—117, 123, 130, 133, 136, 137.

*ліць, льлю, льлеш, лье(ць), льлём, льлецё(це), льлюць, лілí, налілí* 15, 16, 35, 41—44, 81, 85—88. *ілью, ільле́ць* 39—40, 43, 44, 78—80, 84, 120, 121, 134.

*ліць, лью — льлю, льеш — льлеш, лье(ць) — льлець, налíў, налілі* 88. *ліць, ллю, лле, ліў, налілі* 125. *ліць, льлю, льле, ліў, лью, лье, налілі* 126. *ліць, ільлю, льле, ліў, налілі* 127. *ліць, ллю, лле, ліў, налілі* 128. *ліць, ллю, лле, ліў, налілі* 129. *ліць, ллю, лле, ліў, ллюць, налілі* 140—142.

*літы, лію́, лié, лів, налілі* 91. *налью́, лы́ты* 92. *ліці, лю, ле* (ён), *ліў, лілí, налілí* 93. *ліці, лью, лье, ліў, налілі* 94. *лыты, льлю, льле, лыв, налылы́* 94а. *лыты, льлю, льле, лыв, налылы́* 95. *літы, льлю, льле, лів, налылы́* 96. *літы, льлю, лье, лів, лылы́, налылы́* 96а. *літы, лю, лье, налілі* 97. *лэ́тэ, лю, ле, лэ̂в, налилэ́* 98. *лы́ты, льлю, ільлю, льле, лыв, налылы* 99. *лы́ты, льлю, льле, лыв, налылы́* 109. *ілью́, ліць, ліе, льюць во́ду, налí(й), налілí* 111. *літы, лыю́, лыé, лів, налылы́* 131. *лы́ты, льлю, льле, лыв, налылы́* 132.

*ліць, ле́ю, ле́яць* (ён) 12. *ліць, лею, нале́ялі* 65. *ліць, лею, лея, ліў, налілі* 68. *ліць, лію́, ле́іць, ліў, налілí* 83. *лы́ты, льлю, льле, лыв, налылы́; от улéіў дошч* 103.

Формы дзеяслова *ле́яць*

*ле́яць, ле́ю, ле́е, ле́яць, нале́ялі* 37. *ле́іць, ле́ю, ле́я, ле́яў, ле́ялі* 38, 59. *ле́яць, ле́ю, ле́яш, ле́я, ле́ям, ле́ялі, нале́ялі* 66. *ле́яць* (устар.), *ле́ю, улéю, ле́яў, нале́ялі* 67. *трэ́ба ле́яць, ле́юць, вадý ле́ялі* 69. *ле́яць, ле́ю, ле́я, ле́яў, нале́ю, нале́ялі* 70. *ле́яць, ле́ю, ле́я, ле́яў, нале́ю, нале́ялі* 71. *ле́яць, ле́ю, ле́я, нале́ялі* 72. *ле́іць, ле́ю, ле́я, нале́ялі* 73. *ле́іць, ле́ю, ле́я, ле́йіў, нале́йілі* 75. *ле́яць, ле́ю, ле́я, ле́яў, нале́ялі* 76. трэ́ба ле́яць, ле́ю, ле́яш, ле́я, *нале́яў, нале́ялі* 77. *ле́яць, ле́ю, ле́я, ле́яў, нале́ялі* 118. *ле́яць, ле́ю, лея, ле́яў, нале́ялі* 119. *ле́яць, ле́ю, ле́еў, нале́ялі* 124.

## Карта № 200

## ПАШЫРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ *РУБІЦЬ, (РУБА́ЦЬ), СЕКЧЫ*

3864 «Рубаць, рубіць: рубаю, рублю, рубае, рубіць...»

Картаграфуюцца формы інфінітыва на *-аць: -іць (руба́ць — рубíць)* і адрозненні ў флексіі: рубаць; рубаты (-ці-).

Дадаткова картаграфуюцца адрозненні ў формах інфінітыва з асновай на заднеязычны сеч: сячы: секчы: секці, у сувязі з апошнімі формамі пажадана параўнаць тэрыторыю пашырэння іх з картай ДАБМ № 179 «Форма інфінітыва дзеясловаў з асновай на [к]».

У адказах часта даюцца тлумачэнні да дзеясловаў: *рубíць (хату)* гэта значыць 'ставіць, будаваць з бярвенняў зруб хаты', *рубíць, руба́ць, сеч, сячы́, се́кці* ў адносінах да дроў ('сеч дровы'). Так што тут трэба было б даць семантычнае размежаванне, але ў праграмным пытанні яно не ўлічана.

Не адзначана на карце *руба́ць* у значэнні 'есці' у 85, 88 пп.

Як *руба́ты* картаграфуецца *руба́тэ.*

*рубíць* 3, 4, 5, 7, 9—17, 21 (хату), 22, 23, 26, 28, 29 (нов. пра дровы, але рýбіць хату), 30, 31, 34 (хату), 35—44, 49а, 54, 56, 59—64 (хату), 70—76, 78—80 (хату), 81—83, 84 (хату), 85, 86 (нов., рэдк.), 87, 88 ('будаваць') 89, 104, 111, 112, 115—119, 123—130, 133, 135, 138.

*руба́ць* 18, 20, 29, 45—48, 51—54, 69, 80 (дровы), 84 (нов.), 99, 106, 113 (рэдк.), 114, 120, 122, 128 (нов.), 129, 130, 135—138 (дровы), 139—142. *руба́ть* 134 *(дрова́).*

*руба́ці* 93. *руба́ті* 94. *руба́ты* 90—92, 94а, 95—97, 103, 108, 109, 131, 132. *руба́тэ* 98.

*сеч* 1, 2, 6, 8, 8а, 19, 24, 25а, 29 (трад.), 32, 66, 86.

*сячы́* 27, 33, 49, 57, 65, 110, 111.

*се́кчы* 50, 52а, 58, 67, 80, 105.

*се́кці* 77, 100—102, 107, 113, 114, 120а, 121, 122.

Адведзены: *руба́ць* у значэнні 'есці' 85, 88.

## Карта № 201

## *СОХНУЦЬ, СХНУЦЬ*

№ 3867 «Сохнуць, сохці: сохну, схну, сохні, схлі...»

Тэмай карты з'яўляецца супрацьпастаўленне форм дзеяслова сохнуць (з наяўнасцю і стратай каранёвай галоснай дзеяслова).

*со́хнуць, со́хне, со́хлі* 1—5, 8—15, 17—23, 25а — 61, 63—68, 70—75, 78—89, 99—101, 104—107, 110—120, 121, 123—125, 128, 129, 133, 135—141. *со́хнаць, со́хня, со́хлі* 6, 7, 8а. *со́хныць, со́хне, со́хлі* 16. *со́хнуть* 92. *со́хнуті, со́хне, со́хлі* 94. *со́хнуты, со́хне, со́хлі* 90, 91, 97. *со́хнуты, со́хне, со́хлы* 95—96а, 103, 108, 109, 131, 132. *со́хнутэ̂, со́хну, со́хлэ̂* 98. *со́хнуці, со́хну, со́хлі* 102. *со́хці, со́хне, сохлі* 23—25, 46, 53, 67, 69, 76, 77, 93, 119, 120а, 122, 126, 127, 130, 133, 135, 139, 141, 142. *сохці́, сохлі́* 102. *сохті́* 103. *со́хті* 134. *со́хты, сохну́, сохлы́* 109.

*схнуць, схне, схлі* 46, 53, 54, 61, 62, 66, 67, 110, 115, 122, 135, 139, 141. *схну́ты, схну* 95. *схну́тэ, схну, схлэ* 98. *схну* 96, 104. *схлі* 133. *схлы* 109, 131. *пасхлі* 104, 112.

## Карта № 202

## *СОХНУЦЬ, СО́ХЦІ*

№ 2867 «Сохнуць, сохці: сохну, схну, сохлі, схлі...»

На карце адзначаецца пашырэнне формы інфінітыва са стратай суфіксальнага элемента *-ну- со́хнуць>сохці.* Формы *сохтí, сохцí* картаграфуюцца як *со́хці.*

*со́хнуць* 1—5, 8—15, 17—23, 25а — 61, 63—68, 70—75, 78—89, 99—101, 104—107, 110—120, 121, 123—125, 128, 129, 133, 135—141, *со́хнаць* 6, 7, 8а. *со́хныць* 16. *со́хнуть* 92. *со́хнуті* 94. *со́хнуці* 102. *со́хнуты* 90, 91, 94а — 97, 103, 108, 109, 131, 132. *со́хнутэ̂* 98.

*со́хці* 23—25, 46, 53, 67, 69, 76, 77, 93, 119, 120а, 122, 126, 127, 130, 133, 135, 139, 141, 142. *со́хті* 103, 134. *сохтí* 103. *сохцí* 102. *со́хты* 109.

## Карта № 203

## *САПЦІ, САПЕ́ЦЬ, СОПСЦЬ*

№ 3870 «Сапці, сапець...»

На карце супрацьпастаўлены формы інфінітыва сапці. Лексемы *сэпсць, сопць* картаграфуюцца як *сопсьць.*

*сапці* 2, 13, 18, 19, 21—24, 31, 34, 38, 42, 43, 46—48, 49а — 57, 59—64, 66—78, 80, 86, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—122, 124, 126, 127, 135—137, 139—142. *сопті* 94, 134. *сопты́* 132. *сопці́* 101, 102, 106, 107, 113, 114, 133, 138.

*сапсьці* 6, 25, 25а, 49, 58, 65, 93. *сопсті* 103, 134. *сопсты́* 90, 92, 94а — 97, 108, 109, 131. *супсты́* 91. *супстэ̂* 98.
*сопсьць* 44. *сэпсць* 81. *сопць* 128.
*сапе́ць* 1, 3—5, 7—17, 26, 28—30, 32, 33, 35—37, 39—41, 73, 75, 78—80, 82—85, 87—89, 118, 119, 123—127, 129, 130.
Адзінкавыя: *сапа́ць* 20.

### Карта № 204

## *ЦВІСЦІ, ЦВІСЦЬ, ЦВІЦЕ́ЦЬ*

№ 3872 «Цвісці, *цвіце́ць: цвіце, цвіці́ць, цвіту́ць, цвілі, цвіце́лі...»*
Паколькі матэрыял у адказах няпоўны, картаграфаваліся формы інфінітыва цвісці. На карце супрацьпастаўляюцца формы на-*сці (-сты)* і *-ець: цвісці* і *цвіце́ць*. Асобную групу складае форма з рэдукцыяй галоснага тыпу *цвісць*.
*цвіце́ць* 1—17, 21, 24, 28, 29, 32—37, 40—43, 79, 83, 85, 87—89.
*цвісці* 18, 46—48, 49а, 57, 59, 63, 67, 73, 101, 104, 116, 117, 119, 120, 122, 123, 125, 136, 137, 139—142. *цвістэ̂* 98. *цвысті* 103. *цвысты́* 90—92, 94а — 96а, 108, 131, 132. *цвэсты́* 97, 109. *цвісьті* 133. *цвісьці* 102. *цвысьці* 25, 25а. *цьвісті* 134. *цьвісьці* 9, 19, 22, 23, 26, 30, 38, 45, 49, 50, 51, 53—56, 58, 60—62, 64—66, 68—72, 74—76, 78, 86, 93, 99, 100, 105—107, 111—115, 118, 120а, 121, 127, 135, 138, *цьвэсці* 94.
*цвісці* 52а, 80, 110. *цьвісці* 126. *цьвісьці* 31, 35, 53.
*цвісць* 128. *цьвісьць* 20, 42, 44, 82, 124.
Адзінкавыя: *цвыць* 3.
Адсутнасць лексемы: 27.

### Карта № 205

## ПАШЫРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ *ГАНЯЦЬ, ГАНІЦЬ*

№ 3877 «Ганяць, ганіць: ганяў, ганіў, ганяла, ганіла, ганялі, ганілі...»
У адказах, сабраных у паўднёвых раёнах Беларусі, дзеяслоў *гоніці, гоны́ты* адпавядае *гнаць*, як ва ўкраінскай літаратурнай мове — *гнати (жену, женеш), гонити*. Тэрыторыя пашырэння *гоніць, гоніці, гоны́ты* назіраецца, а ў радзе раёнаў супадае з адпаведнай тэрыторыяй парадыгмы дзеяслова цяперашняга часу гнаць: *жэну́, жэне́ш, жэне́...* гл. карту №206). Аднак, паколькі ў адказах адпаведна *ганя́ць* прыводзяцца формы *гоні́ць, гонілі*, то ёсць падставы меркаваць, што *гоні́ць* ужываецца і ў значэнні 'ганяць', мае ітэратыўнае значэнне. Аб гэтым пераканаўча сведчаць шматлікія выпадкі паралельнага ўжывання *ганя́ць* і *ганіць*.
Адведзены ад картаграфавання адказы 41 і 78 нас. пунктаў, дзе прыведзены формы *га́ніў, га́ніла, га́нілі*, магчыма ў значэнні 'ганьбіць'.
У тых выпадках, калі даюцца ў парадыгме дзеясловы з рознымі галоснымі, на карце пастаўлены два знакі: 47, 51, 53, 54, 56, 59, 67, 101, 104, 111, 112, 140.
(буду у поля, на пасту) *ганя́ць, ганя́ў, ганя́ла, ганя́лі* 1—6, 8а, 9—14, 17—34, 36—38, 45, 46, 48—50, 52а, 55, 57, 58, 60, 61, 63, 65, 68, 70, 71, 73—77, 80—82, 86, 88, 100, 115—121, 123—130, 136, 141, 142. *гыня́ць, гыня́ў, гыня́ла, гыня́лі* 7, 15, 16, 35, 39, 42—44, 79, 83—85, 87, 89. *пара́ бу́льбу ганя́ць, ганя́ў, ганя́ла, ганя́лі* 8. *ганя́ць, ганя́ў, ганя́ла, ганёў, ганя́лі* 64. *гоня́ты, гоня́в, гоня́ла, гоня́лы, гоня́ют* 91, 96а, 97. *гоня́ць, гоня́ў, гоня́ла, гоня́лі* 106.
*ганіць, ганіў, ганіла, ганілі* 62, 72, 99, 102, 105, 135. *згоны́ (лес) на рацэ, ганілі, бу́дуць ганіць* 66. *гоніць, гоніў, гоніла, гонілі* 107, 110, 114, 115, 138. *гоніть, гоніў, гоніла, гонілі* 134. *гонілі коро́ў у лес, бу́дуць гоніць, гоніцьмуць* 137. *гоніці, гоніў, гоніла, гонілі* 102, 113. *ганіці* (гусей), *ганіў, ганіла, ганілі* 93. *гоныты, гоныв, гоныла, гонылі (гоны́лы)* 90, 94а, 95, 96, 103, 108, 109, 131, 132.
*ганёў, ганіў, ганя́лі, ганілі, ганіла, ціба́ лёдво даганіла* 47. *ганя́ць, ганіць, ганя́ў, ганіў, ганя́ла, ганіла* 51, 53, 54, 56, 59, 67, 101, 104, 111, 112, 140. *гоня́ть, гоня́ў, гоня́ла, гонілі* 133.

*ганя́ць, го́ніў, го́ніла, го́нілі* 122.
*гунэ̂тэ, гунэ̂в, гунэ̂ла, гунэ̂лэ* 98.

### Карта № 206

## ФОРМЫ ПЕРШАЙ АСОБЫ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ ЦЯПЕРАШНЯГА ЧАСУ ДЗЕЯСЛОВА *ГАНЯЦЬ, ГАНІЦЬ*

№ 3876 «Гнаць: жану, жэну, жэню, гоню, жанеш, гоніш, жане, гоніць, жануць, гоняць, гонюць....»
На карце супрацьпастаўляюцца розныя тыпы парадыгм цяперашняга часу дзеяслова гнаць: *ганю, го́ніш, го́ніць, го́нім, го́ніце, го́няць (го́нюць): жану́, жане́ш, жане́, жанём, жа̀неце́, жану́ць (жену́ть)*. У адказах прыводзяцца формы адзіночнага ліку і форма 3-й асобы множнага ліку.
*гнаць каро́ў* (і іншых жывёл): *ганю, го́ніш, го́ніць, го́нім, го́ніце, го́няць (го́нюць)* 1—22, 24—44, 52, 53, 63—65, 68—89, 104, 112, 115, 116, 118, 119, 121, 123—126, 128—130, 139, 141, 142.
*гнаць: жану́, жане́ш, жане́, жану́ць* 46—51, 54—56, 99—101, 105, 106, 110, 114, 117, 120, 122, 135—138. *гна́ты: жыну́, жане́ш, жыну́т* 90, 91. *жэнэ́ш* 92. *гнаць: жану́, жане́ш, жане́, жану́т* 93. *гна́ты: жэну́, жэнэ́ш, жэну́ть* 94а. *жыну́, жынэ́ш, жынэ́, жыну́ть* 95. *гна́тэ: жэну́, жэнэ́ш, жэнэ́, жэну́ть* 98, 103, 108, 109, 131—134.
*гнаць: жану́, жане́ш, жане́, жанём, жане́ця, жану́ць* і паралельна: *ганю, го́ніш, го́ніць, го́нім, го́ніце, го́няць* 45, 60—62, 66, 67, 127, 140. *гнать: жэну́, гоню, жэне́ш, го́ніш, жэне́, го́ніт, воны́ жэну́т, го́нят* 102. *гна́ті: жэну́, гоню, жэ́неш, го́ніш* 94. *гна́ты: жэну́, жэнэ́, жэну́ть* і *го́ныш, гоны́ть, го́нять* 96а, 97.
*гнаць: гэну́, погэне́ш, пога́не, гэну́ць* 107. *гэну́, гэне́ш, гэну́ць* 113.
*гнаць: ганю, го́ніш, го́ніць, го́няць; жэнь у хлеў! Паджэ́нь цялу́шку!* 23. *ганю, го́ніш, го́ніць, го́няць; выжань каро́ву! зажэ́нь каро́ву! ганю, го́ніш, го́ніць, го́няць каро́ў; зажану́ каро́ву* 57, 58, 59. *ганю, го́ніць; выжані!* 111.

### Карта № 207

## ПАШЫРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ З КОРАНЕМ *-НІК-*

АЛА F 2616 -nikalъ возникал — nicao — znikał
Картаграфуюцца дзеясловы з коранем *-нік-*, у прыватнасці, *узнікаць, знікаць*. Адведзены ад картаграфавання словы з іншымі каранямі.
*узьніка́ць* 7А, 55А, 61А. *узьніка́е* 53А. *узьніка́ў* 2А, 4А, 6А, 13А, 15А, 18А, 30А, 31А, 33А, 34А, 37А, 39А, 46А, 58А, 66А, 70. *вазьніка́ў* 40А. *вузьніка́ў* 57А. *възьніка́ў* 20А. *вызьніка́ў* 2А. *зьніка́ў* 3А, 5А, 9А *(зьнікні з маіх вачэй)*, 16А (з прыстаўкамі *уз-, воз-* не ужыв.), 56А (і *настава́ў*), 59А, 115. *зьніка́йіць* 21А. *зныкнуты* 52А (рэдк.). *зьнік* 14А. *знык* 48А. *унікла вада* (перастала цячы) 32А. *уніка́ў калодзіж* 41А *(уныка́ў тапелец)*. *штоб ты ня ўзьнікла* (праклён) 62А.
Адсутнасць слоў: 1А *(найшлося, настаў)* 8А, 10А, 11А *(паўставаў)*, 12А *(утвараўся)*, 17А, 19А, 22А, 23А, 24А *(пъяўляўся)*, 25А, 26А *(наставоў)*, 27А *(паявіўсё, прапаў)*, 28А *(наставаў)*, 29 *(настава$^{о}$ў, находзіўсё)*, 35А, 36А, 38А, 42А, 43А, 44А *(наставаў)*, 45А *(настаў)*, 47А, 49А *(настаў, наставаў)*, 50А *(наставаў)*, 51А, 54А, 60А, 63А — 65А, 67 *(найшлося, настаў)*, 50 *(найшоўся)*, 61.

### Карта № 208

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *КІДА́ЦЬ*

№ 3880 «Кідаць, кіда́ць: кідаю, кіда́ю, кідае, кіда́е...»
На карце паказаны супрацьпастаўленні форм інфінітыва і цяперашняга часу дзея-

слова кідаць з розным тыпам націску: *кідаць — кідáць, кідаю — кідáю, кідае — кідáе.*

*кідáць, кідáю, кідáе* 17, 31, 67, 88, 124, 130, 141. *кідáць, кідáе, кідáя* 18—20, 38, 52, 53, 54, 57—59, 71, 75, 76, 78—82, 87, 89. *кідáць, кідáю, кідáець* 9, 14, 36, 88. *кідáць, кідáю, кідáіць* 1—8а, 10—13, 15, 16, 21, 22, 24, 28, 29, 32, 33, 35, 39—44, 83—86, 89.

*кідаць, кідаю, кідае* 23, 37, 46, 48, 51, 56, 57, 61, 62, 67, 74, 100, 101, 104—107, 110—117, 120, 120а, 122—126, 130, 135—142. *кідаць, кідаю, кідая* 20, 25—27, 30, 45, 47, 49—50, 52—55, 58—60, 63—66, 68—73, 75, 77—82, 99, 118, 119, 121, 125, 127—130. *кідаць, кідаю, кідаіць* 21, 22, 33, 84, 86. *кідаць, кідаю, кідъйіць* 34.

*кідыць, кідаю, кідыйіць* 85 (рэдк.), *кідать, кідаю, кідае* 133, 134. *кідаці, кідаю, кідае* 93, 102. *кідаты, кідаю, кідае* 91, 97. *кідаті, кідаю, кідае* 94. *кы́даты, кы́даю, кы́дае* 90, 92, 94а—96а, 103, 108, 109, 131. *кúдаты, кúдаю, кúдае* 132. *кэ̂датэ, кэ̂даю, кэ̂дае* 98.

## Карта № 209

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *КРАСЦІ*

№ 3881 «Крáсці: крáду, крадý, крáдзе, крадзé...»

На карце паказаны супрацьпастаўленні форм цяперашняга часу дзеяслова *крáсці* з розным тыпам націску — з нерухомым націскам на аснове і адпаведныя формы з націскам на канчатку тыпу *крáду, крáдзе, крадý, крадзé.*

*крадý, крадзé* 17—23, 25, 26, 28, 30, 31, 37, 45—60, 62, 67, 93, 100, 104, 116, 117, 120—121, 123, 127, 140—142. *крадý, крадзéць* 1—6, 8—11, 14, 24, 25а, 36. *крадý, крадэ́* 91, 96а, 98.

*крáду, крáдзе* 38, 53, 56, 61, 67, 74, 94, 99, 101, 102, 105—107, 110—115, 122, 125—127, 130, 135—139, 141, 142. *крáду, крáдзя* 27 (рэдк.), 55, 63—66, 68—73, 75—83, 87, 118, 119, 124, 128, 129. *крáду, крáдзець* 86—88. *крáду, крáдзіць* 7, 8а, 12, 13, 15, 16, 29, 32—35, 39—44, 84, 85, 89. *крáду, крáде* 134. *крáду, крáдэ* 90, 92, 94а—96, 97, 103, 108, 109, 131, 132, 133.

## Карта № 210

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *РАБІЦЬ*

№ 3883 «Робіць, рабíць: роблю, раблю́, робілі, рабíлі...»

На карце паказаны варыянты націску дзеяслова рабіць.

Адводзяцца ад картаграфавання назвы *дзéлаць* і *рабóтаць*, таму што не адпавядаюць тэме карты.

*рабíць, раблю́, рабíлі* 2—6, 8а, 14, 16—27, 31, 33, 35—37, 43 (рэдк.), 45—47, 49—67, 69, 71, 72, 74—79, 81, 82, 84—87, 89, 99, 100, 104, 105, 111, 112, 115, 116, 118, 120—121, 123—127, 130, 135, 141. *робы́ты, роблю, робы́лі* 90—92. *робы́ты, роблю, робы́лы* 94а, 96—97, 103, 108, 109, 131, 132. *робы́ты, роб'ю, робы́лы* 95. *робіті, роб'ю, робілі* 94. *рубэ̂тэ̂, рублю, рубэ̂лэ̂* 98. *робіці, роблю, робілі* 102, 106. *робіть, роблю, робілі* 133, 134. *робіць, роблю, робілі* 101, 107, 113, 114, 136—138.

*рóбіць, рóблю, рóбілі* 1, 2, 4, 5, 8—11, 16, 28, 29, 30. 32—34, 70, 88, 122. *рóбіць, раблю, рабілі* 48, 83, 139, 140, 142. *рóбіць, роблю, робілі* 107, 110. *рóбіць, рóблю, робілі* 117.

*рабіць, раблю, рóбілі* 33, 93.

Адсутнасць лексемы: 12, 13, 15, 38—42, 44, 68, 80.

Адведзены: *дзéлаць* 7, 73, 80. *рабóтаць* 80, 119, 128, 129.

## Карта № 211

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ВІСЕЦЬ*

№ 3884 «Вісéць, вíсець: вісíць, вíсіць, вісяць, вíсяць, вісéлі, вíселі...»

На карце паказаны варыянты націску дзеяслова вісéць.

*вісéць, вісíць, вісяць, вісéлі* 1—48, 52—54, 56—89, 99, 100, 104—106, 111, 112, 115—121, 123—130, 135—142. *вісéць, вісíт, вісят, вісéлі* 102. *вісéці, вісíць, вісят, вісéлі* 93.

*вíсець, вíсіць, вíсяць, вíселі* 46, 49—51, 53, 55, 60, 67, 101, 104, 107, 110—112, 114, 112. *вíсець, вíсіць, вíсяць, вíселі* 113. *вíсеть, вíсіть, вíсять, вíселі* 133, 134. *вíсіть, вíсять, вíсэлі* 97. *вíсіць, вíсеў* (рушнік) 137. *вíсыты, вíсыт, вíсят, вíсылі* 90, 91. *вíсыты, вíсыть, вíсять, вíсылы* 92, 94а, 96, 96а, 103, 108, 109, 131, 132. *вíсыты, вíсыть, вíсеть* (3-я асоба мн. ліку), *вíсылы* 95. *вếсеті, вếсіт, вếсят, вếселі* 94. *вếсітê, вếсить, вếсять* 98. *вéсець, вéсіт, вéсят, вéсялі* 102.

## Карта № 212

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ЗАБРАЦЬ*

№ 3885 «Забрáць: забярý, забéру, забярэ, забéрыць, забяруць, забéраць...»

На карце паказаны варыянты націску ў формах дзеяслова забрáць.

*забрáць: забярý, забярэ́, забярýць* 17—20, 23, 25—27, 31, 37, 45—72, 74—77, 80, 81, 88, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—121, 123—130, 139—142. *забрáць: заберý, заберэ́, заберýць* 114, 122, 135—137. *забрáць: зыбярý, зыбярэ́, зыбярýць* 43. *забрáць: забярý, забярэ́ць, забярýць* 3, 7, 8, 10, 11, 21, 22, 25а, 33, 36, 38, 42, 73, 80—82, 88. *забрáць: забярý, забярéць, забярýць* 86. *забрáць: зыбярý, зыбярэ́ць, зыбярýць* 44. *зыбрáць: зыбярý, зыбярéць, зыбярýць* 16, 32, 39—41, 79, 83—85, 87, 89. *зыбрáць: зыбярý, зыбярэ́ць, зыбярýць* 35, 78. *забрáць: забэрý, забэрэ́, забэрýт* 102. *забрáць: забэру, забэрэ́, заберýць* 113. *забраті: забэрý, забэрэ́, забэрýт* 94. *забрáты: забэрý, забэрэ́, забэрýть* 94а, 108, 109, 131. *забрáты: забырý, забырэ́, забырýт* 90—92, *забрáты: забырý, забырэ́, забырýть* 95—97, 103, 132. *забрáтэ: забэрý, забэрэ́, забэрýть* 98. *забрáці: забарý, забарэ́, забарýт* 93. *зобрáці: зобэрý, зобэрэ́, зобэрýць* 101. *зобрáць: зоберý, зоберэ́, зоберýць* 138. *зобрáць: зобарý, зобарэ́, зобарýць* 106. *зобрáць: зобэрý, зобэрэ́, зобэрýць* 107. *зобрáть: забэрý, забэрэ́, забэрýць* 133. *забрáть: заберý, заберэ́, заберýть* 134.

*забрáць: забéру, забéрыць, забéруць* 6, 12, 15. *забрáць: забéру, забéріць, забéруць* 13. *забрáць: забéру, забéрыць, забéраць* 14.

*забрáць: забярý, забéрыць, забéруць* 1, 2, 4, 6, 8—9, 21, 24, 28. *зыбрáць: зыбярý, забéрыць, забéруць* 29.

## Карта № 213

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *САБРАЦЦА*

№ 3886 «Сабрáцца: сабярэцца, сабéрыцца, сабярýцца, сабéрацца...»

На карце паказаны супрацьпастаўленні па націску ў формах дзеяслова сабрáцца.

*сабрáцца: сабярэ́цца, сабярýцца* 8а, 9, 17—21, 23, 25—27, 31, 33, 36—38, 48—55, 57—63, 65—77, 80—82, 86, 88, 100, 104, 105, 110—112, 114—130, 135, 137—142. *сабрáцца: сабярéцца, сабярýцца* 32. *сабрáцца: зьбярэ́цца, зьбярýцца* 2, 10, 11, 22, 23, 61. *сабрáцца: зьбярэ́цца, сабярýцца* 46, 64. *сабрáцца: сабярэ́цца, збярýцца* 59. *сыбрáцца: сыбярэ́цца, сыбярýцца* 34, 35, 40, 42, 43, 78. *сыбрáцца: сыбірéцца, сыбярýцца* 39, 41. *сыбрáцца: сыбярéцца, сыбярýцца* 44, 79, 83, 84, 85, 87, 89. *собрáцца: зберýцца, зберэ́цца* 104. *собрáцца: собэрэ́цца, собэрýцца* 102, 113. *собрáцца: соберэ́цца, соберýцца* 136. *сабрáціса: зьбарэ́цца, зьбарýцца* 93. *сабрáтыс(а): забы^э^рэ́цца, забы^э^рýцца* 103. *собрáтыся: собэрýся, собрáлыся* 96а. *собрáтысь:*

*сабырэ́цьця, сабырýцьця, збырýцьця* 90. *забрáцца: зьбярэ́цца, зьбярýцца* 45, 127. *забя́рэцца, забярýцца* 47. *зьбірáцца: зьбярэ́цца, зьбярýцца* 56, 99. *забрáтыса: забэрэ́цца, забэрýцца* 107, 108, 109. *забрáтыса: забырэ́цца, забэрýцца* 132. *забрáтысь: забырэ́цьця, забырýцьця* 95. *забрáтысь: забярэ́цца, забярýцца* 94а. *забрáтись: забэрэ́ця, забэрýця* 98. *забрáцца: заберэ́цца, заберýцца* 134. *забырáтысь: забырэцьця, забырýцьця* 96. *зобрáтіса: збэрэ́цца, збэрýцца* 95. *зобрáтыся: збэрэ́цьця, збэруцьця* 97. *зобрáцца: забярэ́цца, забэрýцца* 133. *зобрáцца: зобэрэ́цца, зобэруцца* 101. *зобрáцца: зьбярэ́цца, зобірýцца* 106. *зубрáтыся: збырэ́ться, збырýться* 91. *збырáтыся: збырэцьця, збыруцьця* 92, 131.

*сабрáцца: сабе́рышся, сабе́рыцца* 1. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́рацца* 3. *сабрáцца: сабе́рышся, сабе́рыцца, сабе́рымся, сабе́руцца* 4. *сабрáцца: сабе́рыцца, саберуцца* 5, 6. *сыбрáцца: сабе́руцца* 7. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́рацца* 8. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́руцца* 8а. *сабрáцца: саберыцца, збе́руцца* 9. *сабрацца: сабе́руцца* 12. *сабрáцца: сабе́рімся, сабе́руцца* 13. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́рацца* 14. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́руцца* 15. *сабрáцца: сабе́ріцца, сабе́руцца* 16. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́руцца* 21. *сабярý: сабе́рымся, сабе́руцца* 24. *сабрáцца: сабе́рыцца, сабе́рацца* 28. *сыбрáцца: сабе́рыцца, сабе́руцца* 29. *сабрáцца: сабе́рыцца* 30.

### Карта № 214

## НАЦІСКНЫ ГАЛОСНЫ Ў ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *УДАРЫЦЬ*

№ 3888 «Ударыць, удырыць, удару, удыру, удараць, удыраць, ударылі, удырылі...»

Карта прысвечана паказу тэрытарыяльнага пашырэння варыянтаў **націскнога** галоснага на месцы *(а)* у каранёвай марфеме парадыгмы дзеяслова *ýдáрыць*. Акрамя гэтай асноўнай тэмы, на карце абазначаны лексемы, якія адпавядаюць значэнню дзеяслова *ýдáрыць* — *выцяць, стукнуць, задáць* і іх марфалагічныя ўтварэнні: *тнуць, здаць*. У некаторых адказах стаіць прочырк, што, відаць, абазначае адсутнасць слова *ýдарыць* у мясцовай гаворцы. (адказы нас. пунктаў: 47, 50, 91, 136), але семантычныя адпаведнікі не прыведзены. У адказе нас. пункта 104 у адносінах да слова *ýдарыць* даецца памета (нов.). У адказе 94а — новае, рэдкае. Адносна лексемы *вы́цяць* адзначана — традыцыйнае — у адказе 104 нас. пункта.

Недастатковы матэрыял прыведзены ў адказе 92 нас. пункта — толькі адна форма трэцяй асобы адз. ліку *удáрыв*. Звычайна ў адказах прыведзены формы інфінітыва, цяперашняга і прошлага часу.

*удáрыць, удáру, удáрыць, удáрылі* 1—11, 14, 15, 17, 18, 21—38, 40, 42, 43, 48, 49а, 52, 53, 54, 56—63, 65—71, 73, 75, 76—78, 80—82, 99, 104—106, 111, 112, 115, 116—118, 120, 121—130, 135, 137—142, *удáріць, удáрю, удáріш, удáріць, удáрілі* 12, 13, 16, 32, 39, 41, 44, 79, 84—89. *вдáрыты, вдáру, вдáрат* (нов.) 90. *удáрыв* 92. *удáріті, удáру, удáрат, удáрылі* 94. *удáрыты, удáру, удáрать, удáрылы* 94а (нов., рэдк.), *вдáрыты, вдáру, вдáрать, вдáрылы* 103.

*удырыць, удыру, удыраць, удырылі* 45, 49, 53, 66, 72, 74, 102, 104, 105, 107, 110, 113, 114, 122, 126, 129, 137. *вдырыты, вдыру, вдыреть, вдырылы* 95, 108, 109, 132. *удырыть, удыру, удырылі* 133, 134.

*удэ́рыць, удэ́рыш, удэ́ра, удэ́рылі* 19, 20, 46, 51, 52, 93, 101, 102.

*выцяць* 52а, 56, 64. *выцяць, выцяю, выцялі* (трад.) 63. *вытяты, вытну, вытнуць, выцялы* 96. *выцяць каго́* (трад.). *вытяты, вытну, вытялы* 131. *зацяць, зацяў, зацялі* 100. *тéтэ, тну, тнуть, тнýлэ* 98.

*здаць, здам* 55. *задáць* 119.

*стýкнуты, стýкну, стýкнулі* 97.

### Карта № 215

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ПРЫЛЯТАЦЬ*

№ 3889 «Прыле́таць, прылятáць, прыля́таць: прыле́таюць, прылятáюць, прыля́таюць...»

На карце паказаны варыянты націску ў формах дзеяслова прылятаць.

Назва *прыля́таваць* картаграфуецца як *прыля́таць*.

*прылятáць, прылятáюць* 2, 3, 6, 8, 18—28, 31, 45, 47—50, 52—59, 61, 63—69, 71—74, 76, 77, 82, 104 (сучасн.), 105, 111, 112, 115—120а, 122—124, 126, 127, 129, 130, 139, 141, 142. *прылітáць, прылітáюць* 1, 4, 5, 8а, 10, 11, 13—17, 29, 30, 32—44, 75, 78, 80, 81, 83—85, 87. *прылêтáць, прылêтáюць* 9. *прылетáць, прылетáюць* 114, 128, 135—138. *прылетáть, прылетáють* 133. *прілітáць, прілітáюць* 79. *прілятáць, прілятáюць* 86, 88. *прылітáты, прілітáют* 90, 91. *прылітáты, прылітáють* 132 (рэдк.), *прылытáты, прылытáють* 131. *прылэтáты, прылэтáють* 108. *прылятáці, прылятáют* 93.

прыля́таць, прыля́таюць 53, 59, 60, 62, 75, 81, 118 (трад.), *прыля́таваць, прыля́таваюць* 129.

*прыле́таць, прыле́таюць* 49а, 51, 53, 99—102, 104 (трад.), 106, 110, 113, 135. *прыле́тать, прыле́тають* 134. *прыле́таты, прыле́тають* 97. *прылêтаті, прылêтают* 94. *прылітаты, прылітають* 94а, 95, 96а, 103, 108, 109, 132. *прылітатэ, прилітають* 98.

### Карта № 216

## АСНОВА ІНФІНІТЫВА ДЗЕЯСЛОВА *СЦЯГВАЦЬ*

№ 3890 «Сця́гаць, сцёгаць, сця́гваць: сця́гаю, сцёгаю, сця́гваю, сцягáе, сцёгае, сця́гвае...»

На карце паказаны супрацьпастаўленні асновы інфінітыва дзеяслова сця́гваць па націску і словаўтваральных элементах.

*сцягáць* 45, 46, 51, 59, 101, 102, 104, 136, 137, 140, 141. *сьцягáць* 31, 49, 50, 54, 56, 60—64, 69, 72, 74, 99, 100, 105—107, 111, 133, 135. *сцігáць* 80. *сьцігáць* 2, 8, 10, 14, 28, 32, 33, 40, 42, 78, 80. *сьцегáті* 94. *сьцегáць* 113, 114. *сьцягáты* 131. *сьтегáть* 134. *стягáты* 90, 94а—96а, 103, 108, 109, 132. *стягáтэ* 98.

*сця́гаць* 66, 110, 129, 130, 139. *сьця́гаць* 38, 73, 75, 81.

*сцёгаць* 120а, 129, 140, 142. *сьцёгаць* 31, 81. *сьцёгыць* 83, 85, 86, 87.

*сця́гваць* 18, 36, 48, 49а, 52а, 57, 67, 80, 88, 102, 116, 117, 119, 120, 122, 123, 125, 126, 130, 136. *сьця́гваць* 23, 25а, 27, 37, 53, 54, 55, 65, 70, 111, 115, 133, 135, 138. *стя́гваты* 109.

*сця́гаваць* 17, 24, 128. *сьця́гаваць* 1, 3, 4, 6, 8а, 9, 13, 19, 21, 25, 26, 30, 68, 75, 81, 82, 118. *сьця́гавыць* 5.

*сця́гываць* 79. *сьця́гывыць* 15, 16, 29, 35, 41, 43, 44. *сьця́гіваць* 11, 58.

*сця́гуваць* 20, 52, 77, 118, 124. *сьця́гувыць* 34, 39, 84. *сьтя́гуваты* 91, 92.

Адсутнасць лексемы: 12, 22, 47, 89, 97, 121.

### Карта № 217

## АСНОВА ІНФІНІТЫВА ДЗЕЯСЛОВА *ЗАЧЭСВАЦЬ*

№ 3894 «Зачэсаць, зачэсваць: зачэсаю, зачэсваю, зачэсае, зачэсвае...»

На карце картаграфаваліся асновы інфінітыва незакончанага трывання: суфіксальная аснова на *-ава-, -ыва-, -ува-, -ва-* супрацьпастаўляецца аснове на тэматычны галосны *а-* тыпу *зачэ́саваць : зачэ́саць*. Пры картаграфаванні ўлічана якасць першага галоснага суфікса і варыянты націскнога галоснага ў каранёвай марфеме. Канчаткі інфінітыва *-ць, -ці, -ты* на карце не ўлічваліся.

Як *зачэ́саваць* картаграфуецца *прачэ́саваць* у 127 п.

*зачэ́сваць* 7, 27, 28, 31, 33, 45, 47—51, 52а, 53—55, 57, 59—62, 64, 66, 67, 70, 74, 80, 88, 100, 102, 111, 112, 115—117, 119, 120, 122, 123, 125, 126, 133, 136—141. *зачэ́свыць* 85.

*зачісваты* 109. *зачи́сваты* 132.

*зачэ́саваць* 1—4, 6, 8а, 9, 17—19, 21—25, 25а, 30, 37, 63, 68, 69, 75, 81, 82, 86, 118, 128—130. *прачэ́саваць* 127..

*зачэ́сываць* 10, 11, 26, 32, 58. *зачэ́сывыць* 35, 40—44, 87, 89. *заце́сывыць* 16. *зачэ́сувыць* 29, 79. *зачэ́суваць* 52, 71, 76, 77, 124, 126. *зачэ́суваты* 90, 91, 131. *зача́саваць* 8, 81. *заца́саваць* 14.
*зача́сывыць* 5, 15. *зыча́сывыць* 34. *зъча́съвъць* 13.
*зача́сувыць* 39, 84.
*зачо́сываць* 36, 78. *зачо́сывыць* 83. *зачо́сывыць* 41.
*зачэ́саць* 20, 56, 67 (у старэйшых), 72, 73, 99, 101, 104 (трад.), 105—107, 110, 112—114, 118, 121, 128, 134, 135, 140. *зачэ́саці* 93. *зачэ́саті* 94. *зачэ́саты* 97.
*зачі́саты* 94а, 95, 96, 103, 108. *зачі́сатэ* 98.
*зача́саць* 38.

### Карта № 218

## АСНОВА ФОРМ ЦЯПЕРАШНЯГА ЧАСУ ДЗЕЯСЛОВА *ЗАЧЭСВАЦЬ*

№ 3894 «Зачэсаць, зачэсваць: зачэсаю, зачэсваю, зачэсае, зачэсвае...»

На карце супрацьпастаўляюцца асновы цяперашняга часу: аснова з суфіксам *-ава-* і яго фанетычнымі варыянтамі: *-ыва-, -ува-, -ва- :* аснове на *-ай-, -уй-* тыпу зачэ́саваю, зачэ́савае : зачэ́саю : зачэ́сую. На карце абазначаны таксама фанетычныя варыянты націскнога галоснага ў каранёвай марфеме. У адказах прыводзіцца першая і трэцяя асобы адзіночнага ліку або толькі першая або трэцяя асоба адзіночнага ліку. У 52 п. знак пастаўлены на аснове інфінітыва. Наяўнасць і адсутнасць *-ць(-ти, -ть)* у трэцяй асобе на карце не адзначаліся.

*зачэ́саваю, зачэ́савае(я), зачэ́саваіць* 1—4, 6, 8а, 9, 17, 18, 21, 22, 24, 25, 25а, 30, 33, 37, 75, 81, 82, 86, 118, 126, 128, 130. *зачэ́сываю, зачэ́сываіць* 10, 11. *зачэ́сываю, зачэ́сывая* 26. *зачэ́сывыю, зачэ́сывіць* 40, 42, 44. *зачэ́саваю* 58. *зачы́сывыю* 35. *заче́сывыю* 41. *зачэ́сывыя, зачэ́сывыіць* 87. *зачэ́сувыю* 29. *зачэ́суваюць* 52. *зачэ́сывую, зачэ́сывыіць* 43. *зачэ́сываіць* 32. *зачэ́суваю, зачэсувая* 76. *зачэ́сувую, зачэ́сувыя* 79. *зачэ́сваю, зачэ́свае(я), (зачэ́сваіць)* 7, 27, 28, 31, 45, 47—51, 52а, 53—55, 57, 59—62, 67, 70, 74, 80, 88, 100, 102, 111, 112, 115—117, 120, 122, 123, 125, 126, 133, 136—139, 141. *зацэ́свыю, зацэ́свыіць, зачэ́свыю, зачэ́свыіць* 85. *зачэ́шваю, зачэ́швыіць* 89.
*зача́саваю, зача́савая (зача́саваіць)* 8, 13, 14, 81. *зача́сывыю, зача́сывыя (зача́сывыіць)* 5, 15, 39, 84. *зычасувыю, зычасувыіць* 34.
*зачо́сываю, зачо́сывая* 78. *зачо́сывыю* 41, 83. *зачо́сваю, зачо́сваіць* 36.
*зачі́сваю, зачі́свае* 109, 132.
*зачэ́саю, зачэ́сае* 30, 56, 62, 64, 67 (у старэйшых) 72, 73, 75, 82, 93, 94, 99, 101, 104 (трад.), 105—107, 110, 113, 114, 129, 134, 135, 140. *зачэ́сыю* 35. *зачэ́сую, зачэ́суя* 34, 52, 63, 68, 69, 71, 77, 90, 112, 119, 124, 126—131. *зачэсую, зачэ́сая* 121.
*зачэ́сую* 19, 20. *зачэ́шую, зачэ́шуе* 38, 118.
*зача́саю, зача́сае* 38, 118.
*зачі́саю, зачі́сае* 94а, 95, 96, 98, 103, 108.

### Карта № 219

## АСНОВА ІНФІНІТЫВА ДЗЕЯСЛОВА *РАСШЧЭПЛІВАЦЬ*

№ 3895 «Расшчэпаць, расшчэпліваць, расшчапляць: расшчэпаю, расшчэпліваю, расшчапляю...»

На карце супрацьпастаўляецца інфінітыўная аснова незакончанага трывання на *-іва-, -ява-, -юва-, -ава-, -ва-* аснове на тэматычны *-а, (-я)* тыпу *рашчэ́пліваць, рашчэ́пляваць, рашчэ́плюваць, рашчапля́ць, рашчэпаць.* Улічаны варыянты націскнога галоснага *(а), (і)* у каранёвай марфеме, і не ўлічваўся зычны асновы *рашчэ́пліваць — раске́пліваць.* Не картаграфаваліся некаторыя словы *расчапі́ць, рашчыпа́ць* 14, 32, *рошчыпа́ты* 90, 94а, 96а, 131, паколькі гэтыя формы адносяцца да закончанага трывання. У 15 п. знак пастаўлены на падставе адказу *зашчэ́пліваць.* У некаторых адказах адзначана адсутнасць адпаведнай лексемы, што пазначана на карце.

*рашчэ́пліваць* 4, 6, 8—9, 11, 17, 18, 22, 27, 30, 34, 35, 41, 43, 49, 49а, 52а, 58—61, 67, 69, 71, 73, 74, 80, 82, 104, 116—119, 121, 123, 124, 127—130, 139. *рашчэ́плівыць* 29, 40, 83. *рышчэплі́выць* 85. *расчэ́пліваць* 3. *расчэ́плівыць* 41. *раске́пліваць* 37. *рассшчэ́пліваць* 28, 31, 36, 54, 56. *рашшчэ́пліваць* 53. *рашшчэ́плівыць* 16. *зашчэ́плівыць* 15.
*рашча́пліваць* 5, 81. *рашча́плівыць* 13. *рышча́плівыць* 39, 44, 84. *рышша́плівыць* 16.
*рашчэ́пляваць* 19, 21, 24, 25, 69. *рашке́пляваць* 25.
*рашчэ́плюваць* 20, 52, 63, 64. *рушчэ́плюваты* 91.
*рашчапля́ць* 48, 50, 51, 55, 57, 61, 62, 67, 70, 75, 76, 80, 86, 99, 105, 112, 118, 125—127, 129, 137. *рашчыпля́ць* 30. *рышчыпля́ць* 78, 81, 84, 85, 87. *расшчапля́ць* 26, 46, 48, 140, 142. *расчапля́ць* 25а. *рысчыпля́ць* 7, 10. *рашшчапля́ць* 45, 53, 60, 89. *рашшчэпля́ць* 102. *рошчэпля́ць* 138. *рошчэпля́ты* 97. *рышчыпля́ць* 79. *рышшыпля́ць* 16.
*рашчэ́паваць* 33. *рашчэ́пываці* 93. *рашчэ́паваць* 128.
*рашчэ́пваць* 100, 115. *рошчэ́пваць* 114. *рошчэ́пвать* 133, 134.
*рошчі́пваты* 108.
*рашчэ́паць* 65, 72, 82, 101, 122, 136. *рашчэ́ппаць* 135. *рошчэ́паті* 94. *расшчэ́паць* 54.
*рошчі́паты* 96, 109. *рушчі́патэ̂* 98. *рошчі́паты* 95, 103.
Іншыя лексемы: *раськя́паць* 38. *ськапа́ць* 77. *скіпа́ць* 88.
Лексема не адзначана: 47, 68, 113, 119, 132.
Адведзены: *шчэма́ць* 111. *рашчама́ць* 112. *роспліќваць* 113. колоць дровы 119. *рашчапа́ць* 65. *рашчыпа́ць* 14, 32. *рошчыпа́ты* 90, 94а, 96, 131.

### Карта № 220

## НАЦІСК У ІНФІНІТЫВЕ ДЗЕЯСЛОВА *ВЫТРАСАЦЬ*

№ 3896 «Вытрэсаць, вытраса́ць, вытрэсваць, вытра́сываць: вытрэсаю, вытраса́ю, вытрэсваю, вытра́сваю...»

На карце паказаны варыянты націску ў формах дзеяслова вытраса́ць.

Назвы *вытрэсаваць, вытрэсваць, вутрэсваць, вытрэсуваты* картаграфуюцца як *вытрэсаць, вытра́сываць, вытра́хіваць — як вытра́саць, вытраха́ты — як вытраса́ць.* Формы *вытре́саты, вітрэсуваты* картаграфуюцца як *вытра́саць,* а не *вытрэсаць,* таму што ў гаворках н. пп. № 97, 98 пераход пад націскам *'а>е, э* з'яўляецца рэгулярнай з'явай (гл.: Клімчук Ф. Д. «Гаворкі Заходняга Палесся». Мн., 1983. С. 27—28).

Адведзены ад картаграфавання назвы *трапа́ць, вытру́шваць, утру́шваць, выкала́чваць, вы́калаціць, вытру́шаць,* бо яны не адпавядаюць тэме карты.

*вытраса́ць, вытраса́ю* 1—6, 8—11, 14, 17—19, 21, 22, 24—28, 30, 31, 33, 36—38, 45—61, 63—66, 68—71, 73—76, 78, 80, 100, 111, 116—118, 120, 123, 125—127, 129, 139, 141, 142. *вытрі́са́ць, вытрі́са́ю* 13, 16, 32, 39, 41, 44, 79, 83—87, 89. *вытрыса́ць, вытрыса́ю* 7, 15, 29, 34, 35, 40, 42, 43, 81. *вытряса́ць, вытряса́ю* 88. *вытряса́ты, вытряса́ю* 96а. *вытраса́ты, вытраса́ю* 90, 91, 94а. *вітраса́ць, вітраса́ю* 130, 138. *вутраса́ць, вутраса́ю* 138 (нов.). *вытраха́ты* 92.
*вытря́саты, вытря́саю* 95—96а, 103, 108. *вытра́саты, вытра́саю* 109. *вітра́сать* 133. *вытре́саты, вытре́сую* 97. *вытра́сываць, вытра́сываю* 124. *вытра́сваты, вытра́сваю* 132. *вітрэ́суватэ, вітрэ́сую* 98. *вытра́хіваць* 82.
*вытрэ́саць, вытрэ́саю* 53, 54, 56, 58—62, 64, 67, 72, 99, 102, 104 (трад.), 105, 110, 111 (трад.), 112, 115, 117. *вытрэ́сую* 19. *вытрэ́саць, вытрэ́сую* 120а. *вытрэ́саці, вытрэ́саю* 93. *вытрэ́саті, вытрэ́саю* 94. *вытрэ́сать, вытрэ́саю* 134. *вытрэ́саю* 107. *вытрэ́сваць, вытрэ́сваю* 122, 137. *вытрэ́саваць, вытрэ́саваю* 106. *вутрэ́сваць, вутрэ́сваю* 136. *вытрэ́суваты, вытрэ́саю* 131.

Адсутнасць назвы: 12, 23, 140.
Адведзены: *трапáць* 77. *вытрýшваць* 113. *утрýшваць* 114. *выкалáчваць* 119. *вы́калацiць* 121. *вытрýшаць* 128.

### Карта № 221

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ВЫМЯТАЦЬ*

№ 3897 «Вымéтаць, вымятáць: вымéтаю, вымéтваю, вымятáю...»
На карце супрацьпастаўляюцца формы па націску: націск на тэматычным галосным — націску на каранёвым складзе тыпу *вымятáць, вымятáю : вымéтаць, вымéтаю,* а таксама гэты ж дзеясловў з іншымі прыстаўкамі. Адзінкавыя паралельныя формы з суфіксам *-ва- (вымéтваць)* на карце не ўлічваліся.
*вымятáць* 2, 3, 6, 17—19, 21—23, 25, 25а, 27, 31, 45—55, 57, 59—61, 63—65, 66 (сучасн.), 67—71, 74, 76, 77, 82, 88, 104, 105, 116—119, 121, 124—126, 128—130, 139, 141. *вымiтáць, вымiтáю* 1, 4, 5, 8а, 10, 11, 13—17, 26, 28, 29, 32—40, 42—44, 73, 75, 78—81, 83—86, 89, 123. *выметáць, выметáю* 9, 30, 120, 120а. *падмiтáць, падмiтáю* 8, 24. *замятáць, замятáю* 119. *вымiтáты, вымiтáю* 96, 97. *вымытáты, вымытáю* 90—92, 131. *выметáты, выметáю* 96а. *вуметáць, вуметáю* 136, 137. *вiмэтáць, вiмэтáю* 138. *умятáць, умятáю* 127.
*вымéтаць, вымéтаю* 53, 56, 59—62, 66, 67 (рэдка), 72, 99—102, 104 (трад., пераважае), 106, 107, 111, 113, 115, 120, 127, 129, 133—135, 140, 142. *вымêтаць, вымêтаю* 110, 112. *умéтаць, умéтаю* 114, 127, 134. *вымэ́тацi, вымэ́таю* 93. *вымéтатi,* вымéтаю 94. *вымiтаты, вымiтаю* 94а, 95, 96, 103, 108, 109, 132. *вымiтатэ, вымiтаю* 98. *замéтаць, замéтае* 58. *замéталi каласы́* 67. *пазамéтала ўсе кутóчкi* 104.
Адведзены: *вымéтваю* 53, 54. *вымётвыць, вымётывыю* 87. *вымя́тыю* 40. *вымéтваць, вымéтваю* 113. *вумéтваю* 137.

### Карта № 222

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ЗАПЛЯТАЦЬ*

№ 3898 «Заплéтаць, заплятáць: заплéтаю, заплéтваю, заплятáю...»
На карце супрацьпастаўляюцца формы інфінітыва і цяперашняга часу з нерухомым націскам на тэматычным галосным адпаведным формам з націскам на каранёвым складзе тыпу *заплятáць, заплятáю : заплéтаць, заплéтаю.*
Адзінкавыя паралельныя формы з націскам на каранёвым складзе з суфіксам *-ва-* на карце не адзначаліся. У 92 п. знак пастаўлены на падставе адказа *запляты́ся.*
*заплятáць, заплятáю* (косы) 3, 18, 19, 22, 23, 25, 25а, 27, 31, 45—55, 59—64, 66—70, 74, 76, 77, 82, 88, 104, 118, 119, 124—130, 139—142. *заплетáць, заплетáю* 9, 30, 86, 136, 137. *заплiтáць, заплiтáю* 1, 2, 4—8а, 10, 11, 13—17, 24, 26. 28, 29, 32, 33, 36—38, 73, 75, 80, 81, 83, 123. *зыплiтáць, зыплiтáю* 34, 35, 39, 40, 43, 44, 78, 79, 84, 85, 87, 89. *заплiтáты, заплiтáю* 90, 91. *заплытáты, заплытáю* 96а, 131. *заплiтáтэ, заплiтáю* 98. *зыплыты́ся* 92.
*заплéтаць, заплéтаю* 53, 54, 56, 58, 59, 62 (пераважна), 67 (у старэйшых), 99—102, 104 (трад.), 105—107, 111, 112, 114—117, 120, 121, 127, 135, 136, 138. *заплêтаць, заплêтаю* 60, 61, 66, 110. *заплéтать, заплéтаю* 133, 134. *заплéтацi, заплéтаю* 93. *заплêтатi, заплêтаю* 94. *заплiтаты, заплiтаю* 95, 96, 103, 108, 109, 132. *заплéтаты* 97. *заплятаць, запля́таю* 53.
Адведзены: *заплéтваю* 53, 54, 59, 104, 137.

### Карта № 223

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *НАГРАБАЦЬ*

№ 3899 «Нагрэбаць, нагрэбваць, награбаць : нагрэбаю, нагрэбваю, награбаю...»
На карце картаграфаваліся формы інфінітыва і цяперашняга часу незаканчанага трывання з розным тыпам націску ў адпаведных формах — з націскам на тэматычнай аснове і з націскам на каранёвай марфеме тыпу *награбáць, награбáю : нагрэ́баць, нагрэ́баю.*
Утварэнні з рознымі прыстаўкамі картаграфаваліся адным знакам. У радзе нас. пунктаў знак ставіўся на аснове адной формы: формы інфінітыва ці цяперашняга часу. Фанетычныя варыянты слова не ўлічваліся.
*награбáць, награбáю* 1, 3, 5, 6, 8—11, 17, 18, 21—24, 25а—28, 30, 31, 33, 36—38, 45, 46, 49—50, 52а—55, 59—65, 67, 69—71, 74—76, 80—82, 99, 100, 104, 115, 116, 118—121, 123—129, 138, 139, 141. *нагрыбáць, нагрыбáю* 15, 81. *нагрiбáць, нагрiбáю* 14, 32, 41, 86, 88. *нагрыбáць, нагрыбáю* 7, 29, 34, 35, 40, 42, 43, 78. *ныгрiбáць, ныгрiбáю* 16, 39, 44, 79, 83—85, 87, 89. *награбáць, нагрыбáю* 73. *нагрэбáць, нагрэбáю* 117, 142. *нагрыбáты, нагрыбáю* 90, 91. *нагрэбáты, нагрэбáю* 96а, 131. *выграбáць* 2, 51. *заграбáць* 4, 8. *заграбáю* (жар) 77.
*нагрэ́баць, нагрэ́баю* 53, 54, 56—59, 66, 67, 72, 75, 101, 104 (трад.), 105—107, 110, 113, 114, 118, 122. *нагрэ́баць* 102, 137. *нагрэ́баю, нагрэ́бае* 96а. *нагрэ́баць* 130. *нагрэ́ббаць, нагрэ́ббаю* 138. *нагрэ́бать, нагрэ́баю* 133, 134. *нагрэ́батi* 94.
*нагрiбаты, нагрiбаю* 95. *нагрúбаты, нагрúбаю* 94а.

### Карта № 224

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ПЕРАСЯКАЦЬ*

№ 3900 «Перасéкаць: перасякáць, перасéкваць: перасякáю, перасéкаю, перасéкваю...»
На карце картаграфаваліся суадносныя формы інфінітыва і першай асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу незаканчанага трывання з розным тыпам націску: на тэматычным галосным і на каранёвай марфеме тыпу *перасякáць : перасéкаць.*
Утварэнні з іншымі прыстаўкамі на карце не адзначаны. У некаторых адказах прыводзяцца формы закончанага трывання, а таксама формы незаканчанага трывання з суфіксам *-ва-,* якія на карце не абазначаліся.
На аснове адной формы (цяперашняга часу) знак пастаўлены ў наступных населеных пунктах: 77, 93, 111, 129. У 13 п. знак пастаўлены на падставе адказу *прысiкáць, прысiкáю,* у 70 на аснове адказу *прасякáць, прасякáю.*
*перасякáць, перасякáю* 3, 8, 18, 19, 21—25, 31, 45, 46, 48—51, 52а, 55, 57—61, 63—69, 71, 100, 104, 119, 121, 123—126, 128, 130, 139—142. *перасêкáць, перасêкáю* 9. *перасякáю, перасякáя* 20. *перасiкáць, перасiкáю* 2, 4, 8, 14, 17, 25, 25а, 28, 36, 37, 74, 80, 81. *перэсiкáць* 120. *пiрасiкáць, пiрасiкáю* 1, 6, 8а, 25, 26, 30, 33, 38, 75. *пiрiсiкáць, пiрiсiкáю* 15, 16, 32, 35, 41—44, 79, 83—87, 89. *пiрысiкáць, пiрысiкáю* 5. *пiрысiкáць, пiрысiкáю* 7, 10, 11, 29, 34, 35, 78. *пiрасякáць, пiрасякáю* 27. *пiрясiкáць, пiрясiкáю* 89. *пярасякáць, пярасякáю* 72, 76. *пярысiкáць, пярысiкáю* 40. *парасякáць, парасякáю* 82, 118, 119. *пырысыкáты, пырысыкáю* 90, 91. *пэрэсыкáты, пэрэсыкáю* 96а. *пэрэсэкáты, пэрэсэкáю* 97, 131. *прасякáць, прасякáю* 70. *прысiкáць, прысiкáю* 13.
*перасéкаць, перасéкаю* 56, 62, 67, 99, 104 (трад.), 105, 106, 110, 111, 114—117, 122, 129, 135. *перасêкаць, перасêкаю* 112, 113. *перэсéкаць, перэсéкаю* 134. *перасéкцi, перасéкаю* 77. *пэрасéкаць, пэрасéкаю* 101. *пэрэсéкаць, пэрэсéкаю* 102, 107. *пэрэсéкатi, пэрэсéкаю* 94. *пэрэсiкаты, пэрэсiкаю* 94а, 108, 109. *пырысiкаты, пырысiкаю* 95, 96, 132. *пэрэсiкатэ, пэрэсiкаю* 98. *пырысiкаты, пырысiкаю* 103. *парасьсячы, парассéкаю* 93.
*перасякáць, перасéкаць, перасякáю, перасéкаю* 53, 54, 67, 129. *перасéкцi, перасéкаю, перасякáць, перасякáю* 127. *пэрэсéкцi, пэрэсéкаю* 133.

### Карта № 225

## НАЦІСК У ФОРМАХ ДЗЕЯСЛОВА *ПРАЦЯКАЦЬ*

№ 3901 «Працекаць, працякаць: працекае, працеквае, працякае...»
Картаграфуюцца формы інфінітыва і трэцяй асобы адзіночнага ліку дзеясловаў незаканчанага трывання з розным тыпам націску: на тэматычным галосным

**Карта № 256**

## СЛОВА *НЯЗРУЧНА* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 3947 «Нязручна, няўдобна...»

На карце супрацьпастаўлены варыянты прыслоўя нязручна. Паказаны лексіка-словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні. Сінтаксічныя канструкцыі *не пад рукý, не па руцэ́, ні к рукé, не з тóе рукí* картаграфуюцца як *не з рукí*.

*нязрýчна* 1—3, 5—7, 9—11, 14, 19, 21, 25—27, 29—31, 34, 37, 38, 40, 42, 44—46, 48, 54, 57, 59, 63, 65—67, 69—73, 75, 77, 80, 83, 85, 86, 89, 100, 104, 116, 120а, 121, 125, 129, 139. *нязрýчно* 53, 60, 62, 110, 112. *незрýчна* 52, 107. *незрýчно* 51, 93, 94, 108, 109, 113, 133. *нізрýчна* 22, 23, 76, 81, 119, 124, 127. *нізрýчно* 47, 50, 55, 56, 99. *нызрýчно* 90, 91, 96, 96а, 103, 131, 132. *нязрýшна* 15, 84. *нізрýшна* 118.

*незручнó* 54, 114, 135, 136. *нізручнó* 52а, 64. *незрушнó* 138. *нызручнó* 95.

*няўрýчна* 12, 16.

*няўдóбна* 5, 8а, 9, 13, 16—18, 28, 29, 31—33, 35, 36, 41—43, 54, 57, 59, 67, 68, 74, 75, 78, 80, 83, 85—89, 105, 115, 117, 120, 125, 126, 130, 139. *няўдóбно* 53, 140—142. *неўдóбна* 106, 122, 134. *неўдóбно* 94, 107, 137. *невдóбна* 101. *невдóбно* 108, 109. *ніўдóбна* 34, 37—40, 49а, 82, 118, 119, 123, 124, 128, 129. *ніўдóбно* 102. *нывдóбно* 92, 94а, 96, 98, 103, 132.

*няёмка* 69, 79. *ніёмка* 81.

*нядóбра* 8, 24. *нядóбро* 49. *ныдóбрэ* 96. *нідóбра* 111.

*не з рукí* 94, 134. *ны з рукы́* 131. *не пад рукý* 20, 58. *не па руцэ́* 52. *ні к рукé* 1. *не з тóі рукí* 108. *ны с тéі рукы́* 95.

Адзінкавыя: нялóўка 4. *нягóдна* 8а. *ніпадрýчна* 75.

Адсутнасць назвы: 61, 97.

**Карта № 257**

## СЛОВЫ *ПРЫТНА, УЕДЛІВА* І ІХ АДПАВЕДНІКІ

№ 3948 «Рабіць што-небудзь уедліва, прытна...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя варыянты прыслоўя *уедліва*. Назва *насты́рліво* картаграфуецца як *насты́рно*.

*спры́тна* 1, 4, 8, 8а, 10, 11, 23, 25—31, 33, 37, 49, 52а, 54, 57—59, 63—67, 69, 72, 74, 81, 83, 85, 87—89, 116, 122, 125, 127. *спры́тно* 47, 50, 53, 55, 62, 93, 94, 96, 102, 106, 111, 112, 114, 117, 133, 138. *спрíтно* 113.

*пры́тна* 5, 73, 75, 81, 118, 124, 129, 130.

*пры́тка* 70, 78.

*заéдліво* 134.

*уéдліва* 44, 46, 52а, 75, 76, 84, 86, 104, 107, 126, 129, 139, 141, 142. *уéдліво* 102, 110, 138.

*уéдла* 56.

*уéдна* 18, 127.

*зая́дліва* 64, 69, 71.

*уя́дліва* 54, 105. *уя́дліво* 99.

*зая́дла* 2, 19, 21, 46, 77, 82, 118, 119. *зыя́дла* 35, 43, 79, 84. *з'я́дла* 22. *зая́дло* 51, 53, 61, 94, 133.

*зая́дле* 52, 57.

*зая́дна* 12. *зыя́дна* 84.

*пíльна* 13, 25а, 29, 128. *пíлна* 35. *пы́льно* 108.

*шчы́ра* 3, 32. *шчы́ро* 62, 94а—96, 109, 135. *шчíро* 113. *шчэ́ро* 98.

*бы́стра* 17, 33, 39, 40, 42, 69, 87, 89, 120, 121, 123, 129. *бы́стро* 101.

*хýтка* 10, 11, 45. *хýтко* 92, 131.

*заўзéнта* 68. *заўзёнто* 90, 94а, 109. *завзéнто* 92.

*насты́рно* 113, 132. *насты́рліво* 95.

Іншыя адпаведнікі: *заю́шна* 6. *залóжна* 10. *без разгíба* 16. *шалёна* 24. *ёмка* 38. *прэ́нка* 49а. *нáгле* 56. *крýкам* 75, 81. *звíнно* 93. *дóбро* 100. *дóбра* 121. *нагáльно* 103. *хлёстка* 120а. *прытýжно* 134.

**Карта № 258**

## СЛОВА *УРЫЎКАМІ* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 3949 «Урыўкамі, прыхваткам...»

На карце прадстаўлены варыянты прыслоўя ўрыўкамі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назвы *пры́хваткай, пры́хваткаю, прíхваткі, пры́хваткамі* картаграфуюцца як *пры́хваткам, пры́хапкамі, прыхóпкамі* — як *пры́хапкам, прыскóкам* — як *пры́скакам, прыры́ўкам* — як *прыры́ўкамі*.

*пры́хваткам* 10, 20, 23, 45, 47, 48, 49а, 50, 54, 55, 57, 70, 74, 75, 81, 82, 105, 116, 122, 123, 125, 126, 128—130, 139. *пры́хватком* 62, 90, 93—97, 101—103, 106, 109, 115, 132, 136. *пры́хвыткам* 43. *пры́хвыткым* 78. *прíхваткам* 86, 88. *прíхваткым* 44. *прíхвыткым* 41, 79, 85. *прíхватком* 113. *прéхватком* 98. *пры́хваткай* 11. *пры́хваткаю* 60. *прíхваткі* 13.

*пры́хватам* 58. *прíхватым* 16.

*пры́хапкам* 19, 75, 80, 81, 118, 119, 124, 129. *пры́хапком* 91, 92, 114. *пры́хопком* 131. *пры́хапкамі* 67, 77, 134. *пры́хапкамы* 108. *прíхапкамі* 133. *прыхóпкамі* 138.

*пры́тачкамі* 21, 25, 26, 70, 73, 81, 118, 119, 124, 129. *пры́тычкамі* 68, 69. *пры́тъчъкъмі* 34.

*пры́скакам* 36. *пры́скыкам* 42. *прíскъкъм* 39. *прíскыкымі* 84. *прыскóкам* 2, 32. *прыскóкым* 35.

*уры́ўкамі* 9, 14, 22, 25а, 28, 31, 37, 46, 54, 76, 81, 104, 108, 126, 140, 141. *урíўкамі* 133. *уры́ўкамы* 4. *уры́ўкымі* 41, 83, 84, 87, 89.

*прыры́ўкамі* 2, 5, 6, 8, 29. *прыръ́ўкъмі* 8а. *прыры́ўкам* 7. *прэры́ўкам* 17. *прíры́ўкъм* 12.

*атры́ўкъмі* 15. *одры́вкамы* 109. *отры́вкамі* 102.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *перары́ўкамі* 1. *дары́ўкамі* 18.

**Карта № 259**

## СЛОВА *СУПОЛЬНА*, ЯГО ВАРЫЯНТЫ І АДПАВЕДНІКІ

№ 3951 «Разам, пасполу, супольна, саабшча...»

На карце адлюстраваны прыслоўі, якія прыведзены ў пытанні, а таксама тыя, што з'яўляюцца сінонімамі ўказаным вышэй прыслоўям. Усе яны маюць значэнне 'рабіць што-н. разам, быць разам'. Картаграфуюцца іх словаўтваральныя варыянты.

*рáзам* 2—4, 6, 7, 10, 11, 17, 21, 22, 25 (жывуць), 25а—28, 30, 31, 33, 36—38, 46, 47, 49—51, 52а—57, 59, 60, 62—65, 67— 75, 77, 80—82, 86, 99, 100, 104, 105, 110, 115, 116, 118, 119, 120 (пойдзем), 120а, 121, 123 (паедзем), 125—130, 139—141. *рáзъм* 5, 8а, 13. *рáзым* 29, 35, 42, 43, 78, 83—85, 87, 89. *рáзом* 90—98, 101, 102, 103 (наогул), 106—109, 111, 112 (жывуць), 113, 114, 117, 132—138.

*спýльна* 8а, 20, 21, 23, 52, 52а, 54, 57, 61, 104. *спýльня* 18, 59. *спýльно* 60, 102, 113, 131. *спýлно* 94а. *спíлно* 90, 96. *спíлно* 92, 98. *спы́лно* 95. *спы́льно* 96а. *спóльно* 46, 62, 99, 114. *спóлно* 94.

*супóльна* 19, 45, 48. *супóльно* 47, 133. *супóлна* 112. *супíлно* 109. *супíлнэ* 97. *супýлно* 132. *супэ́лна* 107. *супúлно* 103, 108.

Адзінкавыя варыянты ад таго ж кораня: *пóспаль* 25. *пóспал* 127. *наспóлку* 50, 55 (трад.). *успýлку* 21. *спулэ́чня* 18.

*умéсці* 1, 4, 12, 16, 32, 34, 39, 41, 43, 44, 78, 79, 81, 86, 88, 124, 128, 129, 142. *умéсце* 9, 36, 67. *умéсця* 54, 68.

*саўмéсна* 15, 75, 81, 129. *соўмéсна* 134. *соўмéсно* 138. *заўмéсна* 8а. *сумéсна* 24.

Адзінкавыя варыянты ад таго ж кораня: *умéсна* 8а. *умясцёх* 16.

*óбшча* 2, 8, 14, 34. *вóбшча* 129. *вóпшча* 69. *ўóбшча* 84. *óпшча* 54.

*саабшча* 36, 40, 75, 119, 126, 141. *съабшчá* 41. *сыыбшча* 44, 87, 88. *сабшчá* 118, 125. *сыбшчá* 85, 89. *саапшшá* 16, 76.
*талакóй* 10, 11. *талакóю* 58.
*гýртам* 66, 70. *гуртóм* 82.
Адзінкавыя: *увадно́* 6. *з'ядзíна* 12. *кыгáлым* 89. *вкýпі* 98 (часцей). *заéдно* 135.

### Карта № 260

## СЛОВА *ЛЕДЗЬВЕ*, ЯГО ВАРЫЯНТЫ І АДПАВЕДНІКІ

№ 3956 «Чуць, ледзьве...»
Картаграфуецца **пашырэнне** лексемы *ледзь* і яе лексічных адпаведнікаў *чуць, еле* ў значэнні 'злёгку', 'нямнога, з вялікай цяжкасцю'.
*чуць* 1, 3, 4 (пераважна), 5—15, 17, 18 (часцей), 21, 22, 24—44, 48—50, 54, 55, 57—61, 62 *(чуць свет)*, 63, 64, 65 *(нямнóшка)*, 66, 67 (чуць свет), 68—70, 72—89, 93, 94, 100, 101, 104—106, 113—130, 135, 136, 139—142. *чуть* 90—92, 94а, 95 (трошкі), 96, 98, 103, 108 *(с чуць-то)*, 109, 131, 132. *цуць* 16.
*ледзь* 113, 119, 133, 138. *лець* 2, 4, 10 (рэдка), 65 *(еле-еле)*, 100. *ледь* 90, 94а, 96 (некалькі адрозніваецца ў значэнні ад *чуць*), 96а, 98, 108, 132—134. *лэдь* 92, 131. *лéдзьвя* 19, 50, 54, 55, 60, 71. *лéдзьве* 22, 23, 31, 46, 48, 53, 57, 59, 61, 62 *(ледзве прышоў)*, 67, 87, 99, 107, 110, 135—137, 139. *лéдзві* 111—113. *лéдьва* 102. *лéдзьво* 138. *лéдьва* 134. *лéдьві* 134. *лéдва* 45, 93, 134. *лéдве* 20, 24, 52, 52а, 94, 117. *лéдвя* 2. *лéдво* 47, 51, 56. *лядвá* 54.
*лéдзьбы* 69. *лéдьбы* 109. *лéдьбо* 98, 103, 108, 132.
*ледьбошо* 95. *ледьбошчó* 95, 103. *ледьшó* 95. *ледьшчó* 103.
*налéдзь* 113.
*éле* 91, 124, 125. *éлі* 75, 84, 127—129.
*насíлу* 84, 113, 118.

### Карта № 261

## СЛОВА *РОСНА* І ЯГО ВАРЫЯНТЫ

№ 3957 «Росна, расно, расяна...»
Картаграфуюцца словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты прыслоўя *рóсна*.
*рóсна* 1, 2, 6, 8, 10—13, 18—20, 22, 23, 25а, 26, 28, 30, 31—36, 41, 42, 44, 46, 54, 57, 59, 63—65, 67—72, 75—77, 80, 83, 84, 88, 104, 107, 116, 118, 120—121, 124—127, 129, 130, 140—142. *рóсно* 47, 49, 51, 53, 60—62, 91, 100, 105, 110—112, 115, 117, 135—139. *рóсная рáніца* 25.
*раснó* 40, 45, 48, 50, 52а, 54, 55, 58.
*расяна* 38, 75, 81, 82, 86, 88, 123, 128, 129. *ръсяна* 5, 8а, 15, 73. *рысяна* 39, 43, 44, 78—80, 84, 85, 87, 89. *расяно* 93, 99. *росяно* 106, 133.
*расянó* 56, 92. *росянó* 90, 94а, 95—96а, 102, 103, 132. *росенó* 94.
*рóсяно* 98, 108, 109, 131.
*раслíва* 54.

### Карта № 262

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *БОЯЗНА, СТРАШНА*

№ 3958 « **Боязна,** баязно...»
Картаграфуюцца прыслоўі *бóязна* і *стрáшна*, а таксама іх словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты.
У 7, 8 і 84 пп. знак ставіцца на аснове дзеяслоўных форм — гэта значыць улічваецца толькі корань слова. Як *бóязна* картаграфуецца *бóясна* 71, *бóвязно* 60, *бóіска* 118, *бóязка* 122, як *стрáшна* — *стрáшка* 38, 68, 76, 122, *стрáшкі* 69.

*бóязна* 11, 22, 23, 25а, 33, 46, 63—70, 72, 75—77, 80, 82, 88, 104, 107, 108, 116, 117, 119, 121, 124—130, 140—142. *бóязно* 47, 49, 53—62, 91, 100, 102, 111—115, 133, 135, 137, 139. *бóізна* 5, 10, 15, 16, 26, 28, 32, 37, 40, 81, 83, 84, 123. *бóезно* 134, 136, 138. *бóвязно* 60. *бóясна* 71. *бóіска* 118. *бóязка* 122. *баюся* 7, 84. *баюсю* 8.
*баязнó* 3, 18, 20, 27, 30, 45, 49а—52а, 54—57, 59, 67, 99, 104—106. *боязнó* 48, 94а, 109, 132.
*стрáшна* 1, 2, 4—6, 8а, 9, 12—14, 16, 17, 19, 21, 25, 29, 34, 36, 39, 41—44, 58, 64 (часцей), 69, 70 (часцей), 73—75, 78, 79, 81, 84—89, 103, 118, 120, 126, 128. *стрáшно* 51, 52, 61, 90, 92—98, 101, 108, 109, 111—113, 131—133, 135. *стрáшка* 38, 68, 76, 122. *стрáшкі* 69.

### Карта № 263

## НАЦІСК У СЛОВАХ *СВЕТЛА, ВІДНА*

№ 3960 «Светла, святло...»
**Картаграфуецца** націск у прыслоўях відна, светла.
З-за неадпаведнасці тэме карты лексема *відна (віднó)* пракартаграфавана няпоўнасцю. Значэнне слоў у адказах не адзначана, за рэдкім выключэннем прыведзены прыклады, на падставе якіх можна выявіць яго: 1 *у хаці віднa.* 2 *віднa ў хаці, чыста; стáла светла ў вачáх.* 4 *у хáці светла.* 6 *былó яшчэ́ відна.* 8 *відна былó, віднéй у хáці, як абоі белыі.* 10 *светла, як днём.* 11 *светла на вýліцы.* 19 *былó яшчэ́ светла.* 20 *у хáця светла.* 23 *светла зрабілася.* 25 *светла, відна ў хáця.* 36 *светла на двары́.* 45 *светла ўжó на дварэ́.* 47 *ужэ́ віднo, мóжно ўставáць.* 51 *у хáце былó віднó.* 52 *былó светла.* 58 *ужó светла былó.* 66 *былó ўжо віднó, у хáця віднó.* 68 *светла, стáла светла, скóра дзень.* 69 *светла стáла.* 99 *светло яйцó; святлó наступíла.* 101 *віднó на дварэ́.* 112 *віднó былó.* 115 *віднó стáло.* 116 *светла яшчэ на дварэ́.* 123 *светла як.* 129 *святлó* (на дварэ світае), *святлó* (газоўка), *светла ўжо, уставáй карóву даіць.* 140 *светла і рáдасна стáла на душы́, спявáць і бéгчы кудысь хацéлася.*
*свéтла* 2—5, 7, 8а, 10—23, 25—45, 48, 49а, 52, 52а, 54, 57—59, 65, 67—76, 78—89, 104, 116—130, 140, 142. *свéтло* 49, 50, 53, 60, 62, 63, 105, 107, 110, 114, 134, 136—139, 141. *свíтло* 91.
*святлó* 16, 40, 46, 54, 83, 85, 88, 102, 104, 108 (рэдк.), 128. *светлó* 94 (рэдк.). *сватлó* 93.
*вíдна* 1, 2, 6, 8—9, 14, 25, 81, 87, 89. *вíдно* 47, 53 (часцей). *вы́дно* 90, 92, 96, 96а, 131, 132, 138. *вéдно* 98.
*віднó* 49а, 51, 56, 61, 64, 66, 100, 101, 111—113, 115, 133, 135. *выднó* 94а, 95, 103, 108, 109, 132. *віннó* 106.
Адведзены: *я́сно* 53—55, 94.

### Карта № 264

## СЛОВА *ПЕХАТОЙ* І ЯГО ВАРЫЯНТЫ

№ 3961 «Ісці пяшком, напéшу, папéшу, пехатой...»
Картаграфуюцца словаўтваральныя варыянты прыслоўя *пехатóй* ('ісці нагамі') Як *пяшкóм* картаграфуецца *пешакóм, пішакóм* 34, 53, 72, 75, 96, 98, 101 пп., як *пéша — пéшай* 58 п. Як слова *напéша* картаграфуюцца *напéшы, напéшу, напéшшу.* Як *пéшшу* картаграфуецца *пéшчу* 118 п.
*пяшкóм* 5, 7, 8, 9—13, 16—18, 21, 23, 25, 28, 30—33, 35, 38, 39, 41—44, 46—49, 52а—54, 56, 57, 59—62, 64, 65, 67—70, 73—85, 86 (рэдк.), 88, 89, 99, 104, 110—112, 116—120, 122—128, 130, 139, 140 (трад.). *пешкóм* 94, 102, 107—109, 114, 134, 137, 142. *пашкóм* 37, 106, 135. *пышкóм* 90—92, 94а, 95, 96а, 103, 131, 132. *пішкóм* 96, 98. *пэшкóм* 101. *пешакóм* 53, 72. *пішакóм* 34, 75.
*пéшкам* 66, 82, 105, 118, 128. *пéшкым* 35.

*піхатóй* 1—4, 6, 8, 8а, 10, 11, 27, 29, 32, 41, 57, 75, 79, 81, 83, 87. *пехатóй* 9, 20—22, 24, 25а, 31, 36, 48, 52, 53, 54, 59, 82, 86 (рэдк.), 102, 107, 118, 124, 127, 136, 140—142. *пяхатóй* 88. *пяхатóю* 50, 60, 61. *пехатóю* 62, 67, 104, 119. *піхотóю* 94а, 95 (рэдк., нов.), 108, 109, 134. *піхутóю* 98. *пыхатóю* 90, 96 (рэдк.).
*пехатóм* 59 (індывід.), 115, 138 *(пехотóм)*.
*пéшшу* 1, 6, 14—16, 25, 26, 29, 31, 34, 36, 40, 41, 67, 68, 70—73, 76, 80, 81, 84, 85, 87, 89, 111, 112, 141, 142. *пéшу* 46, 53, 114. *пéш'ю* 63, 134. *пéшчу* 118.
*пéша* 45, 52а, 54, 59, 76, 84, 85, 98, 102, 104. *пíшо* 95, 96, 103. *пéшо* 51, 55, 90, 94. *піша* 97. *пішы* 108, 109, 132. *пéші* 133. *пéшшы* 124, 139. *пéшай* 58.
*пешакá* 62, 82, 102, 118, 129. *пешэкá* 134. *пішакá* 75, 96. *пішыкá* 29 (нов.), 35, 84. *пышакá* 95 (рэдк.), 131 (рэдк.).
*пéшкі* 60, 118, 120а, 121, 125, 127—129, 134, 136, 138. *пéшка* 84.
*напéша* 49а, 54, 60, 62. *напéшы* 94а. *напéшу* 57. *напéшшу* 100. *напéшо* 93.
*напехатý* 19, 20, 24. *напіхатý* 25.
*напяхóту* 50, 55 (рэдка), 58. *напехóту* 133. *напыхóту* 131, 132.
*напéх* 103.

### Карта № 265

## СЛОВА *КРАДУЧЫСЯ* І ЯГО ВАРЫЯНТЫ

№ 3962 «Хадзіць украдкам, украдкі, крадучыся...»
Картрграфуюцца прыслоўі са значэннем 'ісці ўпотай, крадком'. На карце адлюстраваны словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты лексем, якія ўтвораны ад кораня *-крад-*, і прыведзеныя ў матэрыялах лексічныя адпаведнікі. Як *крадкóм* картаграфуецца *крадукóм* 53 п., як *нішкóм — нішачкóм* п. 115.
*крáдучыся* 7, 9—11, 14, 27, 57, 59, 61, 62, 66—69, 73, 75, 76, 80, 81, 86, 94, 104, 116, 118, 120а, 124, 126—128, 142. *крáдучыса* 135. *крáдучысь* 94а, 95, 114.
*крадучы́ся* 3, 4, 8а, 18—20, 22, 25, 25а, 31, 33, 52—54, 58, 63, 74, 99, 100. *крадучы́са* 47, 49, 110, 112.
*укрáдкам* 14, 17, 28, 36, 46, 48, 49а, 67, 75, 78, 82, 86, 104, 119, 123, 124, 127—130. *укрáдком* 96а, 97, 108, 131, 132. *укрáдкым* 40—42, 79, 83—85, 89. *укрáдкъм* 15. *укрáткам* 8, 26, 30—32, 38, 45, 50, 51, 52а—56, 62, 72, 118. *укрáтком* 93, 94. *укрáткъм* 12, 13, 34, 39. *укрáткым* 16, 29, 35. *вкрáдком* 92, 95, 96, 103, 109. *вкрáтком* 94а, 98.
*украдкóм* 43, 89.
*крáткам* 53, 57.
*крадкóм* 120, 135. *крадукóм* 53.
*укрáдкай* 81, 125, 142. *укры́дкый* 44. *укрáткаю* 60.
*укрáдкі* 64, 70, 77, 81, 101, 102, 106, 107, 116, 119, 121, 126, 129, 133, 134, 136, 139. *укрáткі* 23, 24, 65, 71, 76, 105, 111, 112, 118. *укрáдкы* 103.
*украдкí* 114, 117, 138, 140, 141.
*скрáдаючысь* 90, 95, 96. *скрадáючись* 98. *скрадáючыс* 103. *скрадáючыса* 108, 109.
Іншыя варыянты слоў, утвораныя ад таго ж кораня: *крадзя́ся* 2. *укрáдні* 35, 84. *крáдма* 44. *укрáдушыся* 54. *я ўкрáўся ад бáцькі* 57. *укрáдма* 78. *крáвшіса* 113. *украдучы́сі* 129. *падкрадáючыся* 37. *пудкрадáючысь 96*.
*тайком* 1, 6, 68, 88, 127.
*цішкóм* 5. *цíхóнька* 8. *цíхънъка, цíха* 8а. *нацíхарá* 113. *уцíхýю* 128. *пацíху* 137. *нішачкóм* 115. *цішкóм* 133.
Адзінкавыя: *цíкáючыся* 21. *хавáючыся* 116. *змóўчка* 122.

### Карта № 266

## СЛОВА *НЕЧАКАНА* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 3963 «Прыехаць нечакана, знéчаўку...»
Картаграфуюцца прыслоўі са значэннем 'раптоўна з'явіцца, калі не чакаюць'. Пры картаграфаванні ўлічваецца націск у слове, словаўтварэнне і нерэгулярныя фанетычныя асаблівасці. Семантычныя нюансы пры картаграфаванні не ўлічваюцца.
Як *знéцікі* картаграфуецца *знéцькі* 123. У 8 п. знак пастаўлены на падставе адказа *ніждáная*. У 3 п. *зленáцку* картаграфуецца як *знянáцку*. Як *знéцяйку* картаграфуецца *знéцяўку* у 120 п.
*нечакáна* 24, 28, 30, 31, 45, 48, 49а, 51, 52а, 54, 57, 59, 67, 71, 104, 111, 112, 118, 119, 121, 125—127, 130, 140, 142. *нечакáно* 62, 137, 139. *нечэкáно* 134. *нічакáна* 22, 27, 33, 64. *нічыкáна* 10, 11, 26, 83, 87. *нічыкáнна* 78.
*нежджана* 66, 111, 117, 129, 141. *неждáнна* 36, 41, 77, 84, 86, 87. *неждáно* 94, 101, 133, 135, 139. *ніждáна* 12, 25, 32, 39, 85. *ніждáнна* 86, 89. *ніждáно* 47, 98. *ныждáно* 96а. *ніждáная* 8.
*неажы́данна* 17, 75, 86, 116, 119, 123. *ніажы́данна* 35, 80. *ніажы́дана* 7, 35, 120. *неожы́дано* 138. *ніожíдано* 134. *нэожыданно* 91. *нэожы́дано* 97. *нэжы́дынна* 40, 79, 84.
*нінáжано* 98, 109. *нынáджано* 92, 95, 96, 106. *нынáджоно* 94а, 103, 113, 132.
*неспадзя́вана* 18, 20, 21, 52, 54, 57, 69, 70. *несподевáно* 108. *ніспадзявáна* 2. *ніспъдзівáна* 8а, 25а. *неспадзёвáно* 51. *неспадзя́на* 19.
*неспадзéўкі* 70. *ніспадзéўкі* 6. *неспадзéўку* 67.
*неўспадзéўкі* 21, 62. *ніўспадзéўкі* 4, 8а. *ніўспадзéўку* 8а.
*знянáцку* 9, 49, 63, 68. *знінáцку* 8а, 23, 38, 42, 79. *зненáцка* 94 (рэдк.), 107, 114. *зленáцку* 3.
*знéнацку* 102. *знéнацка* 96.
*знячэ́ўку* 41, 44, 46 (часцей), 50, 55, 56, 60, 61, 65, 85 (рэдк.), 99, 104. *знечэ́ўку* 110. *знічэ́ўку* 13, 53, 54, 58, 59.
*знéчаўку* 46, 67, 100, 126. *знéчяўку* 133.
*знячы́вікі* 10, 11.
*зняцéйку* 69 (даўн.). *зніцéйку* 14, 35.
*знéцяйку* 72, 76. *знéцяйкі* 124, 128. *знéцяўку* 120.
*знéцільку* 16. *знéцелькі* 36. *знéцелкі* 73.
*знéцікі* 75 (сабака кінуўся), 82, 84, 118, 127. *знéцькі* 123.
*знéўцікі* 29. *зняўцéкі* 31.
Іншыя лексемы: *нічáйна* 7. *нячáйна* 8. *ніўзнáц(ч)эйку* 15. *нічáінна* 34. *ненадзéйна* 37. *ніўнацéй* 43. *незáпна* 54. *нінадзéйна* 74. *ненадзéжна* 81. *нынадíяно* 90. *рáптам* 93. *нічáянно* 115. *неўгадáна* 122. *раптóўна* 127. *ненадзíйна* 131. *нечáяно* 138.

### Карта № 267

## ВАРЫЯНТЫ СЛОВА *НІЦ*

№ 3965 «Легчы ніц, ніцма...»
Картаграфуюцца словаўтваральныя варыянты лексемы *ніц* у значэнні 'знаходзіцца ў ляжачым стане тварам уніз'. Як *ніцам* картаграфуецца *ніцóм*.
Акрамя таго, на карце паказаны лексічныя адпаведнікі слова *ніц*, якія былі адзначаны збіральнікамі.
*ніц* 1, 3, 4—9, 14, 15, 17, 21, 24—32, 34—46, 63, 64, 66—68, 70—89, 104—106, 110, 111, 115—130, 135, 138—142.
*ніцма* 13, 18—20, 22, 23, 41, 47—50, 52—62, 65, 67, 83, 94, 99—102, 104, 107, 110, 112—114, 119, 133, 136, 137, 140, 142. *ніцьма* 93. *ныцьма* 91, 92, 95—96а, 102, 103, 108, 109, 131, 132. *ныцма* 94а, 97. *нытьма* 90. *нэцьма* 98.
*ніцам* 1, 16, 69, 81, 104. *ніцым* 41, 44. *ніцóм* 15.
*ніцкóм* 2, 67.
*наніц* 12.
Іншыя лексемы ў гэтым жа значэнні: *уніс галавóй* 4, 10. *уніз* 11 (легчы). *тыршмакá* (на жываце) 33. *лёх нýртам* 51. *пóтыч, плáзьма* 134.

## Карта № 268

## ВАРЫЯНТЫ СЛОВА *НАВІДУ*

№ 3968 «Навіду, навідавоку...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя варыянты прыслоўя *навідавóку* 'так, што ўсе бачаць'. Падаюцца таксама асобныя лексічныя адпаведнікі, якія сустрэліся ў адказах. *Наповыдóццы* (95 п.) картаграфуецца як *навідóку*.

*навідý* 1—4, 7, 8, 14, 17, 18, 23, 28, 30—33, 36—38, 44, 45, 46 (радзей), 47—49а, 52а, 54, 58,66,67, 70, 72—76, 80—82, 86, 88, 93, 94, 100—102, 105—107, 110—112, 114—130, 134—137, 139—142. *ныві́дý* 16, 29, 35, 40—43, 78, 79, 83—85, 87, 89. *нъвідý* 8а, 9, 12, 13, 15, 34, 39. *навыдý* 91, 97, 108.

*навідавóку* 3, 21, 22, 25а—27, 53, 56, 57, 59, 60, 62, 65, 69, 71, 99, 104. *наідавóку* 61. *нывідавóку* 79. *навідавóка* 64.

*навідóку* 4, 10, 11, 19, 20, 46, 52.

*навідакý* 6. *нъвідакý* 8а. *нывідакý* 35.

*навіткý* 25, 50, 51, 54.

*навідóцы* 131, 133. *навідóце* 98. *навыдóці* 92, 94а. *навыдóцы* 96, 103, 108, 109. *навыдóццы* 132.

*наповідóку* 112, 113. *наповыдóццы* 95.

Адзінкавыя варыянты слоў з тым жа коранем: *нъвідакý* 5. *навідóнцы* 24. *навідóчку* 54. *напавітку* 55. *навіднóцы* 77. *навыднóцы* 96а. *навіднóце* 98. *навідóліцы* 135. *навідóлішчы* 138.

Іншыя лексемы ў гэтым жа значэнні: *надóзірку* 10, 11. *навычáх* 44. *на вачóх* 68. *на прэ́зэнты* 90. *на аччý* 120а. *нацэ́нтары* 127.

## Карта № 269

## СЛОВА *ДÓЛЕ* І ЯГО ВАРЫЯНТЫ

№ 3969 «Сядзець доле, далавах...»

Тэмай карты з'яўляецца пашырэнне словаўтваральных варыянтаў прыслоўя *дóле* ў значэнні 'сядзець унізе, на падлозе, на зямлі'. Словы з гэтым жа коранем у іншых значэннях не картаграфуюцца. Лексічныя адпаведнікі слову *дóле* знаходзяцца ў спісе слоў. Як *далаўкáх* картаграфуецца *далукáх*.

*дóля* 27, 33, 63, 66—68, 72, 83. *дóле* 28, 46, 53, 71, 74, 105, 115, 116, 120, 125—126, 140. *дóлі* 38, 64, 65, 69 (даўн.), 70, 73, 75—77, 80—82, 104, 106, 110—112, 114, 117—119, 120а—124, 127—130, 134, 135, 139, 141. *на дóлі* 107. *на дóлу* 80 (трад.), 88. *дóла* 100.

*дóлах* 2, 21, 23.

*дóлках* 25, 26, 30, 31, 36, 37.

*далавáх* 1, 3, 4, 6, 8, 17. *дълъвáх* 5, 8а.

*далъўкáх* 9. *дылыўкáх* 7, 29. *дылуўкáх* 16. *далукáх* 10, 11, 14.

*далóўках* 78, 79, 134. *на далóўках* 138. *далóўкых* 35, 44.

*далóўкі* 84, 124, 129. *далóўцы* 134.

Адзінкавыя варыянты: *далавá* 22. *дóлка* 24. *удалý* 93. *вдóлы* 108. *дóлкі* 118. *удóлі* 138.

Іншыя лексемы ў тым жа значэнні: *на падлóзе* 4, 20. *нъ падлóзі* 34. *на падлóдзы* 51. *падлóзя* 52а. *на мастý* 1, 128. *нъ мастý* 15, 39. *на палý* 18, 49а. *ны палý* 43, 85, 88. *на зямлі* 25а, 32, 58, 99. *ны зямлі* 85. *на землі* 19, 20. *на землé* 52. *на земнé* 101. *сеў на зямлю* 56. *унізý* 40, 42, 135. *внызý* 94а, 95, 109. *нанізý* 134.

## Карта № 270

## СЛОВА *ДАМОЎ* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 3970 «Прыйсці дадому, дамоў, дахаты...»

Тэмай карты з'яўляецца пашырэнне слоў у значэнні 'у свой дом, у сваю хату, да сваёй сям'і.

У 56 п. ёсць заўвага *дамóў, дахáты яшчэ прачнéй*, што відаць трэба разумець як больш ужывальнае слова. Як *удвóр* картаграфуецца *удвóру* (85, 89).

*дамóў* 1, 2, 5—11, 15, 16, 21—25а, 27—31, 33—38, 43 (кажуць старэйшыя), 54, 57, 63, 66—71, 73—77, 81—83, 107, 118, 119, 120а, 124, 125, 127—129, 135, 137, 138. *домóў* 134. *домóв* 113.

*дамóй* 12—14, 16, 32, 35, 38—43, 78, 79, 85—87, 89, 125, 127. *домóй* 107.

*дадóму* 10 (радзей), 17, 20, 31, 52, 53, 54, 56, 57 (сучасн.), 59—62, 64—67, 72, 75, 76, 81—84, 86, 88, 99, 100 (часцей), 104, 106, 110, 112, 113, 115—120а, 123, 124, 126—128, 130, 135 (нов.), 139, 141, 142. *додóму* 90—92, 94—96а, 101—103, 109, 114, 131, 133, 134, 136, 138, 140. *дудóму* 98. *додóмы* 95, 97, 108, 109, 132. *додóм* 122.

*дамóўку* 127.

*дахáты* 3, 4, 18—20, 26, 27, 30, 35, 46, 48—52, 54—62, 67, 75, 93, 99, 100, 104, 105, 111—113, 118, 119, 121, 124, 127, 129, 135. *дыхáты* 83, 84. *дохáты* 90, 91, 94—96, 102, 103 (радзей), 107—109, 114, 132, 134. *духáтэ* 98. *дахáт* 47.

*удвóр* 35, 84, 128. *удвóру* 85, 89.

*да двaрá* 75. *ды двырá* 84.

*двóру* 44, 84, 86, 88.

*до госпóды* 108.

Адведзены: *быў удóма, пашóў у дом* 52а. *ідзі ў хáту* 65. *прышóў у хáту* 69.

## Карта № 271

## СЛОВА *ШЧОПАЦЬ* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 2287 «Я.н. невялікая колькасць солі, перцу (што можна ўзяць трыма пальцамі): нюшак, шчопці, шчопаць, шчэпаць...»

Картаграфуюцца карані слоў, якія называюць невялікую колькасць сыпучых рэчываў. Пры картаграфаванні ўлічаны галосны кораня слова і націск.

У радзе выпадкаў лексема *нюх* зафіксавана ў фразеалагізмах: *за нюх табакý, прапáў за нюх табáкі, ні за нюх табáкі* і інш. Гэта пазначана на карце.

Ад картаграфавання адведзены лексемы, якія ўказваюць наогул на невялікую колькасць рэчыва (солі, перцу і інш.) тыпу: *цюцяльку, крышачку, трóшачкі, кáпельку* і г. д.

Суфіксальныя варыянты назваў шчопці закартаграфаваны на карце № 272.

*шчóпаць* 10, 11, 100, 101, 116, 127. *шчóпыць* 41, 42. *шчóпта* 93, 133, 136. *шчóпця* 45. *шчóпцінка* 114, 117, 134. *шчóпінка* 114. *шчóпка* 23, 46, 102. *шчóпцік* 57. *шчóпатка* 7. *шчóпці* 27, 37, 48, 49а, 50, 51, 52а, 54, 55, 56, 57, 60, 61, 62, 99, 100, 104, 105. *шчóпты* 94. *шчóпцікі* 57.

*шчэ́паць* **46, 81, 86, 88, 129, 136.** *шчэ́пяць* 46. *шчэ́пыць* 44, 83, 84, 85, 89. *шчэ́піць* 82. *шчэпць* 129. *шчэ́пцік* 80. *шчэ́пчык* 82. *шчэпоцінка* 135. *шчэ́пці* 68, 123. *шчэ́патка* 21.

*з шчы́пту сóлі* 20. *з шчы́птачку* 20. *шчы́пці* 69. *шчы́пцэ* 49. *шчы́пты* 96а, 97. *шчíпты* 90, 95. *шчы́птэ* 92. *шчíптэ* 98. *шчíпты* 96, 103. *шчы́пачка* 22.

*шчупóк* 36, 131. *шчýпты* 91.

*шчапóць* 70, 87. *шчопóць* 140, 141. *шчоптá* 93, 133, 136. *шчапцінка* 121, 137. *шчапóтка* 5, 9, 75 (нов.), 78, 86 (нов., рэдка), 119, 124, 125, 126, 129, 130. *шчопóтка* 138. *шчапóтка* 16 (нов.). *шчапýтка* 126, 142. *шчапóк* 87, 127, 139. *шчапóтачка* 1, 19. *шчапціна* 114. *шчоптíна* 134.

*шчыпóтка* 43, 47, 71, 79, 118, 128. *шчыпýтка* 3. *шшыпóтка* 76. *шчыпóк* (солі) 8, 77. *шчыпунóк* (солі) 8.

*нюшóк* 2, 4, 6, 7, 12—14,16, 24, 25а, 28, 29, 33, 35, 39, 40, 57, 75. **нючóк 18. нюх 6,15,25, 26, 29, 58, 118, 124 *(нюх табáкі)*, 129 *(нюх—у два пáльца)*.**

*за нюх табакý* 16. *з нюх табáкі далá* 19. *ні за нюх табáкі* 84. *прапáў за нюх табáкі* 127.

*узяць у пáльцы* 38. *хоць трóмі пáльцамі зняць* 52. *дай сóлі, як панюхаць* 62. *узялá ў пáльцы сóлі, пéрцу* 66. *у пáльцы ўзялá* 67. *у пáльцы сóлі ўзяць* 72. *кáліва вазьмі ў пáльцы* 73. *у пáльцы сóлі* 102. *у пáльцы взяты* 108. *в пáльцы* 109. *вазьмі ў пáльцы* 110, 111. *шкадýючы пасаліў, тóлькі ў пáльцы* 115.

Адзінкавыя назвы: **персць, пéрсцячку** 32. *пýчкі* 32. *пýчкі* 107 *(пýчкі сóлі ўзілá)*. *у пýшкі* 112. *у пýчкі сóлі* 113.

Адведзены: *нямнóжка* 17. *трóшачку сóлі* 24. *трóхі* 30. *трóшкі* 65. *крышачку* 59, 64.

*жме́нька* 31, 34. *гросьць* 36. *ка́пля, жме́нька* 74, 78. *мачы́ну, дробы́нку (со́лы)* 94а. *друбэ̂нку, крэ̂шку* 98. *жмэ́ня, немно́жка* 106. *ка́пельку* 109. *тро́шкі* 120. *ка́пачку, тро́шычкі* 122. *кро́шкы* 132. *ка́пельку* 141.

### Карта № 272

## СУФІКСЫ Ў СЛОВЕ *ШЧОПАЦЬ* І ЯГО АДПАВЕДНІКАХ

№ 2287 «Я.н. невялікая колькасць солі, перцу (што можна ўзяць трыма пальцамі): нюшок, шчопці, шчопаць, шчэпаць...»

На дадзенай карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя варыянты назвы невялікай колькасці сыпучых рэчываў. Пры картаграфаванні ўлічаны галосны кораня, націск у слове, суфіксы. Адным знакам картаграфуюцца *шчо́пці* і *шчо́пця, шчо́пты* і *шчо́пта*. Як *шпо́пці* картаграфуецца *шчы́пцэ*, як *шчопо́к — шчупо́к*, як *шчо́пты — шчу́пты*, як *нюшо́к — нючо́к*.

*шчо́паць* 10, 11, 100, 101, 116. *шчо́пыць* 41, 42.

*шчэ̂паць* 46, 81, 86, 88, 129, 136. *шчэ̂пяць* 46. *шчэ̂пыць* 44, 83—85, 89. *шчэ̂піць* 82. *шчопо́ць* 140.

*шчо́патка* 7.

*шчэ̂патка* 21.

*шчапо́ць* 70, 87, 141.

*шчапо́тка* 5, 9, 16, 75, 78, 86, 119, 124, 125, 126, 129, 130, 138. *шчыпо́тка* 43, 47, 71, 79, 118, 128. *шша́потка* 16. *шшыпо́тка* 76.

*шчапу́тка* 126, 142. *шчыпу́тка* 3.

*шчо́пці* 27, 37, 48, 49а—51, 52а, 54—57, 60—62, 99, 100, 104, 105. *шчо́пця* 45.

*шчы́пці* 69. *шчы́пцэ* 49.

*шчэ̂пці* 68, 123.

*шчо́пты* 94. *шчо́пта* 20, 93, 133, 136. *шчу́пты* 91.

*шчы́пты* 96а, 97. *шчі́пты* 90, 95. *шчи́пты* 96, 103. *шчы́птэ* 92. *шчі́птэ* 98.

*шчапта́* 135. *шчопта́* 33.

*шчапо́к* 87, 127, 139. *шчыпо́к* 8. *шчупо́к* 36, 131.

*шчопціна* 114, 134.

*шчопцінка* 114, 117. *шчоптінка* 134.

*шчо́пка* 23, 46, 102.

*шчо́пцік* 57, 80. *шчо́пцікі* 57.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *шчапо́тачка* 1, 19. *з шчы́птачку* 20. *шчы́пачка* 22. *шчо́пінка* 114. *шчапцінка* 121, 137. *шчэпоцінка* 135.

*нюх* 6, 15, 25, 26, 29, 58, 118, 124, 129.

*нюшо́к* 2, 4, 6, 7, 12, 13, 14, 16, 24, 25а, 28, 29, 33, 35, 39, 40, 57, 75. *нючо́к* 18.

### Карта № 273

## ВАРЫЯНТЫ І АДПАВЕДНІКІ СЛОВА *ТРОХІ*

№ 2288 «Крышку, трошачку, цята...»

Картаграфуюцца прыслоўі са значэннем 'невялікая колькасць чаго-н.'. На карце адлюстраваны карані слоў. У лексеме *кры́ху* улічваецца якасць галоснага *-о- — -ы- (кры́ху , кро́ху)*.

*тро́ху* 1, 5, 16, 75, *тро́ха* 48, 104. *тро́хі* 30, 37, 56, 75, 85, 113, 118, 119, 120а, 128, 129, 136, 140. *тро́хы* 90, 96. *тро́шкі* 2, 27, 28, 38, 50, 54, 67, 70—81, 85—88, 91—93, 110, 112, 114—117, 119—121, 125, 126, 128, 130, 135—138. *тро́шку* 5, 8, 12—15, 25, 29, 34—36, 39—42, 44, 45, 63, 83, 84, 86, 110. *тро́шка* 2, 20, 59, 69, 83, 104. *тро́шко* 46, 47. *тро́шкы* 96, 96а, 131. *тро́шачкі* 2, 18, 21, 50 (памянш.), 52, 61, 73, 76, 86, 105, 110, 111, 118, 124, 127, 135, 139, 141. *тро́шочкі* 97. *тро́шечкі* 113, 134. *тро́шычкі* 43, 79, 87, 122. *тро́шачку* 3, 4, 6, 10, 11, 24, 25а, 26, 32, 33, 68, 75, 86, 126, 142. *тро́шычку* 90. *тро́шечка* 64, 69. *тро́шычкы* 96, 131.

*крыху́* 31, 58, 93 (без націску). *кры́ху* 23, 46, 129 (школьн.). *кры́шку* 17, 23, 45, 49, 50, 52а, 54, 55, 59, 60, 62, 87, 94а, 95, 101, 104, 111, 114, 125 (рэдк.). *крі́шку* 113. *крếшку* 98. *кры́шачку* 49а, 50 (памянш.), 64, 65, 99, 100. *кры́шычку* 7, 94—95. *кры́шэчку* 107, 134.

*кро́хі* 102. *кро́хы* 90, 94а, 95, 103, 108, 109, 132. *кро́ха* 103. *кро́хê* 98. *кро́шку* 21, 80. *кро́шкі* 102, 133. *кро́шкы* 108, 109, 132. *кро́шачку* 19, 22, 66, 80, 104. *кро́шычку* 90. *кро́шычкы* 132. *кро́шечкы* 108. *кро́шэчку* 135.

*ка́плю* 41, 103. *ка́пельку* 77, 86, 109. *ка́пільку* 44. *ка́пыльку* 96. *ка́пку* 74. *капелюшачку* 86.

*нямно́га* 9, 25. *нямно́жка* 17, 106, 129. *нямно́шка* 1, 9, 35, 83. *немно́жка* 123. *немно́шко* 51.

Адзінкавыя: *чуць-чуць* 30. *чуць* 114. *ця́та* 95. *кусо́к* 25. *(падлі кусо́к вады́, малака́). небага́тка* 120а.

### Карта № 274

## СЛОВА *ДРАБО́К* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 2289 «Я.н. маленькі кавалачак цукру: драбок, грудка, кусочак, кавалачак...»

Картаграфуюцца назвы кавалачка цукру. Фармальныя паказчыкі слова, суфіксы на карце не ўлічаны.

*драбо́к* 2, 3 *(ат кава́лачка)*, 4—6, 9 (солі), 13, 21, 24—28, 31—33, 36, 38, 40—43, 52а, 54, 60, 61, 63, 66, 67 (стар.), 68—72, 75—77, 81, 82, 87, 104, 106, 108, 110—112, 116, 118—122, 124, 129 (радзей), 132—136, 139—141, 142 (болей). *дробо́к* 97, 102, 117, 126, 132, 133. *друбо́к* 19 (солі). *драбё́к* 112. *дроб* 27 (солі). *дроп* 58 *(соль была́ ў драба́х)*. *друп* 18 (друбы́), драбо́чак 65, 70 (маленькі), 73, 110, 126, 139. *дробо́чок* 108, 134, 138. *дро́бачку цу́кру дай* 46. *дро́бачкі* 64.

*кусо́к* 58 (цукру), 84, 137 (маленькі), 139. *кусо́чак* 1, 8—11, 29 *(кусо́чка пескаво́га цу́кру)*, 36, 47, 48, 49а, 50 (радзей), 54, 56, 59, 61, 62, 67, 74, 75 (нов.), 80, 81, 86, 88, 105, 116—118, 127, 130, 139, 140, 142 (радзей). *кусо́чык* 7, 13, 14, 20, 31, 35, 40 (найбольш), 41, 44, 78, 79, 87, 89, 124, 125. *кусо́чъ̆к* 12, 39, 43, 85 (нов.). *кусо́чок* 90, 91, 93, 94, 96, 108, 109, 131, 132. *кусо́цык* 16. *кусо́чачак* 102.

*кава́лачак* 8 (трад.), 10, 11, 19, 20, 22, 23, 52, 54, 74, 100. *кава́лочок* 92, 94, 94а, 96, 102, 109, 134 (піленага цукру). *къ̆ва́лъ̆чык* 34. *кыва́лачык* 30. *кува́лычык* 89.

*гру́дка* 23, 79, 81—84, 86, 96а, 103, 104 (трад.), 123, 124, 128, 129. *гру́тка* 50, 54, 55, 56 *(гру́тку цу́кру накуса́я на кусо́чкі)*, 95, 96, 98, 113. *гру́дачка* 45, 105. *гру́дъ̆чка* 85, 86. *гру́дочка* 95, 96 *(ма́ленька)*, 103, 114. *гру́дычка* 79, 83. *грудо́чак* 22 *(цяпер сахар быва́іць у грудо́чках)*.

Адзінкавыя: *лі́шачку* 49. *граша́н, граша́нчык* 90. *камушо́к* 130. кро́шка 140.

Адведзена: *грудо́к* 29 *(ку́чачка пескаво́га цу́кру)*.

### Карта № 275

## СЛОВА *ДОСЫЦЬ* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 2290 «Якімі словамі абазначаецца дастатковая колькасць: до, досыць, годзе, даволі, хваціць, хо̂піць, хапіць...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя варыянты слоў, якія абазначаюць указанне на дастатковасць таго, што ёсць у наяўнасці.

Як *дос* картаграфуецца *дось* (3,4 пп.), як *до́сыць — досьць* (18 п.). Як *до́сы* картаграфуецца *до́сі, до́ся;* як *хва́ціць — хва́ця* (30, 38, 73, 75, 78—82, 128, 129), *хва́це* (74, 123), як *бу́дзе — бу́дзець* (35, 38).

*до́сыць* 2, 5—7, 9, 12, 14, 21 (рэдка), 23, 24, 26, 28, 29, 34, 35, 39, 41, 42, 44—46, 48, 50 (рэдка), 54, 57, 59, 60, 80, 88, 89, 91, 127, 129 (школьнае), 142. *до́саць* 1, 70. *до́сіць* 8, 10, 11, 20, 21, 25, 25а, 52, 62. *до́сить* 98. *до́сыть* 103, 109. *досьць* 18.

*до́сы* 58. *до́ся* 19. *до́сі* 47, 58.
*дос* 13, 33, 34, 37, 44, 74, 81, 83—86, 124, 128. *дось* 3, 4.
*до* 3, 6, 9—11, 20, 21, 27, 32, 34, 35, 41—44, 52а, 85.
*до́ка* 15.
*даво́лі* 16, 19, 38, 41, 43 (раней), 49а, 51, 54, 57, 61, 67, 72, 75, 80, 88, 93, 112, 119, 122, 124, 129, 140. *дово́лі* 94, 94а, 103, 114, 134, 135. *дово́ле* 90. *дово́лы* 95, 96. *дуво́ле* 98.
*даво́льна* 15, 17, 31, 35, 54, 82, 84, 89 (рэдка), 128. *дово́льно* 103, 108, 109, 132. *дово́льне* 113.
*хо́піць* 7, 23, 26, 43 (цяпер), 54, 57, 62, 67, 76, 84, 88, 100, 104, 117, 119, 121, 124, 125, 129, 142. *хо́піть* 98, 134. *хо́пыть* 103, 108. *хо́пiт* 94 (рэдка). *хо́пыт* 90, 94а, 132 (рэдка).
*ха́піць* 13, 44, 88, 127.
*хва́ціць* 1, 7, 9—11, 13, 14, 16, 21—23, 29, 33—36, 41, 42, 44, 46, 50, 54—56, 59, 61, 62, 64, 66—71, 76, 77, 83—89, 101, 104, 105, 107, 110, 111, 113 (нов.), 114—116, 120—122, 125, 126, 130, 133, 135—142. *хва́тіть* 98, 134. *хва́ціт* 93, 102. *хва́тит* 92, 94. *хва́тыть* 95—96а, 103, 108, 109, 131, 132. *хва́тыт* 90. *хва́тыть* 97. *хва́ця* 30, 38, 73, 75, 78—82, 128, 129. *хва́це* 74, 123.
*го́дзе* 23, 28, 31, 57, 67, 73 (устар.), 102, 139, 142. *го́дзі* 49, 50, 51, 54, 55, 60—62, 76, 81, 93, 106, 113, 114, 127—129. *го́ді* 94, 134. *го́дзя* 80. *го́ды* 90, 94а, 96, 103, 108, 109, 132. *го́де* 98.
*бу́дзіць* 35, 38. *бу́дзя* 50, 55, 63, 65, 99, 100, 104, 111, 118. *бу́дзе* 107, 113, 117, 119 (больш часта), 127. *бу́де* 96а, 103, 108. *бу́дэ* 97. *бу́дзя-бу́дзя* 77.

### Карта № 276

## ВАРЫЯНТЫ І АДПАВЕДНІКІ СЛОВА *СТОЛЬКІ*

№ 2292 «Прынесці столькі, тыля, такведе...»
Картаграфуецца слова *сто́лькі* і яго лексічныя адпаведнікі са значэннем 'менавіта такая колькасць', 'так многа'. Памяншальная форма *сто́лечкі* (2, 6, 122) картаграфуецца як *сто́лькі, стакве́ля, — як такве́ле* (19).
*сто́лькі* 1, 2, 3, 7—14, 16, 17, 19, 20, 22, 24, 25—39, 41—44, 46, 48, 52а, 54, 58, 59, 61, 63—67, 70—88, 93 *(стôлькі)*, 101, 104—106, 110—112, 115, 116, 118—121, 123—130, 133, 135—139, 141, 142. *сто́лька* 4, 5, 9, 15, 25, 40, 68, 69, 140. *сто́лько* 47, 60, 62, 94, 113, 134, 135. *сто́льку* 85. сту́лько 108. *сты́лькі* 97. *сты́лько* 91, 92, 95, 107. *сті́лько* 98, 109. *стї́лько* 90, 103. *стэ́лькі* 102. *сто́ка* 89. *сто́лячкі* 2, 122. *сто́лічкі* 6.
*то́лькі* 23, 114. *то́лько* 134. *ты́лько* 95, 131. *тї́лько* 90, 103. *ті́лько* 98, 109. *ту́лько* 108. *ту́лькы* 132.
*гэ́дулькі* 2, 21, 50. *гэ́дулька* 2. *гэ́тулька* 111. *гэ́тулькы* 94а. *гэ́тулічкі* 6. *ге́тї́лько* 103.
*такве́ле* 45, 46, 49а, 51, 54. *такве́ля* 18, 50, 55, 56, 60 (трад.). 99, 100. *стакве́ля* 19.
*ты́ля* 20, 52, 57 *(па-по́льску)*. *ты́ле* 46.

### Карта № 277

## СЛОВА *МНОГА* І ЯГО АДПАВЕДНІКІ

№ 2296 «Абазначэнні вялікай колькасці: многа, шмат (народу)...»
Картаграфуюцца лексічныя варыянты слоў, якія абазначаюць вялікую колькасць каго-н., чаго-н.
У 47 п. знак пастаўлены на аснове адказа *няшма́т*.
Пры картаграфаванні не ўлічаны метанімічныя варыянты слоў названай семантычнай групы, а таксама фразеалагічныя звароты, якія часта маюць эмацыянальную афарбоўку. Яны адзначаны ў наступных пунктах: 3, 6, 10, 16, 37, 43, 44, 47, 54, 66, 67, 72, 79, 81, 83, 84, 117, 128, 134, 136. Прычым, усе гэтыя варыянты існуюць побач з іншымі словамі, якія маюць значэнне 'вялікая колькасць'.
*мно́га* 1, 3, 5—9, 11—17, 21, 24, 25, 27 (пашыр.), 28, 29 (нов.) 30—46, 52, 52а, 54, 57—59, 63, 67, 68, 70, 72—75, 78—89, 99, 104 (трад. і цяпер.), 111, 116, 119 *(па-культу́рнаму)*, 125, 126, 129. *мно́го* 47, 49, 50, 51, 55, 56, 61, 62, 93—95, 100, 103 (рэдк.), 105, 106, 108 (нов.), 109 (нов. рэдк.), 110, 111 (рэдк.), 113, (нов.), 132 (рэдк.), *мны́га* 103. *мны́го* 90, 91, 95—96а, 97, 108, 131. *мні́го* 92, 98. *мны́гі* 102, 108. *мнэ́гі* 102.
*шмат* 4, 6, 10, 18—20, 22, 24, 25а, 26, 27 (трад.), 28, 29, (трад.), 37, 40 *(рэ́дка ад каго́ пачу́іш)*, 46, 48, 49а, 50 (радзей), 51, 54, 55 (часцей). 57, 58, 60, 62, 64—69, 71, 80 (рэдк.), 90, 93, 94, 96, 98, 99, 101, 103, 104, 108 (рэдк.), 109, 113 (рэдк.), 132, 134, 140. *зашма́т* 47.
*багата́* 29, 72, 75—77, 80, 81, 86 (рэдк.), 112, 116, 118, 120а—125, 126 (часцей), 127—130, 139, 141, 142. *бзга́та* 82, 84. *бага́то* 98, 103 (рэдк.), 109, 112, 113, 115, 119 (больш часта), 120, 134, 135, 136, 138. *бога́то* 102, 107, 114, 117, 132, 135—137.
Адзінкавыя: *цьма* 2, 43, 81, 89, 129. *цьна* 89. *ве́ля* 52.
Адведзены: *по́ўна* 3, 6, 10, 67, 72, 79, 89. *по́ўно* 136. *по́лна* 16. *плу́йма* 37. *про́цьма* 43, 44, *ву́ймо* 44. *грума́да* 47. *грума́до* 117. *страх* 10. *ку́ча* 81. *свет* 81. *ціжба́* 81, 84. *сі́ла* 128. *про́пасць* 134. *ма́са* 54. *су́мна* 66. *ды хале́ры, ды цяцю́хі* 84.

### Карта № 278

## СЛОВА *НЯМА*, ЯГО ВАРЫЯНТЫ І АДПАВЕДНІКІ

№ 3971(2)Адмоўныя часціцы: ...няма, нет, нетуці...»
Картаграфуюцца словы, якія абазначаюць адсутнасць каго-н., чаго-н.
Як *няма́шака* картаграфуецца *няма́ш, няма́шка* (пп. 84, 90, 94, 135), як *няма́ека — нема́ечка, няма́ешка* (95, 108, 109).
*няма́* 3, 18, 26, 31, 46, 48—49а, 59, 63, 65, 99, 104, 120а, 122, 126, 130, 140. *нема́* 9, 14, 59, 93, 94, 107—110, 113, 114, 116, 117, 120, 120а, 123, 133—138. *ні́ма́* 2, 5, 6, 8а, 10, 11, 17, 20—23, 25, 25а, 27—30, 32—44, 46, 47, 50, 51, 53—57, 59—62, 64, 67, 68, 70—89, 100, 102, 105, 106, 111, 112, 115, 118, 119, 121, 124, 125, 127, 129, 139, 140—142. *нима́* 98. *нэма́* 97, 131. *ныма́* 90—92, 94а—96а, 103, 132.
*нема́ш* 94, 135. *німа́ш* 44, 84. *ныма́ш* 90. *нема́шка* 135. *няма́шака* 104, 112. *нема́шэка* 113, 114, 135, *нэма́шэка* 94. *німа́шака* 23, 57, 61, 67, 79, 139, 141, 142. *німа́шыка* 88.
*нема́е* 94, 95, 103, 108, 133. *німа́е* 98, 113 (рэдк.), 132.
*нема́ека* 101, 102, 108, 109 (рэдк.), *ныма́ека* 94а, *ныма́іка* 132.
*нема́ечка* 108, 109. *ныма́ешка (кы)* 95.
*нет* 7, 8а (часцей), 9, 12, 13, 15—17, 130. *не́ту* 129.
*не́туці* 1, 4, 7—14, 16, 29, 35, 118, 129. *не́тыці* 85.

### Карта № 279

## СЛОВА *НЕ* І ЯГО ВАРЫЯНТЫ

№ 3971 «Адмоўныя часціцы: не, ні, неа, нека...»
Картаграфуецца пашырэнне адмоўных часціц, якія з'яўляюцца адмоўным адказам на пытанне або пры выказванні пярэчання, забароны *(не, я так не рабі́ў, не, не хадзі туды)* і да таго падобныя.
*не* 2—7, 8а—11, 13—18, 20—26, 28—32, 34, 35, 37—44, 46, 47, 49—58, 60—62, 65—76, 78, 81—89, 93—97, 98, 99, 102—104, 106—110, 113—120а, 123—142. *ні* 33. *ны* 91, 96а. *ни* 90. *нэ* 92.
*неа* 2, 5, 8а, 10, 11, 16, 21, 29, 30, 34, 35, 46, 47, 49, 50, 55, 57, 59—61, 64, 67,

71, 73, 75, 76, 79—84, 85 (рэдк.), 93 (маладые), 104, 118, 119, 124, 127—129, 134, 137, 138, 140. *нíа* 88. нéе 133.
*нéка* 43, 54.

### Карта № 280

## СЦВЯРДЖАЛЬНАЯ ЧАСЦІЦА *АЛЕ* І ЯЕ АДПАВЕДНІКІ

№ 3972 «Сцвярджальная часціца: да, ну, але, так... Ага.».

Картаграфуецца пашырэнне сцвярджальных часціц, якія прыведзены ў першай частцы пытання. Як *ну* картаграфуецца *ноо* (16). Другая частка пытання не картаграфуецца. Гэта часціца вельмі часта вымаўляецца з закрытым ротам і цяжка вызначыць яе фанетычны склад. Хутчэй за ўсё яна можа быць аднесена да гукавога сігнала, а не да слова. У радзе пунктаў зроблены наступныя заўвагі: 2 *ну* (вымаўляецца са сцятымі губамі, скрозь зубоў прабурнуць), 86 *йігі* (вымаўляецца з закрытым ротам), 90, 94а, 95, 96, 98, 108, 113 *йгй* (вымаўляецца з закрытым ротам). 103 *йгý* (пры вымаўленні першага гука рот прыадкрыты). Усе адказы прыведзены ў канцы спіса слоў да карты.

*але* 20, 26, 27, 46—51, 53—55, 57, 60—62, 64—67, 72, 73, 87, 89, 91, 92, 94—105, 109—114, 118, 132—134, 139. *оле* 107. *алэ* 131. *алі* 7.

*да* 3, 7, 12, 13, 15—18, 25а, 26, 28, 30—32, 35—37, 40—44, 52а, 53, 56, 62, 67, 73, 75, 78, 80—89, 96а, 97, 99, 105, 107, 117, 120, 124—130, 138, 139, 141, 142.

*так* 7, 8а, 10, 11, 14, 17, 21, 22, 28, 31—33, 37, 40—42, 46, 48, 50, 53—55, 57, 62, 65, 72, 73—76, 81—84, 86—88, 90, 92, 94—98, 103, 104, 106, 109, 112—114, 117—120, 125—127, 130, 134—141.

*гэ́дак* 21. *гэ́так* 107.

*ну* 5, 7, 9—11, 13, 14, 18—27, 30—33, 35—37, 39—44, 46, 48, 49, 50, 52—62, 67, 69—71, 73—89, 92—93, 94а—97, 98—105, 107, 109—116, 119, 120а—131, 133—142. *ноо* 16. *анý* 120а.

*нудá* 94.

*агá* 1—15, 17, 18, 21—23, 25а, 26, 28—34, 37—44, 47—49, 50, 52а—55, 57, 59—64, 67—72, 76, 78—83, 86, 90—100, 102, 103, 108—114, 121, 124, 128—133, 135—137, 139—142, *огý* 107, 109, 132. *угý* 95 (вёска Сіманаўка), 107. *ыгй 90. йгй* 90, 94, 94а, 96, 98, 108, 132, 135. *ігі* 38, 98. *йгý* 103. *ыгы́* 95 (Вулька Сіманаўская), 105, 108, 123, 129, 132. *эгé* 81, 119. *агé* 119. *агэ́* 122. *агý* 133.

### Карта № 281

## МАЛАДАЯ ДА ВЯСЕЛЛЯ

АЛА 2201 'невеста, женщина, имеющая жениха, будущая жена' невеста — zaručnica, verenica — narzeczona.

Картаграфуюцца назвы нявесты (да вяселля). Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах.

*маладáя* 10А, 31А, 50А. *молодáя* 43А. *мълыдáя* 38А. *мылыдáя* 39А.

*маладýха* 1А, 6А, 14А, 17А, 31А. *мъладýха* 8А. *мыладýха* 36А.

*нявéста* 5А, 15А, 16А, 19А, 21А—25А, 31А, 32А, 34А, 35А, 37А, 39А—42А, 46А, 55А, 58А, 59А, 61А—63А, 67А, 61, 115. *невéста* 53А, 57А, 65А, 66А. *нівéста* 7А, 8А. *нывíста* 64А.

*нявéстка* 3А, 4А.

*дзéўка* 33А, 50А, 51А, 60А. *дéўка* 45А, 47А. *дíўка* 48А, 52А, 64А.

*нарачóна* . *нажычóна* 44А, 50. *нажычóная* 13А. *нырачóная* 9А.

*заручóна* **54А.**

*ухажóрка* 18А, 29А, 49А, 67А, 70.

*кнегíня* 56А.

Адзінкавыя: *жанáчка* 11А. *засвáтаная* 12А. *кавалéра* 50. *кахáнка* 27А. *палюбóўніца* 27А. *панéнка* 30А.

Матэрыялы, выкарыстаныя з друкаваных прац. У дужках прыводзіцца нумар пункта, пад якім адпаведная назва картаграфуецца. Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970. С. 298 *нявéста* Залесавічы Крыч. (41А), Сахана, Міцкаўшчына, Мсц., (44), Гібалы Касц. (86). Палуж Краснап. (87). Вяселле. Абрад. Мн., 1978. С. 305 *заручóная* Рудск Пінскага пав. (103). Гура А. В. Из полесской свадебной терминологии. Свадебные чины (словарь: Б-М) // Славянское и балканское языкознание. Язык в этнокультурном аспекте. М., 1984. С. 160 *зарýчэнная* Спорава Бяроз. (94а). *зарýчоная* Арэхава Малар. (131). *заручóна* Зеляны Калінк. (122). *заручóнная* Скрыгалава Маз. (135). С 161 *княгíня* Валута Лун. (107). Стадолічы Лельч. (136). Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік Віцебск, 1927. С. 164 *княгíня* Рыбчына Сіроцінскага (14), Доўжа Кузняцоўскага (17), Любічы Беш. (15). Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. Быт белоруса. Вильна, 1912. С. 356. *мыладýхі* Шчэрбінская вол. Віцебскага пав. (21А). Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т. 3. Мн., 1982. С. 175 *нарачóная* Парэчча Гродз. (47). Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. Т. 1. Мн., 1990. С 238—239. *нажычóная* Залазоўе Віл., (25). Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972. С. 303 *нажэчóна* Швейляны Астр. (18).

### Карта № 282

## МАЛАДАЯ НА ВЯСЕЛЛІ

АЛА 2202 'женщина в день свадьбы': молодая — nevesta — panna młoda.

Картаграфуюцца назвы дзяўчыны, якая выходзіць замуж (на вяселлі). Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах.

*маладáя* 6А, 10А—19А, 26А—35А, 37А, 40А, 44А, 46А, 49А, 50А, 55А, 57А—63А, 66А, 67А, 50, 61, 70, 115. *маладá* 53А. *молодá* 52А, 54А, 65А. *молодáя* 43А, 45А, 47А, 48А, 51А, 56А. *мъладáя* 7А, 21А. *мълъдáя* 3А, 42А. *мълыдáя* 38А. *мылыдáя* **4А, 9А, 22А, 24А, 25А, 39А.**

*маладýха* 1А, 5А, 31А, 70. *молодýха* 45А, 48А, 64А. *мъладýха* 8А, 41А. *мыладýха* 23А, 24А, 26А.

*нявéста* 39А, 42А, 62А, 70. *нівéста* 7А.

Матэрыялы, выкарыстаныя з друкаваных прац. У дужках прыводзіцца нумар пункта, пад якім адпаведная назва картаграфуецца. Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970. С. 298 *нявéста* Залесавічы Крыч. (41А), Сохана Мсц. (44), Гібалы Касц. (86), Палуж Краснап. (87). С. 366 *нявéсты* Арцёмаўка Мілаславіцкага (88). Вяселле. Абрад. Мн., 1978. С. 367 *(па) княгíню* Курынская вол. Віцебскага пав. (17). С. 512 *(у) маладухí* Стаі Леп. (29). С. 525 *маладухí* Гараны, Гаравыя Пол. (9). Гура А. В. Из полесской свадебной терминологии. Свадебные чины (Словарь: Б-М) // Славянское и балканское языкознание. Язык в этнокультурном аспекте. М., 1984. С. 172 *молодýхою* Забалацце Брэсц. (92). С. 174, 175 *молодýха* Арэхава, Олтуш, Макраны Малар. (131). Гура А. В. Из полесской свадебной терминологии. Свадебные чины (словарь: Н — Свашка) // Славянский и балканский фольклор. Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М., 1986. С. 144, 145 *нявеста* Грабаўка, Клімаўка Гом. (125). С. 157 *нявéста* Прысна Ветк. (128). Дыялектны слоўнік Брэстчыны Мн., 1989. С. 39 *(у) княгíні* Любань Лун. (113). С. 135 *молодýха* Сушытніца Малар. (131). С. 284 *(з) молодýхію* Галоўчыцы Драг. (97). Жывое народнае слова. Мн., 1992. С. 52 *молодýха* Камянюкі Кам. (90). З народнага слоўніка. Мн., 1975. С. 300 *маладýха* Заазер'е Віл. (24). Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927. С. 98, 302 *(за, з) маладухáй* Альшанка Чашн. (33). С. 164 *княгíня* Рыбчына Сіроцінскага (14). С. 185 *(за) маладухáй* Стаішча Чашн. (33), Улляновічы Сен. (32). Панюціч К. М. Лексіка народных гаворак. Мн., 1976. С. 68 *маладýха* Арэхаўка Уш. (10). С. 73 *маладýху* Мажэйшчына Уш. (10), *(з) маладýхай* Наваселле Уш. (10), *маладýхі* Судзілавічы Уш. (11). Полесский этнолингвистический сборник. М., 1983. С. 265 *молодýха* Сіманавічы Драг. (95). Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. Быт белоруса. Вильна, 1912. С. 356 *мыладýхі* Шчэрбінская вол. Віцебскага пав. (21А). Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т. 3. Мн., 1982. С. 20 *маладýха*

